нутром выдасць сябе: у ягоны разлік не ўваходзіла гаварыць пра Марылю з кім бы то ні было, таксама як і пра сваю прычыннасць да ўладкавання яе ў мястэчку.

— Дык адкуль гэты чалавек, Хонан? — нібыта спрабавала разбудзіць Сыркіна ўедлівая местачкоўка, няйначай, размова такая кабеце патрэбна была ўжо не столькі дзеля спагады, з якой яна звярталася да бяздомнага чалавека, ганьбячы ягоных крыўдзіцеляў,— колькі для задавальнення звычайнага самалюбства, якое заняло ёй — от жа Сыркін, нябось, ведае гэтага вяскоўца, а таксама баіцца, не гаворыць!

Зразумеўшы, што местачкоўка не адступіцца лёгка, будзе доўга чаўпсці сабе вось так, пакуль не вырве ў Хоні адказу, Зазыба паспяшыў узяць на сябе размову.

— Не слухай ты яе, Хонан,— сказаў ён, зрабіўшы зморшчаны ад прыкрасці твар.— Табе тут зараз усяго нагаворыць! Ні я, ні Шарэйка не вінаваты, што так выйшла. Ды і ніхто не вінаваты. Цябе не было ў мястэчку, а хата пуставала. Ну, дзеўка і пасялілася ў тваю хату. Так што, бачыш... Магла чыю другую аблюбаваць, а выбрала тваю. І цяпер нічога не зробіш. Не чапацца ж табе праз гэта з немцамі, бо яна ж, мусіць, у іх служыць?

— І служыць, і...

— Ну, от,— нібыта ад радасці перабіў кабету Зазыба,— значыць, не трэба сядзець вам тут. Мазоліць вочы. Раз твая хата занята, перахадзі жыць з сынамі ў другую. Здаецца ж, у мястэчку вольных дамоў хапае.

Сыркін свядома заківаў галавой.

— Ну, то і ступай зараз жа,— падбадзёрыў яго Зазыба,— займай чый-небудзь дом з вашых бежанцаў ды і жыві, а то і праўда наклічаш... на сябе бяду якую.

Мусіць, дагэтуль Хонан нават і ў галаве не меў, што можна неяк абысціся ў мястэчку без свайго дома, што можна знайсці прытулак у іншым месцы, балазе апусцелых дамоў сапраўды хапала, але як сказаў пра гэта Зазыба, дык адразу нібыта павесялеў знутры — акурат у непагадзь, проці ночы, атрымаў запрашэнне на начлег.

Між іншым, здавалася, жанчыну, якая не толькі прысутнічала тут, а і актыўна ўдзельнічала ў вырашэнні справы, не задавальняў такі зыход, таму яна ажно

ступіла ў парыве наперад, стаўшы паміж Зазыбам і Сыркіным.

— Во, ён нарабіў шкоды, пазбавіў чалавека ўласнай страхі, а я раптам вінаватая?

— Ніхто цябе не вінаваціць! — паціснуў плячамі Зазыба, акурат выказваючы гэтым сваё недаўменне.

— Не, не абдурыш! — не здавалася тым часам уедлівая местачкоўка.— Не такая я капуха, каб ты мяне вакол пальца абвёў! І ты, Хонан, не вер яму! Сама, на свае вочы бачыла, як вы з Шарэйкам курву гэту прывозілі сюды! Нават магу сказаць, калі гэта было! На спаса, во калі!

— Вярзеш абы-што,— спрабуючы суняць жанчыну, строга, але разам з тым і лагодна сказаў Зазыба.— Усё ты бачыла, усё ты чула. А між іншым магла і памыліцца. Магла і не дагледзець як след.

— Памыліцца, не дагледзець,— крывячы губы і перадражніваючы словамі Зазыбу, як не залямантавала кабета.— Мне ж пакуль вочы не вырвала і вушы не пазатыкала!

— Ладна, дапусцім,— не губляючы разважлівага тону, паблажліва ўсміхнуўся Зазыба,— думаў, хоць гэтым выкліча ў жанчыны душэўнае ўтрапенне, каб звесці пасля гаворку да звычайнага чалавечага ладу, злашча што як грамадзянін Зазыба не мог не разумець, якія пачуцці кіравалі кабетай,— урэшце, яна гаварыла чыстую праўду; іншая справа, што яе праўда была не да месца, пагражаючы нанесці шкоду; з другога боку, гэтую недарэчную гаворку, якая з кожнай хвілінай перарастала ў звычайны лямант, трэба было край скончыць; таму Зазыба адкрыта спытаў: — Але якая табе карысць? Ну, няхай Хонан, яму ёсць пра што клапаціцца, а табе якая карысць?

— А што чалавеку няма дзе прытуліць дзяцей, дык...

— Вось гэта ўжо іншая гаворка,— паспяшаўся Зазыба,— калі ўжо так выйшла, што гаспадара не пускаюць у хату, то запрасіла б яго да сябе.

— Я? — як не жахнулася местачкоўка.

— А чаму б і не?

— Дык...

— Бачыш, Хонан,— скарыстаўшы яе збянтэжанасць, звярнуўся да Сыркіна Зазыба,— я праўду табе кажу, не сядзі тут, ідзі куды-небудзь са сваімі хлопцамі

ў вольную хату, а то гэтыя жаласлівыя местачкоўцы яшчэ доўга будуць душу табе атручваць.

Яўрэй зноў, згаджаючыся, заківаў галавой.

Тады і жанчына акурат спахапілася, што чужы чалавек мае большую рацыю, пачала падказваць:

— Млынароў дом, здаецца, таксама пусты дасюль.— Да таго ж Зазыбава прапанова адпавядала цяпер і яе жаданню — а раптам і праўда давядзецца весці гэтых яўрэяў у дом к сабе?

Не чакаючы бацькавай каманды, Хоневы хлопцы пабралі [redacted] муравы рэчы, якія прынеслі з сабой. Адарваўся ад зямлі і сам Сыркін, пакутліва разгінаючы натруджаныя, пабітыя, а за час сядзення і адубелыя, ногі.

— А ведаеш, з кім мы ішлі дарогай? — Выраз твару цяпер у яго быў такі, усё роўна як адно гэта ўвесь час ён і меў у галаве і зусім не слухаў, аб чым спрачаліся над ім і гэты верамейкаўскі мужык, і гэтая знаёмая кабета, лічы, суседка, бо іхнія двары мала што не стаялі страха да страхі.— З Чубарам вашым, вось [redacted] кім!

— З Чубарам? — не паверыў Зазыба.— Калі гэта было? Сёння?

— Не, раней. Мы ў Мяльку затрымаліся былі, пажылі трохі, а ён далей пайшоў.

## X

Яшніца стаяла пры вялікім паштовым тракце, мусіць, пры такім жа старым, як і само мястэчка. Пакуль не збудавалі чыгунку з Унечы на Оршу, тракт быў адзінай праезджай, гэта значыць, упарадкаванай дарогай працягласцю, можа, у сто вёрст, якая злучала павятовы горад з валаснымі мястэчкамі і вялікімі станавымі сёламі. Акрамя таго, па ім можна было трапіць адразу за межы павета — перш за ўсё ў Чарнігаўшчыну, да якой у той час належалі і Навазыбкаў, і Клінцы, і Старадуб, і Унеча, і Сураж... Можна сабе ўявіць, колькі тут праехала-прамчала тады ў абодва канцы шыкоўных фаэтонаў, рэсорных брычак, паштовых карэт, а найбольш, канечне, сялянскіх вазоў! Чыгунка цалкам перайначыла шляхі зносін у гэтай мясцовасці. З уводам яе ў дзеянне ўжо не знаходзілася ахвот-

нікаў пераадольваць тыя сто вёрст нават у самых нядрогкіх фаэтонах. Зразумела, што і стары тракт паступова зрабіўся непатрэбны вялікаму мноству людзей, цяпер па ім ездзілі ахвочыя ў госці ці па якой гаспадарчай патрэбе адно ад мястэчка да мястэчка, ад сяла да сяла, ад вёскі да вёскі. Ды і трактам яго перасталі называць — проста дарога, бальшак...

Але пачалася гэтая вайна, і забыты тракт зноў зрабіўся людным і шумным. Спярша па ім з цяжкімі баямі адступалі ад Сажа 21-я кавалерыйская і 132-я стралковая дывізіі, якія трапілі ў акружэнне ў Гусарскіх лясах. Пасля, у жніўні, старыя бярозавыя прысады абапал яго нішчылі гусеніцамі танкі Гударыяна. Цяпер жа па ім рухаліся вайсковыя часці ўжо ці не трэцяга эшалона 2-й танкавай групы, што была павернута з раёна Крычава на поўдзень.

Якраз як прыйсці верамейкаўскім кабетам у Яшніцу, у мястэчку спынілася адна такая вайсковая часць, рота аўтатранспартнага батальёна танкавай дывізіі. Скрозь па вуліцы стаялі збочаныя направа, у напрамку руху, крытыя грузавікі. Салдаты, якія ехалі на гэтых грузавіках, скарыстоўвалі прывал, як і належыць у такім выпадку: адны тапталіся нечага без усялякае справы між машын, другія, задраўшы ўгору зады, корпаліся ў маторах пад узнятымі капотамі, а то найбольш сядзелі купкамі на процілеглай абочыне, сілкаваліся дарожным пайком, гаманілі прыстойна альбо рагаталі — гэта ўжо ў залежнасці ад таго, дзе якая кампанія сабралася і што каму рупіла. Але ўсё ж салдат на гэтыя машыны, якія занялі ад скрыжавання ўдоўж усю местачковую вуліцу — як глянуць з канца ў канец яе,— было мала, бо на грузавіках пад тэнтамі ляжаў баявы і іншы вайсковы груз, які суправаджала канвойная каманда. А гэта, як кажуць, не для жаночага розуму. Затое верамейкаўскім кабетам адразу кінулася ў вочы тая купка немцаў, што стоўпілася вакол лаўкі, зробленай ля плота з дошкі на двух укопаных у зямлю кароткіх слупах. Такія лаўкі ў вёсцы звычайна робяць каля сваіх хат ледзь не ўсе гаспадары, ну, а мястэчка таксама далёка к гораду не падышло, у тым ліку і Яшніца. Праўда, мала хто выносіў лаўкі свае вось гэтак за вароты, часцей іх рабілі пад вокнамі ў двары, а калі і знадворку, дык таксама недзе пад самымі вокнамі. Гэтая ж лаўка была ўкопана кро-

кі за тры ад сцежкі, што вілася па абочыне; ды і сама хата стаяла блізка да вулічнай дарогі, яе аддзяляў ад дарогі толькі вузкі абабіты штакетнікам гародчык, які завецца палісаднікам, дзе звычайна растуць высокія мальвы ды кусціцца бэз.

Чым бліжэй падыходзілі жанчыны да скрыжавання, тым больш станавілася зразумела, чаму стоўпіліся немцы — з сярэдзіны круга ўсё выразней далятали гукі губнога гармоніка, чуўся знарочысты тупат ботаў, няйначай, хтосьці ў скоках размінаў здранцвелыя за доўгае сядзенне ў машыне ногі. І як бы ні былі захоплены ў гэты момант немцы, як бы ні пацяшаў іх сваім спрытам нейкі заліхвацкі саслужывец, але не заўважыць верамейкаўскіх жанок не маглі. Для іх, чамусьці, таксама цікава было ўбачыць разам столькі кабет. Таму гармонік ля лаўкі раптам сціх, салдаты павярнуліся да вуліцы, і адзін весялун, нізкі і таўсматы, акурат добра начыненая мясам сардэлка, з усмешлівымі, нават галузаватымі вачамі рушыў, распасціраючы рукі і прысядаючы, напярэймы жанчынам, усё роўна як збіраўся злавіць такім чынам цэлую чараду гусей, таму баяўся, што якая-небудзь праскочыць міма. Астатнія немцы ўсяго толькі падаліся трохі бліжэй, пастаўшы, нібыта ў прывычным ачапленні, па краі травяністай абочыны, ды весела, як на нечаканую забаву, якая мелася пачацца неўзабаве, талопілі вочы на крыўлянне, што рабіў іх таварыш. Той, між тым, ужо набліжаўся да кабет, клыпаючы ўсё далей на сагнутых нагах і валёхаючыся з боку на бок. На гэта, мусіць, сапраўды было смешна глядзець, таму ўсё больш да скрыжавання збягалася салдат з усяе расцягнутай па мястэчковай вуліцы аўтакалоны. Сёй-той ужо браўся ажно за бакі ад смеху, падказваючы кожны са свайго месца пракуду:

— Пак дас глюк байм Ціпфэль, Максі, зі іст ім брайтэнрок!*

— Фасэ мір ды...**

— Мір ды дыкэ, дас...***

— Мір аўх...****

— Га-га-га, га-га-га!..

* — Макс, хапай шчасце за кудлы, твая ў шырокай спадніцы!
** — А мне злаві тую, што...
*** — А мне таўсцейшую, каб...
**** — А мне... *(ням.)*

Тым часам ніхто з верамейкаўскіх жанок,— а на вуліцы, акрамя іх, ніякіх другіх не было,— не меў ахвоты «лавіцца». Спярша, калі рушыў ад натоўпу напярэймы ім гэты таўсматы немец, бадай, і праўда вялікі пракуда, жанчыны толькі здзіўлена насцярожыліся: надта падобна было тое, што ён цяпер вырабляў, на звычайную няхітрую гульню-забаву, на якую здатныя былі і вясковыя дзецюкі; у кожным разе д'ябла ў ім ніхто пакуль не бачыў, хутчэй яны пазіралі на яго, як на ражанага, якога падгаварылі вось гэтыя, таксама пераадзетыя, дзецюкі, што ажно заходзіліся вакол у забаўным рогаце. Але падманлівае адчуванне, дакладней, падманлівае ўяўленне, усё-такі прайшло хутка: раптам у галовы маланкай цюкнула — ніякі гэта не ражаны, ніхто яго не падгаворваў і не наймаў; гэта — немец, і рагочуць вакол таксама не вясковыя дзецюкі ў храмавое свята, а немцы!.. І першая кабета, якой хутчэй за ўсіх прыйшло гэтае ўсведамленне, утарапела прыпынілася на дарозе, быццам з'явілася неабходнасць паправіць на хаду чаравік, тады шарахнулася назад, стварыўшы ў сваім натоўпе замяшанне, а гэтага ў сваю чаргу ўжо хапіла, каб хтосьці другі збянтэжана войкнуў, хоць, можа, яшчэ і не зусім свядома; у наступны момант верамейкаўскія кабеты страпянуліся разам і, падаўшыся назад, з віскам кінуліся раптам, бы сапраўды тыя дамашнія птушкі, на два бакі — назад і ўлева, бо справа стаялі грузавікі, а злева падыходзіў з распасцёртымі рукамі гэты крыўляка-немец; пры тым не ўсе салдаткі адразу спалохаліся, каб з аднолькавым жахам разбегчыся; былі і такія, што проста паддаліся агульнаму настрою, больш ахопленыя пачуццём цікаўнага жаночага заміранья, чым бояззю. Звычайна пры традыцыйнай такой гульні-забаве трапляе ў рукі нехта адна — ці тая, што даўно ўлюбавана, ці тая, што забавіцца і не паспее адскочыць, а то і сама мае тайнае жаданне пабываць у абдымках. Але гэта калі свая, як кажуць, пажондная кампанія. Тут жа наўрад ці хацелася каму трапіць у рукі да немца. А паколькі зусім пазбегнуць такой долі нельга было, бо немец жартаваў не так сабе, дык апынулася бліжэй за ўсіх да яго Роза Самусёва. Спярша яна проста забавілася, можа, і праўда не зусім зразумела, чаго хацеў, рушыўшы напярэймы, немец, пасля, калі раптам кінуліся назад яе спадарожніцы, было

позна — Розу выпхнулі неўзнарок, быццам віхорам, ледзь не з самай сярэдзіны на край натоўпу іншыя, больш спрытныя салдаткі, і яна, бачачы, што зараз застанецца адна супраць немца, скочыла ў другі бок, туды, дзе стаялі паўз плот крытыя грузавікі. На што яна спадзявалася пры гэтым, сказаць цяжка, бо там увачавідкі была гатовая лавушка — грузавікі стаялі ў самы прытык да плота, утвараючы кожны невялікі закутак, з якога ўжо далей не было ходу. Крайні грузавік таксама быў прыпёрты да плота, і Роза апынулася ў закутку паміж ім і высокім плотам, скіданым з жэрдзяў, цераз якія адразу нават мужык ці пераскочыць, замітусілася, нібыта матылёк, што нечакана трапіў праз фортку ў моцна засвечаны пакой. Цяпер немцу зусім не складала цяжкасці злавіць яе тут. Але той не спяшаўся кідацца насустрач. Усё ішоў так, прысядаючы, з расстаўленымі рукамі, калываўся з боку на бок, акурат гусак, і толькі блудлівыя вочы з кожным крокам закіпалі пажадлівай чырванню. Роза, сцяўшыся ўся, адступала да плота, бліскучыя чорныя вочы яе наліваліся ўтрапёнымі слязамі, хоць яна і не плакала яшчэ. Але вось яна датыкнулася спіной да плота і, зразумеўшы, што ёй няма куды дзецца адсюль, затупала ў адчаі нагамі, усё роўна як маленькая, якую збіраліся пакраўдзіць, залямантавала, бы заенчыла:

— А ма-а-амачка, а што ж ета!..

Нарэшце немец зусім наблізіўся, умомант выпрастаўся і, хапаючыся рукамі за жэрдзь, стаў прыціскаць Розу сваім перадам да плота. Але плот быў нахілены трохі к вуліцы, таму Роза паспела павярнуцца бокам, стуліцца, моцна ўпіраючыся локцем левай рукі немцу ў грудзі. І як толькі ўдалося зрабіць ёй так, той адразу адчуў, што ўражання, на якое разлічваў, пачаўшы гэтае відовішча, ужо няздольны будзе здзейсніць. Таму ён, нягледзячы на сваю пажадлівасць, тут жа адступіўся ад плота, неяк ажно па-смешнаму закідваючы назад галаву, быццам асцерагаўся, што Роза, вызваліўшы другую руку, паласне ногцямі па ягоным твары.

Вядома, у такім разе ўсё магло б сапраўды скончыцца адной забавай. Яе, гэтакай забавы, хапіла б урэшце і для яго, і для тых, хто з рогатам назіраў за ўсім ды падбухторваў, бо маладую рускую кабету ці нават дзеўку ён усё-ткі прыціснуў да плота. Але

разам з тым у душы пажадлівага пракуды засталася нездаволенасць, нават злосць на гэтую ўпартую славянку — сам-то ён добра ведаў, што вымушаны быў адступіцца ад яе. Ён адчуў яшчэ з першага дотыку да яе, як яна супраціўлялася, і супраціўлялася без прытворства. А спыніць гэтае ўнутранае яе супраціўленне тут ён не здольны быў. І вось самалюбівая злосць нечакана падказала яму іншае. Раптам няўдачлівы Макс разгледзеў, што жанчына, якая стаіць сцяўшыся перад ім, мае выразнае падабенства з яўрэйкай — яна такая ж чарнявая з твару, валавокая, з кучаравымі, як смоль, валасамі, якія скрозь пабраліся дробнымі бліскучымі хвалькамі.

— Юдын!* — узрадваўся ён свайму нечаканаму адкрыццю і, злавіўшы Розу за руку, пацягнуў за сабой цераз дарогу.— Юдын! — весела крыкнуў ён і сваім таварышам, якія адразу перасталі рагатаць.

Між тым другія верамейкаўскія жанкі, адбегшыся, адчулі, што ім больш нічога не пагражае, таму спыніліся і пасталі гуртам крокаў за сотню ад скрыжавання на дарозе. Роза ўжо к таму часу была заслонена з усіх бакоў нямецкімі салдатамі, і ўбачыць яе не было магчымасці. Вядома, кожная з кабет разумела, што замест Розы ў такім становішчы магла апынуцца і яна і што гэта толькі выпадак, што немцу ў рукі вось трапіла Роза. Неабходна было выручаць Розу. Але як гэта зрабіць і хто адважыцца пайсці туды? Разам з тым асобныя верамейкаўскія кабеты пакуль былі настроены так, што нічога небяспечнага з Розай не павінна здарыцца. Можа, адно напалохаюць там, а тады адпусцяць. Ведама ж — салдатня. І ўжо зусім нікому ў голаў не магло прыйсці, што немцы палічылі Розу за яўрэйку.

Дзіўна, але немцы таксама як не збянтэжаны былі гэтакай нечаканасцю: трэба ж, каб пустая забава раптам скончылася так? Сёй-той пачаў насміхацца з няўдачлівага пракуды, маўляў, добра, што хоць хапіла розуму агледзецца, а то б увачавідкі змяшаў арыйскую кроў з яўрэйскай... Але большасць салдат, што абступілі цяпер спалоханую Розу, якая зусім яшчэ і не здагадвалася, за каго яе прымаюць немцы, ужо стаялі нахмураныя і пазіралі з адкрытай непрыязнасцю, ка-

* — *Яўрэйка! (ням.)*

16—2640

лі нават не варожасцю, усё роўна як гэтая чарнявая жанчына толькі што зрабіла нешта вельмі непрыстойнае ў дачыненні да іх, абакрала альбо, самае меншае, падманула. Макс, які прыцягнуў сюды Розу, паступова быў адціснуты назад, цяпер наперадзе, супраць яе, стаялі другія немцы. Яны не тузалі яе, нават не дакраналіся ні да чаго, але Роза хутка пачала адчуваць іхнюю варожасць да сябе па галасах і па выгляду. Яна стаяла пасярод неспакойнага натоўпу, халаднеючы целам і душой. Нарэшце высокі немец у акулярах, якія былі чамусьці шырэй за яго даўгаваты твар, тыцнуў пальцам ледзь не ў грудзі жанчыне, спытаўся:

— Юдын?

Роза не зразумела, чаго ад яе хочуць.

Тады высокі немец больш настойліва, дакладней, больш гучным голасам паўтарыў запытанне, але ўжо не тыцкаючы пальцам. Слова, якое ён другі раз вымавіў, гучала для Розы не выразна, чамусьці думалася, што гэта цалкам нямецкае слова, і ёй яно зусім незразумелае, нягледзячы на тое, што вельмі хацелася ўлавіць сэнс яго. Пры гэтым ёй здавалася, што калі б яна адказала на пытанне, то адразу скончылася б гэтая недарэчнасць і яе больш не затрымлівалі б тут. Дзіўна, але цяпер ёй не столькі страшна было, колькі яна адчувала сябе вінаватай, што не разумее немцаў, і яна плюскала вачамі, спрабуючы нават усміхнуцца. Між тым вымушаная ўсмешка яе і выгляд увесь для немцаў зрабіліся, як выклік, прыкрыты праставатасцю, бо яны чакалі ад Розы зусім іншага, а не гэтай вінаватай усмешкі, што ішла, як ім здавалася, ад хітрай наіўнасці, таму маўчанне яе нарэшце пачало выклікаць у іх проста лютасць.

Пытаўся ўвесь час адзін немец. І кожны раз ён звяртаўся да яе з адным і тым жа словам:

— Юдын?

Такі допыт, вядома, пры яе няўцямлівасці мог цягнуцца бясконца, а мог скончыцца і хутка, звычайнай расправай.

— Бабы, дак што ета мы стоімо тута? — раптам захвалявалася ў сваім натоўпе Дуня Пракопкіна, што немцы доўга не адпускаюць сяброўку.— Яна ж тама!.. Бабы, дак што ж ета мы, а? — дакорліва, ледзь не са злосцю і крыўдлівымі слязьмі ў вачах крыкнула яна і,

не чакаючы нікога за сабой, рушыла да немцаў, якія трымалі ў сваім коле Розу.

Яна пакладалася цалкам на ўдачу — ат, што будзе, то й будзе!..

Калі падышла блізка да немцаў, тыя ўсе талопілі вочы на Розу, таму ніхто нават не звярнуў на другую жанчыну ўвагі. Тады Дуня рашыла прабрацца ў сярэдзіну натоўпу, дзе стаяла Роза. Дуня і цяпер яшчэ не бачыла Розы, яе засланялі сабой салдаты. Усё роўна як нездаволеная тым, што яе не заўважаюць і не даюць праходу к сяброўцы, Дуня асцярожна, але рашуча распіхнула локцямі крайніх немцаў, што стаялі заспіной да яе, і пачала праціскацца далей. Яе не затрымлівалі. Здавалася, нават з ахвотай прапускалі ўсярэдзіну, адно кіне хто з салдат нібыта здзіўлены позірк, а тады адвернецца, каб пачуць да канца размову, якая пакуль не давала вынікаў. Але вось Дуня прабілася наперад, абвяла дакорлівым позіркам вакол сябе і, звяртаючыся да Розы, сказала з тым жа дакорам, што быў у вачах:

— Якая бессаромная! Мы цябе чакаем тама, а ты!..

Яна, нават сама не думаючы таго, зрабіла выгляд, што Роза знарок тут бавіцца, а не тое, што яе затрымліваюць. Пры гэтым Дуня ўжо зусім не баялася — выйшла наадварот, пакуль працярэблівала сабе дарогу, распіхваючы локцямі немцаў, то ў адзін, то ў другі бок, страх, з якім яна падыходзіла сюды, перастаў калаціць яе, і яна адчула ў сабе здольнасць спакойна стаяць у чужым акружэнні і не менш спакойна размаўляць. Яна толькі не здагадвалася, што сярод немцаў не было ніводнага, хто б ведаў яе мову. Таму, кінуўшы Розе гэтыя колькі слоў, яна тут жа, як раўнюткая, пачала ўшчуваць... немцаў, якія цяпер, убачыўшы яе пасярод свайго натоўпу, акурат збянтэжыліся.

— Што вы чапляецеся да яе? Ей ісці трэба, вунь бабы стаяць, чакаюць, а вы затрымліваеце!

Ушчуванне яе, вядома, прагучала нібыта ў скляпенні, адкуль перад тым павыходзілі людзі; але рашучасць, з якой паводзіла сябе сярод немцаў Дуня, не магла застацца не заўважанай, яна адбівалася перш за ўсё на твары яе, а наймацней у голасе, у тым амаль незалежным тоне, які ўдалося ёй узяць ці не адразу. Немец у акулярах, да якога яна звярталася, нават не думаючы, што гэта ён тут цяпер за галоўнага,— проста

раней ён стаяў насупраць Розы, а цяпер, калі была тут і Дуня, апынуўся і насупраць Дуні,— дык гэты немец, бадай, быў першы, хто адчуў яе тон. Здавалася, чужая незалежнасць павінна была б раззлаваць яго, аднак ён не раззлаваўся, толькі абурана, усё роўна як вымушаны быў тлумачыць ёй, сказаў, паказваючы на Розу:

— Зі іст юдын? *

Не ў прыклад Розе Дуня адразу ўцяміла сэнс аднаго з гэтых слоў — «юдын». Дарэчы, Роза цяпер таксама зразумела немца, мажа, якраз таму, што побач стаяла сяброўка. Дуніна рашучасць, з якой яна прабілася сюды, у сярэдзіну круга, і з якой паводзіла сябе тут, нарэшце вярнула Розе здольнасць нармальна, без утрапёнасці, што туманіла розум, валодаць сабой. Але яна чамусьці не спалохалася, адкрыўшы раптам, што немцы палічылі яе за яўрэйку. Яна толькі дужа здзівілася гэтаму, і на твары яе адбілася новае хваляванне, ніколькі не падобнае на ранейшае, калі нічога не ведала і ні пра што не здагадвалася. Амаль гневаючыся, яна з неўразуменнем бліснула вачамі на Дуню, сказала, акурат скардзячыся, з надрывам:

— Што яны выдумваюць? Якая яўрэйка я? Скажы хоць ты ім, а то да цёмнага будуць трымаць, не адпусцяць.

— Ладна, я скажу,— кіўнула ёй разважлівая Дуня.— Але пакуль гаварыць ды тлумачыць буду, ты не стой, бяжы хутчэй адсюль. Бяжы вунь к бабам.

— Як ета?

— А так што, бяжы, і ўсё тута! — злуючыся на Розіну някемлівасць, ажно павысіла голас Дуня.

Роза згодна кіўнула галавой, хоць наўрад ці па-сапраўднаму думала над тым — бяжы, і ўсё тут!.. Адно — сказаць. Зусім другое — зрабіць гэта, калі вакол, амаль плячо ў плячо, ды яшчэ ў некалькі радоў, стаяць салдаты, якія не толькі не разумеюць цябе, але і варожа настроены. Ды і прысутнасць знаёмага і блізкага чалавека, як ёй здавалася, рабіла знаходжанне тут не такім ужо небяспечным.

Немцы чакалі, між тым, адказу. Але ўжо не ад Розы, не. Яны чакалі сабе адказу ад гэтай русявай і мілай з выгляду жанчыны, дарма што славянкі, якая не

---

* — Яна — яўрэйка? *(ням.)*

цабаялася прыйсці сюды сама і стаць побач с яўрэйкай. Смелы і, здавалася, неразважлівы ўчынак падзейнічаў на іх, таму яны нават не сталі чыніць перашкоды, калі жанчыны пачалі перамаўляцца паміж сабой на не зразумелай для іх мове.

Дуня даволі хутка ўцяміла, што цяпер менавіта ад яе немцы чакаюць адказу. Якраз таму яна і сказала Розе, каб тая непрыкметна падавалася да верамейкаўскіх баб. Але яна не запярэчыла немцам адразу, спачатку сама была збіта з панталыку — чаго-чаго, а гэтага, што выдумалі цяпер пра Розу, і ўявіць цяжка. Думала, немцы, дурэючы, і праўда кінуліся ў забаву. На справе ж выходзіла іначай.

— Не, пан, Роза — не юда,— нарэшце сказала Дуня, гледзячы скрозь шкельцы акуляраў у нецярплівыя вочы высокага немца.— Яна не яўрэйка. Яна — наша. Мы ж з адной вёскі, дак і яна беларуска, як і ўсе мы тама. Не, пан, Роза...

Яна яшчэ не паспела давесці сваё, як убачыла — чыесьці закасаныя па локці рукі пацягнуліся спераду да Розы, гатовыя ўчапіцца ёй у курчавыя, схопленыя на патыліцы карычневай стужкай, валасы; зноў загаманілі, ажно закрычалі кругом чужымі галасамі салдаты; Дуня ад гэтага вэрхалу схамянулася і ў той жа момант зразумела, што словы яе займелі нейкае адваротнае дзеянне. Яшчэ не ведаючы дакладна, у чым справа, яна памкнулася загарадзіць сабой сяброўку і найперш з усяе моцы, на якую хапіла замахнуцца, пляснула немца па закасаных руках.

— А лю-юдзечкі, што ж ета ро-біцца! — услед за гэтым у бяссільнай роспачы залямантавала кабета, акурат спадзявалася, што нехта блізка пашкадуе.

Але прыйсці на дапамогу не было каму, нават калі б хто і памеў адвагу,— акрамя верамейкаўскіх баб, якія стаялі гуртам на дарозе, на ўсёй гэтай вуліцы, занятай нямецкімі салдатамі і грузавікамі, не траплялася воку ніводнай іншай душы.

Тыя ж закасаныя рукі, што не дацягнуліся да Розы,— яны адно пахіснуліся ўніз ад удару жанчыны,— не мяняючы напрамку, тыцнуліся Дуні ў грудзі, і Дуня адчула, як учэпістыя пальцы пачалі сціскаць шаўковую блузку, загаляючы і здзіраючы яе са спіны. Дасюль Дуня рабіла ўсё акурат неўзнарок, падпарадкоўваючыся толькі кароткім унутраным штуршкам, якія

хутчэй былі вынікам не заўсёды асэнсаванага пратэсту — дзіва што, крыўдзілі яе сяброўку! — а тут зразумела раптам, што небяспека ўжо стала пагражаць самой. Умомант яна напружынілася ўся, налілася непрытворнай, а ўжо сапраўднай злосцю і моцна ўхапіла немца за запясці коўзкіх ад насычання бензінам рук, патрымала іх у адным становішчы, быццам яшчэ не цалкам верачы, што падолее мужчыну, тады моцным штуршком уніз адарвала ад сябе, ажно паляцелі ў самой, быццам пырхнулі адкуль, эмалевыя гузікі з блузкі. Цяпер, калі ніхто не гнуў яе галаву кнізу, Дуня ўбачыла немцаў твар, перш за ўсё чырвоную, у палец шырынёй, палоску пад левым вокам, якая, няйначай, была нейкім абгарэлым следам,— альбо ў дзяцінстве падпякло блазнюка чым, альбо ўжо цяпер, на вайне, зачапіла,— затым вочы, мутныя і набрынялыя невыразнай вадкасцю, усё роўна як ў п'янага, бо ў іх не толькі не было прыкметна разумнага бляску, але і жывой рухомасці. Здавалася, гэтага намагання яе хапіла ўжо, каб немец зусім адчапіўся. Ды дзе там! Той нават і не збіраўся выпроставаць да яе свае закасаныя, з растапыранымі пальцамі рукі, наважаючыся ўхапіцца за расхрыстаныя грудзі, на якіх яна не паспела захіснуць блузку. Тады Дуня рашылася на самае простае, да чаго звяртаюцца ўжо ў апошнім выпадку ўсе жанчыны,— раптам з агідай плюнула гвалтаўніку ў твар. Але гэта было ўжо, як кажуць у такім разе, зусім занадта. Нават немец у акулярах, які лічыўся ці не старэйшым у іх, і той падаўся назад, баючыся, што калі не адумаецца і не сціхне гэтая жанчына, то наступны плявок атрымае ён, як самы, бадай, блізкі.

— Фэстнэмэн! * — крыкнуў ён зрывістым голасам і для пэўнасці яшчэ ўзняў на ўзровень сваіх вачэй вывернутую вонкі далонь, маючы намер засланіцца так.

Дуня больш не абаранялася ад немцаў і сама не нападала. Здавалася, у яе кончыліся сілы, і яна ўжо няздольная стала на супраціўленне. Таму яна дазволіла двум немцам, якія кінуліся да яе па толькі што пачутай камандзе, заламаць за спіну сабе рукі, а сама, яўна стыдаючыся, пачала захінаць барадой на грудзях

* — Узяць! *(ням.)*

блузку, спрабуючы дацягнуцца такім чынам да абедзвюх манішак.

Немцы, папіхваючы адзін аднаго то плячамі, то спінамі, тут жа расступіліся на бакі, утвараючы ў натоўпе праход, а тыя два салдаты, што заламалі за спіну Дуніны рукі, штурханулі Дуню наперад, павялі па гэтым праходзе. Не засталіся стаяць на месцы і астатнія немцы, што складалі дасюль натоўп. Яны таксама з неспакойнай гаманой рушылі ўслед, утвараючы цэлую працэсію. У выніку атрымалася так, што на нейкі час немцы забыліся пра Розу, і яна засталася на абочыне дарогі, адна. Стаяла і з жахам сачыла за тым, што будзе з Дуняй далей. Вось немцы нарэшце давялі Дуню да крайняга грузавіка, і хоць там была металічная прыступка, але яны яшчэ адкінулі і задні борт. Дуня вызваліла рукі, мусіць, ёй ужо не заміналі гэта зрабіць, азірнулася па баках, усё роўна як развітвалася з усім, што навокал, тады паставіла калена на край адкінутага борта і, хапаючыся за дно кузава, сама палезла ўсярэдзіну, пад тэнт. За ёй лёгка скочылі туды і тыя два немцы, што вялі яе сюды. Яны адразу засланілі сабой у кузаве Дуню, і Роза колькі ні прыўзнімалася на дыбачкі, каб стаць вышэй, але не магла ўбачыць сяброўку.

За сябе Роза не баялася. У яе чамусьці было такое разуменне, што недарэчнасць, якая здарылася з ёй, больш не паўторыцца і што немцы пакінулі яе ў спакоі свядома. І наогул, па прастаце душэўнай Роза схільна была думаць, што ўсё-ткі дарэмна Дуня гэтак неразумна павяла сябе, урэшце, яна б, Роза, і сама паступова неяк выбавілася б з нечаканай пасткі, няхай нават што палічылі яе за яўрэйку, бо ці мала што выдумаць можна, калі меркаваць пра чалавека толькі па знешняму выгляду. Але ж на самой справе яна ніякая не яўрэйка, значыць, і баяцца надта няма чаго. Нябозе зусім няўцям было, што адно ўжо імя — Роза, якое нічога не падазраючы вымавіла яе сяброўка, узбурыла немцаў дарэшты. Не здагадвалася яна і пра тое, што пройдзе ўсяго некалькі хвілін, і немцы спахопяцца, зноў успомняць пра «юду», бо сам учынак, які зрабіла Дуня, кінуўшыся бараніць яе, будзе разглядацца як недапушчальны крымінал — супраціўленне вермахту і свядомае спачуванне яўрэям... А пакуль пра Розу яшчэ не ўспомнілі немцы, то яна ста-

яла сабе ціха на месцы, быццам пакінутая восеньскай чарадой пакалечаная птушка. Роза чула, як ужо колькі разоў нясмела, бы ў кулак, гукалі яе верамейкаўскія бабы, што тоўпіліся воддаль, за скрыжаваннем, але яна чамусьці нават не паварочвала ў іхні бок галавы, акурат баялася, што яе пачнуць ушчуваць там ды вінаваціць ва ўсім. Можа, якраз гэта вось адчуванне і падказала ёй нарэшце зрабіць іначай — паспяшыць не туды, куды клікалі яе спадарожніцы, а наадварот, падацца да грузавіка, дзе знаходзілася пад вартай Дуня Пракопкіна. Паволі і зусім непрыкметна, усё роўна як не ў сваім розуме, маладая салдатка пачала перамяшчацца з абочыны на дарогу, тады бліжэй да плота. Калі нарэшце яна апынулася на паўдарозе да грузавіка, раптам нехта аклікнуў яе з гарода — проста, узяў ды выгукнуў штосьці зусім невыразнае, ды кашлянуў, пэўна, адно каб прыцягнуць у свой бок увагу. Роза зразумела гэта, тут жа кінула скоры позірк на плот. Там, за рэдкім зялёным хмызам, можа, насаджаным маліннікам, скрытна стаяў чалавек. Відаць, то быў мясцовы жыхар, гаспадар хаты, што знаходзілася па левы бок вуліцы, ад скрыжавання другой па ліку; хата тулілася ў зацені старых ліп, на якіх віселі, прымацаваныя да ствалоў, пакрытыя бяростай круглыя вуллі. Круцячы галавой па баках, чалавек клікаў Розу пальцамі да сябе, выразна даючы зразумець, што мае нешта сказаць ёй.

— Ты што ж гэта робіш? — пачаў гаварыць ён паспешліва і паўшэптам, калі Роза падышла па яго знаку да плота.— Уцякай, пакуль не позна! Уцякай, дзеўка!

Ці то гэты паўшэпт вывеў яе з душэўнага здранцвення, ці то ён з'явіўся толькі зыходным штуршком, нават не штуршком, а тым псіхафізічным момантам, якога яна ўнутры, можа, сама несвядома чакала, аднак Роза раптам сапраўды памкнулася бліжэй да плота. Затрымалася перад ім на момант, а тады ўхапілася абедзвюма рукамі за верхнюю жардзіну. Пералазіла яна цераз плот па-жаночы, не адразу і скокам, як робяць гэта звычайна мужчыны, а паступова, лучаючы нагамі ўгору па кожнай прыступцы. Немцы ў гэты час, няйначай, заняты былі размовамі пра здарэнне, якое толькі што адбылося, таму Роза зусім без перашкоды пералезла па той бок плота і, падхапіўшы ле-

вай рукой падол шырокай спадніцы, пабегла мяжой па гародзе, забылася нават пра чалавека, які, уласна, падказаў ёй гэтак ратавацца. Бегла яна няспрытна, чаплялася за бульбоўнік, што аплятаў мяжу, да таго ж гарод выгляд меў узгоркавы, схілам спадаў да вуліцы, і бегчы ўвесь час даводзілася ўгору. Неўзабаве Роза адчула, як горыч пачала захаланаць ёй у сярэдзіне грудзі. Ёй бы па сіле якраз спыніцца цяпер, каб хоць перавесці дыханне, а яна ўсё бегла і бегла. Нарэшце адолела пагорак. Думалася, па роўным ужо будзе нашмат лягчэй уцякаць, аднак адразу за ўзгоркам пачынаўся нечы другі гарод, хоць і без плота, ды ўзараны ўпоперак мяжы, па якой дасюль шыбавала Роза. Горыч, якая спярша нібыта заткнула адны грудзі, цяпер працінала як не наскрозь усё нутро, а сэрца, здавалася, вось-вось праб'е збоку грудную клетку, выпырхне адтуль спалоханай птушкай. Ды і ногі зрабіліся зусім непаслухмяныя, яны не тое што адубелі ці падкошваліся ад знямогі, проста ажно балелі, усё роўна як перад гэтым вытрымалі вялікі цяжар на сабе. Роза яшчэ прабегла гэтак трохі ўздоўж разоры, павярнуўшы на новым гародзе направа, тады прымусіла сябе спыніцца.

Сонца якраз вісела над тым пагоркам, па якім Роза толькі ўзбегла сюды. Цяпер ён засланяў усю мястэчковую вуліцу, дзе стаяла нямецкая калона. Можна было спадзявацца, што немцы таксама не маглі бачыць яе адтуль. Але ж там, пасярод вуліцы, засталіся верамейкаўскія бабы!.. Таксама недзе ў грузавіку сядзела Дуня Пракопкіна, якая адна цяпер мусіла адказваць за ўсё!.. Роза адно толькі ўявіла, што можа здарыцца па яе віне, як раптам закалацілася ўся ў адчаі і, слепнучы ад горкіх слёз, бухнулася ніцма ў разорыну. Хоць яна і ўсведамляла сваю бездапаможнасць, хоць яна і разумела, што мала чаго можа, аднак у душы не збіралася доўга хавацца тут, на гэтых незнаёмых гародах, ёй здавалася — яна толькі паляжыць трохі нацодшыбе, а затым вернецца назад, на вуліцу, няхай ужо будзе там што будзе!.. Ды і ў дачыненні да Пракопкінай Дуні льга было захаваць звычайную чалавечую прыстойнасць, тая не спалохалася і не падумала пра сябе, калі ішла на выручку ёй!.. Тым часам міналі хвіліны, а Роза ляжала нерухома ў разорыне, быццам не магла хоць колькі адарваць ад зямлі сваё цела.

* * *

Між тым немцам нарэшце спатрэбілася гэтак нечакана злоўленая «яўрэйка». Але на абочыне мястэчковай вуліцы яе не было ўжо. Тады яны кінуліся шукаць Розу па дварах, якія стаялі абапал старога тракту. Разбегшыся па тры, па чатыры, заклапочаныя салдаты ўрываліся з рашучымі тварамі ў хаты, шнарылі скрозь па хлявах, заглядвалі ў паграбы. Аднак дарэмна — Розы нідзе не знаходзілі. Адзіны, хто мог штосьці канкрэтнае сказаць пра яе, быў той чалавек, што нядаўна цікаваў на гародзе з зялёнага хмызу. Але і яго не відаць было на ранейшым месцы — гаспадар сігануў з малінніку адразу, ці не следам за Розай, толькі не пабег далёка па гародзе, а павярнуў да сябе ў хату. З акна адтуль яму было відаць усё — і як немцы неўзабаве замітусіліся вакол, шукаючы зніклую «яўрэйку», і як вясковыя кабеты, што прыйшлі з ёй у Яшніцу, змаўляліся аб нечым на дарозе. Яму толькі дзіўна зрабілася, чаму пры такой сітуацыі гэтыя кабеты ўсё яшчэ не разбегліся, адно стаяць ды талопяць, быццам неразумныя авечкі, на немцаў вочы.

Вядома, здзівіцца хоць з чаго не надта цяжка, асабліва калі ёсць на гэта падстава. Але, як падумаць, то зразумець верамейкаўскіх кабет таксама можна было — куды раптам пойдзеш адсюль, калі дзвюм спадарожніцам пагражае небяспека? Натуральна, яны не ведалі, чым канкрэтна магла пагражаць і Дуні, і Розе небяспека, бо ніхто з кабет не бачыў нават збольшага, што адбылося — усе запомнілі толькі, як спярша дураслівы немец злавіў каля плота і сілай павёў за руку цераз дарогу Розу, затым туды на выручку сяброўцы накіравалася Дуня... І вось цяпер не было ні Розы, ні Дуні!.. Праўда, Дуня ў грузавіку. За гэтым ужо верамейкаўскія жанкі пастараліся прасачыць акурат. А Роза дык і зусім знікла з вачэй, падобна было, што яна альбо ўцякла, альбо проста схавалася дзе паблізу, вось толькі ніхто не згледзеў, як ёй удалося зрабіць гэта: немцы, здавалася, наогул забыліся пра яе існаванне, а верамейкаўскія кабеты, пераканаўшыся, што яна не абзываецца — ні рухам, ні голасам — на іхняе гуканне, звялі вочы з салдаткі ў другі бок, пачалі назіраць за немцамі.

Немцы, між тым, сапраўды колькі хвілін паводзі-

лі сябе спакойна, усё роўна як у іх і ў галовах не было нічога пра нядаўні інцыдэнт. Магло здавацца, што наогул ніякага выпадку не адбылося, і Дуня Пракопкіна трапіла ў грузавік зусім па добрай згодзе, па сваёй ахвоце, дальбог, хоць падумай: няйначай, гэтыя маладыя немцы ўгаварылі яе паехаць кудысьці разам, быццам казакі тую Галю... Але вось аднекуль з галавы калоны прыбег да скрыжавання унтэр-афіцер, той самы немец у акулярах, што дапытваў спярша Розу, пасля — Дуню, і тады каля аўтамашыны зноў прыйшло ўсё ў рух. Было відаць, як салдаты пачалі недаўменна круціць галовамі, азірацца вакол, нарэшце забегалі ўдоўж вуліцы. Пакуль унтэр-афіцэр звярнуў увагу на верамейкаўскіх кабет і падумаў, што «яўрэйка» за гэты час, як ён бегаў дакладваць аб інцыдэнце камандзіру роты, магла далучыцца да іх, салдаты паспелі абшукаць вуліцу ўдоўж платоў, і па той і па гэты бок, перавярнулі ўсё ўверх дном у бліжэйшых дварах. Да верамейкаўскіх кабет унтэр-афіцэр падышоў у суправаджэнні чамусьці толькі двух салдат, сярод якіх быў той Макс, што пачынаў нядаўнюю гульню-забаву. Праз яе тады і пачалося ўсё. Макс гэты стараўся цяпер найбольш — падскокваў да кожнай жанчыны, пільна ўглядаўся ў твары, наогул неяк празмерна мітусіўся, усё роўна як адчуў за сабою віну. Унтэр-афіцэр таксама акурат не знаходзіў сабе месца — яму край неабходна было адшукаць «яўрэйку» вось зараз, гэтую ж хвіліну, бо камандзір роты не захацеў займацца нечакана ўзнікшай справай, ды і не было калі, таму што канчаўся адведзены на прыпынак у гэтым мястэчку час, і загадаў перадаць абедзвюх кабет — і злоўленую «яўрэйку», і тую, што аказала супраціўленне яго ным салдатам пры затрыманні «яўрэйкі»,— альбо ў штаб тылавога раёна, дзе па штату ёсць чыны палявой жандармерыі, альбо проста ў тутэйшую камендатуру ці нават у паліцыю.

«Вэг!* — нарэшце ўзбурыўся сваёй няўдачай унтэр-афіцэр, і Макс з другім салдатам кінуўся адпіхваць аўтаматамі верамейкаўскіх баб.— Вэг!»

«Вэг!» — з нейкай зацятай ахвотай паўтаралі яны, акурат ляскалі пугамі, кароткае унтэр-афіцэрава слова і ўсё далей адпіхвалі аўтаматамі баб, ажно пакуль

* — Прэч! *(ням.)*

не загналі ўсіх у бакавую вулачку, вузкую і кароткую, звычайны завулак, што недзе злучаў сабой другую, паралельную гэтай, вуліцу.

Зноў, як і на тым скрыжаванні, верамейкаўскія кабеты збіліся ў гурт, але не шумелі, стаялі моўчкі, толькі некаторыя, найбольш трапяткія і жаласлівыя, ціха ўсхліпвалі ды выціралі рукамі вільготныя ямкі пад вачамі.

Неўзабаве стала чутно, як на скрыжаванні загурчалі маторы, адразу запахла скрозь дымам, які неўпрыкмет паплыў на местачковых гародах. Можна было здагадацца, што нямецкая аўтакалона нарэшце збіралася рушыць далей. Але жанчыны яшчэ доўга не адважваліся падысці па завулку ды глянуць уздоўж шляху. І толькі тады, як шум матораў аддаліўся ад скрыжавання і пачаў паступова сціхаць, смялейшыя з верамейкаўскіх кабет набраліся духу датупаць да таго месца ў завулку, адкуль направа і налева праглядвалася ўдоўж сама вуліца. Ад скрыжавання яна ішла ўгору, дужа гарбацілася за якога паўкіламетра адсюль і ўся была пустая, адно ў прыдарожнай канаве, якраз насупраць таго двара, дзе на ліпах віселі вуллі, ляжала нейкая скрыня.

— Ну, што? — падышла да смялейшых кабет і Анэта Прыбыткова.

— Не відаць,— не паварочваючы галавы да яе, а ўсё гледзячы ў той бок яшніцкай вуліцы, куды зніклі за пагоркам нямецкія грузавікі, адказала Варка Касперукова.

— Во нарабілі бабы клопату! — зусім пасмялеўшы, абурылася тады Кузьмова нявестка.

— Каб жа аднаго клопату! — дакорліва паківала галавой Гэля Шарахоўская і раптам схапілася рукамі за твар, быццам збіралася загаласіць.

— Ну, Дуню павезлі яны,— маючы на ўвазе немцаў, разважыла Варка Касперукова.— А дзе ж Роза?

— Дак, можа, і Розу тады павезлі з сабой? — усё роўна як спыталася ў самой сябе раздумлівым голасам Прося Рацэева.

— Наўрад ці...— адразу ўсумнілася Анэта Прыбыткова.— Хто ж ета бачыў?

— А хто іх ведае,— развяла рукамі Гэля Шарахоўская.— Можа, й павезлі...

— Дак чаму тады немцы ўзбегаліся былі? — не

пераставала сумнявацца Кузьмова нявестка.— Во і нас загналі сюды. Можа, якраз Розу шукалі? Не, бабы, так не трэба гаварыць. З Дуняй — тут усё, здаецца, ясна, яе немцы павезлі з сабой на машыне, а Роза...

— Анэта праўду кажа,— падтрымала Кузьмову нявестку Палага Хахлова.

— Яй-бо, Розу немцы шукалі,— пачалі падаваць упэўнены голас і другія кабеты.

— Анягож...— паступова згаджаліся амаль усе.

Варка Касперукова кіўнула галавой:

— Ета ж каб і праўда з нармальнымі людзьмі справу меў. А то ж немцы!.. Што яны табе скажуць на сваёй мове? Да і ім што ты ў адказ скажаш? Адно і чуеш — гер-гер...

— Як ужо так выходзіць у нас, дак лепей было б нам і саўсім не ісці сюды,— уздыхнула, зажурыўшыся, Анэта Прыбыткова.— Тады ў тым Ключы праява выйшла, а цяпера й тута. Вярнуліся б яшчэ з Ключа тады, дак...

— Дуня як прадчувала, не хацела ісці.

— Дак...— Анэта пастаяла задуманая, тады і сама быццам асуджаць Дуню пачала: — Я таксама етак вам скажу — трэба вярнуцца было.

— Але ж каб ета знаццё!..

— Ага, каб знаццё! — пачалі бедаваць бабы.

Аднак стаяць у завулку і разважаць доўга тым часам не выпадала.

— Ладна, бабы! — гледзячы з-пад рукі на сонца, спыніла дарэмныя нараканні Варка Касперукова.— Бяду з вамі цяпера во, етую мінуту, мы не паправім. Давайце думаць, што рабіць далей.

— Трэба пашукаць Розу...

— Што Роза? — Варка нахмурыла чорныя бровы, якія на яе светлым твары былі ўсё роўна як непрывычныя.— Роза, калі што якое, калі яна і праўда схавалася дзе, дак Роза выйдзе, сама неўзабаве будзе шукаць нас. Але што нам рабіць? Можа, пакуль што да чаго, дак сходзім да таго лагера? Трэба ж неяк паглядзець, ці ёсць нашы тама, каб пасля дарэмна не думалася.

— Тады зробім так,— пачала распараджацца Анэта Прыбыткова.— Вы ўсе ідзіце да царквы, вунь, бачыце, булавы дзе тырчаць, дак вы зараз ідзіце туды. Лагер недзе ля царквы. А я тым часам тута пабуду.

Можа, Роза адкуль вынікне. Не сядзець жа ёй да самага вечара ў схроне. Дак я і прывяду яе адразу к вам. І пра Дуню яна ўсё скажа. Толькі глядзіце, бабы, ужо і майго тама, можа, й мой трапіцца, дак скажыце, што я таксама з вамі прыйшла.

— Не,— упарта замахала рукамі Варка Касперукова,— не дзела ты зараз гаворыш, дзеўка! Трэба неяк разам трымацца. Альбо тута застанемся стаяць усе, альбо наадварот — пойдзем туды разам. А то пагубляемся ўсе ў етай Яшніцы і знаць пасля не будзем, хто дзе. Хопіць ужо і таго во, што Дуні з Розай няма. А цяпера ты во нешта такое захацела. Каб і самой трапіць у якую неспадзяванку. Не, Анэта, і не думай заставацца. Пойдзем з намі. Во паглядзім на той лагер, пашукаем сваіх, а тады ўжо кінемся ўсе па слядах. Не вяртацца ж нам без кабет у Верамейкі. Колькі сірот адразу наробім тама! У Дуні двое заплачуць у хаце, і ў Розы таксама...

Але Анэта не кранулася з месца. Тады Варка Касперукова паклала ёй руку на спіну і лёгенька падпіхнула наперад.

— А ма-а-амачкі мае-е!..— як не заплакала зрушаная з месца Анэта.

— Цыц! — строга сказала ёй Варка, нібыта і праўда занепакоеная тым, што салдатка зараз пачне лямантаваць.— Слязьмі не паможаш. Можа, яшчэ ўсё абыдзецца. Я вось толькі думаю, дарэмна тады Дуня сама пайшла да немцаў. Роза б і адна выбавілася ад іх. Ну, падурэлі б трохі, а тама й адпусцілі.

— А я думаю,— яшчэ больш скрывілася Кузьмова нявестка,— што ета мы вінаваты. Каб пайшлі на выручку ўсе разам тады, а не адна Дуня, дак... Можа б, і не здарылася такое.

— Думаеш, мне не шкода нашых баб? Думаеш, адна ты такая жаласная да харошая?

— Дак...

— Усім нам шкода іх,— уздыхнула Варка Касперукова.— Але што цяпера зробіш? І наогул, хто ведае, што цяпера рабіць? Ну, будзем блукаць па мястэчку да вінаватых сярод сябе шукаць, а тады што? Не, лепей і праўда мы зараз во сходзім сябе к таму лагеру, паглядзім мужыкоў, пасля ўжо прыкідваць станем, што да чаго.

Лагер ваеннапалонных у Яшніцы сапраўды быў ля

царквы, дакладней, у самой царкве, даўно непрыгоднай для службы. Але яшніцкая царква мела яшчэ і старую агароджу, таму лагерам называлася ўсё разам — і дзіравы з даху будынак царквы, і агароджаны царкоўны двор. Побач размяшчалася кірмашовая плошча.

У сярэдзіне мястэчка, на вуліцах, ужо сустракаліся людзі, па ўсім тутэйшыя — яшніцкія жыхары. Але ніхто з местачкоўцаў надта не дзівіўся з вялікага гурту чужых кабет, бо такое цяпер нярэдка даводзілася бачыць.

Плошча з краю да краю была пустая, і тым з верамейкаўскіх кабет, якія траплялі сюды раней, яна бачылася такой, бадай, упершыню: у кірмашовыя дні тут заўсёды поўна, ажно іншы раз не пратачыцца, народу, таксама вазоў, на якіх прывозяць прадаваць у мястэчка ў драўляных скрынях гусей, свіней ды іншую хатнюю жыўнасць. У вокнах местачковых дамоў, што стаялі прыбудовамі шчыльна адзін да аднаго, адсвечвала трапяткой ружовасцю сонца, якое дагарала сёння акурат над старым, парослым крывулямі-вербамі валам, насыпаным яшчэ ці не ў Паўночную вайну, калі ў гэтых месцах Пятровы войскі адбівалі ад Масквы шведаў. Больш як за дзвесце гадоў вал ужо амаль зраўняўся з плошчай, і толькі па старых вербах угадваўся колішні абрыс яго. Друхгаловая цагляная царква, што вонкава нагадвала хутчэй касцёл, узвышалася з паўднёвага боку кірмашовай плошчы, таму сонца высвечвала яе ад самага мармуровага цвінтара да канічных купалаў, на якіх блішчалі пустацелыя, акурат выгнутыя з дроту, крыжы. Агароджа вакол царквы стаяла з керамічных сотаў, і праз іх скрозь праглядваўся царкоўны двор, па якім лянівa, як тыя манахі, снаўдалі палонныя ў чырвонаармейскай форме. На далёкім рагу агароджы, там, дзе цераз дарогу да яе туліліся местачковыя двары, была ўзведзенаназіральная вышка, збітая з дошак і паднятая ўгору на драўляныя слупы. На вышцы стаяў і глядзеў на верамейкаўскіх кабет вартавы немец з наведзеным на плошчу кулямётам.

Салдаткі на нейкі момант замуліліся на сярэдзіне плошчы — ісці альбо не ісці далей, але ўсё ж перамаглі ў сабе атарапеласць, якая ўзнікла пры выглядзе гэтай вышкі з узброеным вартавым. Набліжаліся яны

да лагера, жагнаючы сябе кожная правай рукой, быццам і на самой справе ў думках цяпер нічога не было, акрамя царквы гэтай ды госпада бога.

Між тым палонныя таксама ўгледзелі новы гурт вясковых кабет яшчэ на плошчы, здаецца, хтосьці нават гукнуў пра гэта на ўвесь двор, бо з царквы адразу ж пачалі з'яўляцца постаці ў чырвонаармейскай форме. Усе яны — і тыя, што бадзяліся дагэтуль па двары, і тыя, што хаваліся ў будынку царквы,— накіроўваліся насустрач кабетам, да керамічнай агароджы. Пакуль жанчыны перасякалі плошчу, падыходзячы да самага лагера, з таго боку ля агароджы паспелі пастаць ледзь не ўсе насельнікі двара. Іх было няшмат, сотні дзве, калі трохі не болей. Палонныя былі даўно не стрыжаныя і не голеныя, мелі выгляд змарнелых людзей, хоць і не зусім такіх, каб не трымацца на нагах. Справа ў тым, што ў яшніцкім лагеры палонным ужо давалі харчу для падтрымання сіл, каб людзям не толькі жыць тут, на гэтым царкоўным двары, але таксама хадзіць на работу — на лесапільню, на бальшак, дзе кожны раз даводзілася засыпаць усё новыя і новыя калюжыны ды выбоіны ад гусеніц і колаў, на навал лесу. Да таго ж і сам тутэйшы лагер быў невялікі. Словам, у гэтых палонных пакуль яшчэ някепска трымалася душа ў целе. Але вочы ва ўсіх, на каго ні паглядзець, былі сумныя, як у сапраўдных нявольнікаў.

Па тым, што вартавы на назіральнай вышцы свабодна дапусціў верамейкаўскіх кабет да агароджы лагера, дзе па другі бок стаялі ваеннапалонныя, можна было адразу зрабіць вывад, што гэтакае тут адбывалася часта, прынамсі, ужо не першы раз. На нейкі час кабеты і палонныя, здавалася, наогул былі пакінуты без увагі. І толькі хвілін праз колькі з невялікай хаткі, дзе раней, мусіць, змяшчалася царкоўная гаспадарка, выйшаў нямецкі салдат з аўчаркай на повадзе і аўтаматам на грудзях. Ён таксама не кінуўся адганяць кабет ад агароджы. Трымаючы няўрымслівую аўчарку на повадзе, пачаў моўчкі і няспешна пахаджваць паўз дапаўшых да агароджы кабет. А тыя за гэты час, пакуль іх ніхто не чапаў, ажно пасмялелі зусім — перабягалі з месца на месца, каб лепей бачыць твары палонных, гукалі.

Перш чым назваць Івана, Варка Касперукова гучна спытала:

— З Верамеек ёсць сярод вас? Можа, Пармен Пракопкін альбо Іван Самусь? — Гэта яна клапацілася пра сяброўак, якія не дайшлі да лагера.— А Каспярук Іван? Ёсць Каспярук ці не? Кажу, з Верамеек ёсць сярод вас хто?

Але верамейкаўскіх мужыкоў у яшніцкім лагеры не было.

Тады Прыбыткова Анэта пачала дапытвацца ў кожнага, абы злавіла чый позірк на сябе:

— Можа, хто сустракаў нашых? Верамейкаўскіх?

Нарэшце адзін, высокі і вузкі ў плячах, з акуратнай чорнай барадой палонны нібыта злітаваўся, сказаў:

— Тут мясцовых няма. Прыходзілі вось так, як і вы, жанчыны, і забіралі сваіх. Хоць, зрэшты... А чаму яны павінны быць у лагеры? Можа, ваююць? Вам хто-небудзь сказаў, што яны ў палоне?

— Не, ніхто не гаварыў.

— Дык чаму вы тады шукаеце?

— Ну як жа... Ета ж... мужыкі нашы!.. Хто ж аб іх другі паклапоціцца?

— Але самі бачыце,— счакаўшы трохі, сказаў палонны,— вашых сярод нас няма. Як вы кажаце, верамейкаўскіх?

— Ага.

— А прозвішчы? Як прозвішчы мужыкоў вашых?

— Майго, напрыклад, Прыбыткоў,— з нейкай новай надзеяй сказала Анэта.— Іван Прыбыткоў. І Цімох Прыбыткоў. Ета брат мужа майго. А яе,— Анэта паглядзела на Палагу Хахлову, што стаяла побач,— яе чалавека таксама Іванам завуць. Хахол прозвішча. Іван Хахол. Можа, сустракаліся?

— Не.

— Дак, можа, на вайне сустракалі? — удакладніла Анэта, усё роўна як спадзеючыся, што палонны нешта ўспомніць яшчэ.

— Не, Прыбыткова я не сустракаў,— адказаў Анэце ваеннапалонны.

— А Хахла, Івана Хахла не бачылі? — спыталася ў сваю чаргу Палага.

Палонны пасля гэтага павярнуў галаву направа, налева і гучна, спытаўся:

— Тут пытаюцца Івана Хахлова з Верамеек, не ве-

даеце хто? — І, не дачакаўшыся адказу, паспачуваў: — Бачыце, не сустракалі.

Між тым зняволеныя, страціўшы цікавасць да верамейкаўскіх жанчын — мяўляў, нават ніякага харчу з сабой не прынеслі, пачалі патрохі разыходзіцца ў розныя канцы па двары.

І гэты палонны, што спагадліва размаўляў спярша з Анэтай Прыбытковай, а тады і з Палагай Хахловай, якая таксама старалася хоць што якое выведаць пра свайго мужа, памкнуўся быў ужо пайсці, аднак затрымаўся быццам на момант і раптам зацікаўлена спытаўся:

— Верамейкі? Дзе гэта Верамейкі вашы?

— Дак... За Хоцімскам туды,— адказала яму Палага.— Якраз як пайсці адсюль на Бялынкавічы, а тады ажно да Малога Хоцімску.

— Далёка?

— Да вёрст каля сарака, лічы, будзе.

— Так,— сказаў як сабе палонны.

Тады не стрымалася, каб не спытацца, Анэта Прыбыткова.

— А сам жа адкуль будзеш?

— Я не тутэйшы,— усміхнуўся палонны.— Я — з Масквы.

— А-а-а,— паківала галавой Анэта, быццам яна зразумела штосьці больш за тое, што было сказана.— І колькі ж вам тута, у етай царкве, сядзець прыйдзецца?

— Мусіць, да канца вайны. Хоць... Вось каб хто з вас сказаў немцам, што я... Ну, што я таксама нечы муж.

Паварот такі ў размове зусім быў нечаканы, таму Анэта Прыбыткова ажно сумелася. Затое Палага Хахлова раптам больш уважліва паглядзела на чалавека, быццам прымерваючыся. Нарэшце вінавата ўсміхнулася.

— Дак... Мы, здаецца, не пара ўжо адзін аднаму. Хоць ты і з барадой, і зарос, але ж па вачах бачу — малады. Вось каб Анэта?

Пачуўшы гэта, Кузьмова нявестка войкнула і спалохана замахала рукамі:

— Ты не ў сваім розуме, Палага! Як ета я пры жывым мужыку да назаву другога? — яна нават не ад-

важвалася цяпер паглядзець у той бок, дзе стаяў за керамічнай агароджай палонны.

Палага таксама зразумела, што дарэмна гэтак лёгка сватае салдатцы незнаёмага чалавека. Але перавесці гаворку на жарт і адбыцца адным ім ёй таксама не хацелася, бо чалавек не жартаваў, прасіў сур'ёзна. І яна таму памкнулася да другіх спадарожніц, пачала тузаць іх, шэпчучы ледзь не кожнай на вуха і паказваючы то кіўком галавы, то проста рукой на палоннага. Глянуўшы ў той бок, салдаткі, акурат як і толькі што Анэта Прыбыткова, войкалі ад нечаканай прапановы, сарамліва хіхікалі, быццам Палага падбівала іх на штосьці непрыстойнае.

— Але ж неяк трэба памагчы чалавеку! — нарэшце разгубілася кабета.

Страціўшы надзею ўгаварыць каго-небудзь са сваіх спадарожніц, яна тым не менш абнадзейваючы махнула палоннаму рукой, маўляў, не бядуй, усё роўна выручым, тады павярнулася да вартавога, які, быццам не зважаючы ўвагі на кабет і на палонных, тупаў непадалёк з аўчаркай на павадку.

— Пан,— пачала яна прасіць таго, хапаючы за рукаў,— тама чалавек мой. Вэнь стаіць. Аддайце мне яго.

— О, гут, гут! * — немец зацікаўлена падышоў да агароджы, паглядзеў праз керамічную соту на палоннага, затым павёў прыжмураным позіркам з галавы да ног па Палазе і тут жа грэбліва ўсміхнуўся: дужа яснай была розніца ва ўзросце, каб палічыць іх за мужа і жонку; але спытаўся: — Іст эс дайн зон? **

— Так, муж, так,— не зразумела яго Палага і для большай пэўнасці замахала зверху ўніз абедзвюма рукамі.

— Найн, найн, матка,— чамусьці гулліва запярэчыў вартавы.— Найн ман. Матка — люгт. Матка іст нэ думэ ганс ***.— І абыякава, зусім не раззлаваўшыся, што яго збіраліся абдурыць, патупаў у адваротны бок праз агароджу.

— Дзякуй вам,— вінавата сказаў спагадлівай жан-

---

* — О, добра, добра!

** — Сын?

*** — Не, не, матка. Не — муж. Матка хлусіць. Матка — дурная! *(ням.)*

чыне палонны і сумна ўсміхнуўся: — Гэта мы дарэмна з вамі задумалі...

— А родненькі мой, чым жа памагчы табе яшчэ? — як не залямантавала збітая з панталыку Палага.

— Нічога, дзякуй і за гэта.

— Хоць бы хлеб быў які пры сабе, дак і таго няма,— усё хацела зрабіць нейкую карысную справу душэўная кабета.

У гэты момант з таго боку, ад царквы, паказаўся другі немец, але без сабакі, і аб нечым моцна закрычаў. Палонныя, хто яшчэ стаяў ля сцяны, пачалі азірацца на крык і адыходзіць на сярэдзіну двара.

Час быў штосьці пэўнае рабіць і верамейкаўскім кабетам — ніхто ж тут не спаткаў ні мужа, ні брата, ні свата...

— Можа, і праўда, нашы ў Крычаве...

Сказала гэта Варка Касперукова, але падумалі так у адзін голас усе салдаткі. Разам з тым ісці ў Крычаў адсюль ніхто з іх не планаваў — па-першае, гэта не блізка, а па-другое, ніякай гарантыі, што сапраўды апынецца хто-небудзь там з Верамеек...

— А мы думалі, цётка,— гледзячы ўсмешлівымі вачамі на Палагу, раптам нібыты ўспомніла пра няўдалую спробу Гэля Шарахоўская,— што ты... Словам, што вас адсюль сілай падручкі ўжо адводзіць прыйдзецца. Думалі, не расстанешся са сваім масквічом.

Дзіва, але нават у сённяшнім становішчы настрой у верамейкаўскіх салдатак мяняўся, як пагода ў няпэўны дзень — ужо, здаецца, і не чакаеш, а яна раптам то сонцам выблісне, то дажджом пральецца.

Апошнія словы Гэлі Шарахоўскай патанулі ў рогаце, быццам кабеты, усе без выключэння, толькі і чакалі гэтага паджартоўвання.

Палага таксама не пакрыўдзілася на іх. Толькі напусціла на сябе строгасць, сказала:

— Вам абы!..

Тым часам кірмашовую плошчу патрохі пачынала апаноўваць шэрае сутонне, відочнай адзнакай якога ўжо былі доўгія суцэльныя цені з няроўнымі макушкамі, што слаліся нізам ад мястэчковых дамоў і даставалі праз усю плошчу да брукаванай дарогі паўз царкву.

— Хадзем-ка мы, бабы, дамоў к сабе,— раздумліва, амаль летуценна прамовіла Прося Рацэева.

— Ага, дамоў!..— раптам спахапіліся другія кабеты і загаманілі так, быццам яны зайшлі сёння не далёка ад дому, а былі недзе за Верамейкамі, на блізкіх пожнях.

Між тым наўрад ці забылася з іх якая, што яшчэ ўдзень згаворваліся ўсе начаваць у Трасціне. Там засталася Анюта Жмэйдава і цяпер, няйначай, чакала іх, каб пасля разам ісці двору. Але з таго часу, як была тая дамоўленасць, шмат што змянілася. Ужо не было з імі Розы Самусёвай, Дуні Пракопкінай... І хоць ніхто з кабет не ведаў, якой ў гэтым становішчы можна даць рады, аднак адчуванне віны ў іх было, асабліва цяпер, калі блізка загаварылі аб доме, усё роўна як яны назнарок не збіраліся рабіць для сваіх спадарожніц, што трапілі ў бяду, нават таго, што ад іх залежала. А залежыць магло ад кожнай, таксама як і разам ад усіх, вельмі нямногае, усяго толькі трэба сумленна пашукаць па мястэчку Розу, калі тая сапраўды ўцякла, ды ўведаць нарэшце, куды павезлі немцы Дуню Пракопкіну... Разам з тым тут мелася і свая насцярога — хаджэнне такой парой па мястэчковых вуліцах, ды яшчэ вясковай гурмай, нарабіла б лішняга шуму, а гэта якраз зусім непажадана, бо хто ведае, якія ўскладненні могуць выйсці пасля, хто можа даць гарантыю, што зноў не прычэпіцца якая-небудзь брыда. Лепш за ўсё, вядома, было б падацца ўжо сёння ў Трасціно, пераначаваць там, а заўтра вярнуцца ў Яшніцу.

— Яно калі Роза і вырвалася, дак цяпер ужо недзе ля Верамеек,— разважала далей Прося Рацэева.

Гэты раз яе падтрымала адна Варка Касперукова.

— Ля Верамеек, можа, і не будзе, а вось за Трасцяном, дак ета ўжо да. Не будзе ж яна варон па дарозе лавіць, раз дала лататы!

Хоць некаторыя другія кабеты таксама дадалі няпэўнае:

— Да ўжо ж...

— А ў Крычаў заўтра не пойдзем? — усё роўна як асуджаючы, паглядзела тады на Варку Анэта Прыбыткова.— Сама ж кажаш: можа, нашы тама!

Варка на гэта не абазвалася.

Затое Палага раптам ціха засмяялася, сказала:

— А я як думаю сабе, дак мой Іван ваюе. Праўду

гаварыў той масквіч — чаму ета ўсе салдаты павінны ў палоне апынуцца?

— Ну, ты, цётка, цяпера са сваім масквічом...

— А што?

— Дак...

— А я і праўда думаю — мой Хахол недзе ваюе. Ета вашы... Вашым што, маладым! Абы хутчэй да жонкі маладой пад крыльца. А ваююць няхай старэйшыя.

— Ну, ты ўжо на нашых, цётка, таксама не дужа нагаварвай.

— Дак пойдзем заўтра ў Крычаў, ай не? — зноў падала голас Анэта Прыбыткова, але цяпер больш настойліва, усё роўна як раззлавана, так што і не пачуць ужо нельга было.

— Раніца за вечар разумней,— адказала ёй, уздыхнуўшы, Палага.— Трэба начлегу шукаць, от што я скажу вам, бабы, ці паспеем ета мы дабегчы да таго Трасціна?

— І праўда ж, Анюта чакае...— занепакоена спахапілася Прося Рацэева.

— А Роза?

— Пагукаем і Розу.

— Што гукаць? Трэба шукаць!

— Дзе ж ты цяпера яе ўгледзеш?

— Ага, цёмна робіцца.

— Хадземце, хадзем!..

Гаворачы так, верамейкаўскія кабеты і не заўважылі, як перайшлі нанова кірмашовую плошчу ў Яшніцы.

## XI

Разам з паволі астываючым сонцам спадала і гарачыня.

Зазыбу, які шыбаваў праз дуброву да Бесядзі, рупіла ведаць, дзе атайбаваўся Чубар. А ў тым, што Сыркін тады ў мястэчку гаварыў праўду пра яго, сумнявацца не даводзілася, бо навошта было таму выдумляць?

Праўда, лепей было б пачакаць дома, пакуль старшыня падасць знак, аб'явіцца нейкім чынам сам. Але раз ужо запала Зазыбу ў галаву, то ён і не пераставаў кідацца ў здагадках. Не менш карцела дапасці розу-

мам і да іншага, што таксама знаходзілася ў адным паслядоўным радзе: чаму наогул вярнуўся Чубар, якая прычына яму выпала на гэта?

Разважаючы так, Зазыба паступова прыйшоў да высновы, што старшыня, няйначай, падаўся адразу ў Мамонаўку, да Аграфены Азаравай — там, у пасёлку, цішэй, бо не дужа людна, а палюбоўніцына хата стаіць ледзь не ў самым лесе, адно падыдзі з-за дрэў да акна ды паляпай у шыбіну. Ну, а калі Чубар да гэтага часу і не апынуўся яшчэ ў Мамонаўцы, то таксама памылкі вялікай не будзе каштаваць Зазыбу тое, што ён дасць сёння кругу, каб трапіць праз рум у пасёлак; прынамсі, як ён разумеў сабе справу, Аграфена цяпер доўга не застанецца ў няведанні наконт Чубаравага з'яўлення, тады ў кожную хвіліну стане магчымым звязацца са старшынёй з яе дапамогай.

Вада ў Бесядзі здалася Зазыбу занадта халоднай, усе роўна як у яго даўно былі застуджаны ногі, хоць, што казаць,— ёй і на самой справе наставаў час рабіцца такой, бо нездарма ў народзе памоўка: Ілля не толькі прынясе гнілля, а і ваду ўсхаладае; якраз па гэтай прычыне пасля Іллі тутэйшыя вясковыя людзі звычайна перастаюць купацца. Па-буслінаму стаўляючы ногі ў раку, Зазыба хутка перадыбаў на другі бераг, тады сеў на лазовы куст, які рос проста на белым, акурат пазебраным пяску, і ўзбуў боты. З берага адсюль адкрывалася вялікая лукавіна, якую ўтварала рака, а на ёй — рум, месца, адкуль плытагоны высокай вадой сплаўлялі плыты ў Сож. Рум гэты заснаваны быў тут вельмі даўно, нават Зазыбаў дзед, Міхалка, помніў яго ў сваім маленстве, і, бадай, ці не з таго яшчэ часу стаялі па краях на ім дзве, цяпер ужо збуцвелыя, хаты, у адной з якіх пад закуранай столлю месцілася сплаўкантора, у другой жылі — доўга ці мала, гэта як выпадала каму — сплаўшчыкі з аддаленых вёсак. Мясцовыя мужыкі таксама раней з ахвотай хадзілі сюды на промысел: тады ў час сплаву якраз наставалі вольныя ад работы ў гаспадарцы тыдні — вясной, пакуль не пачыналі сеяць скрозь, і восенню, калі з асноўнымі палявымі работамі, за выключэннем малацьбы, было скончана. Разы са два ганяў з бацькам плыты і Зазыба. З таго часу ён помніў увесь працэс сплаву, поўны як своеасаблівай рамантыкі, так і адважнай рызыкі.

Пачыналася звычайна на сплаве ўсё тым, што з ле-

су зімой тралявалі сюды, на рум, спляжаныя і ўжо абкораныя пры дапамозе скобляў дрэвы, якія к таму часу паспеў агледзець бракер, каб потым недзе не трапіла пад пілу гнілое ці крывое бервяно. Тралявалі з лесу сюды таксама і гатовыя брускі — для чыгункі, шахтаў, капальняў. Асабліва шмат вычэсвалі шпал для чыгункі. Брускі, з якіх выходзіла па адной шпале, называлі швэлямі, па дзве — шліфрамі, па тры — тымбарамі.

На руме страляваныя бярвенні звычайна складвалі ў шліхты, якія дасягалі двух метраў у вышыню і больш за чатыры метры ў шырыню. Шліхты гэтыя сціскаліся падпоркамі і нават — а раптам разводдзе залье рум — сцягваліся тоўстым дротам.

Вясной, калі рака ўваходзіла ў берагі і вада трохі цяплела, сплаўшчыкі браліся вязаць плыты. Адзін канец доўгай, ажно на дваццаць метраў, бомы замацоўваўся на беразе, другі — на сярэдзіне ракі, упоперак цячэнню. Затым мужыкі пачыналі расцягваць бусакамі бярвенне са шліхтаў. Каб лягчэй было качаць з берага да вады, пад ніз падкладвалі лягеры — тры-чатыры простыя жэрдкі. Папіхаючы потым бярвенне дручкамі, спускалі яго на ваду, упіраючы камлямі ў замацаваную бому. Цяпер звычайна вяжуць бярвенне ў лаўкі дротам. Але як помніць Зазыба, то яны з бацькам вязалі свае плыты гужбой — лазовымі вяроўкамі, якія іншы хто называў кардзялямі. Да канца такой лазовай вяроўкі мацаваўся кнэпель, альбо, прасцей, драўляны клін, што працягваўся пад кожны з двух тублёў, перакінутых упоперак лаўкі ззаду і спераду. Такі плыт звычайна складаўся з дваццаці і больш лавак, накрыж звязаных між сабой шварай, зробленай з той жа гужбы. Калі плыт нарэшце быў звязаны, ззаду на яго прыбівалі скрынку з валком, на якім мацавалася доўгая шырага — завостранае знізу палена, каб можна было пры неабходнасці тармазіць альбо зусім спыняць плыт. На першай лаўцы з самага пераду ставілася для кіравання апачына, сплаўшчыцкае весла, якое мела метры чатыры ў даўжыню. Але і на гэтым аснастка плыта не канчалася, бо без барбораў, што прывязваліся абапал яго, нельга было доўга ўтрымацца ля берага. Ну і, вядома, не забываліся плытагоны пра шалаш, побач з якім ставілася скрыня з пяском для вогнішча.

Асабліва запомніўся Зазыбу той раз на сплаве, калі яны з бацькам гналі па Бесядзі вялікі, ажно на трыццаць лавак, плыт ужо глыбокай восенню. Запомніўся якраз не рамантыкай і рызыкай, а зусім іншым. Плыт звязалі яны самі. А бацька дык і наогул траляваў бярвенне для яго. А вось чаму той плыт прастаяў лета ля берага на Бесядзі, мокнучы ў вадзе, Зазыба цяпер ужо не помніў. Здаецца, выйшла нейкая няўпраўка ў гаспадарцы. Адным словам, давялося гнаць ім плыт глыбокай восенню. Калі падплывалі да Сажа, у вусці Бесядзі скрозь ужо блішчаў на сонцы прыпай, а пасярэдзіне ракі — то наперад плыта, то ззаду — ішоў цячэннем шарош, гатовы кожную хвіліну спыніцца, сутыкнуўшыся з якой-небудзь перашкодай, каб таксама ператварыцца ў лёд. Затрымаліся б яны з бацькам на дзень-два тут, на руме, ці каб здарылася якая замінка на гэты час у дарозе — і ўсё, стаяў бы плыт, умёрзлы ў раку, зіму, аж пакуль не вызваліўся б з ледзянога палону потым вясной. Аднак галоўныя пакуты пачаліся пасля — на прыёмачным пункце бацьку чамусьці не заплацілі грошы, сказалі, што атрымае разлік за прыгнаны плыт у сплаўной канторы свайго рума. І яны вярталіся амаль ці не з-пад Гомеля ў Верамейкі пешкі, ужо ўзімку без ніякага фунду. Давялося проста жабраваць ад вёскі да вёскі, бо харчоў, якія яны бралі з сабой з дому, хапіла толькі ў адзін бок. Якраз гэтым і запомніўся Зазыбу той сплаў. Спярша бацька, саромеючыся жабраваць, тлумачыў людзям, хто яны такія з сынам, па-сялянску абяцаў за абед ці сняданак аддзячыць пасля, калі давядзецца ў новы сплаў трапіць сюды. Але потым зразумеў, што дарэмна тлумачыць — усё роўна іх прымалі за жабракоў. Як толькі небарака ўсвядоміў гэта, ісці стала лягчэй — ніхто ні на што асабліва не разлічваў, абы хоць і цвілога, а кавалак хлеба ў торбе не зводзіўся дый начаваць пускалі ў хату. Супала, што ў Верамейкі яны прыйшлі к ночы. Аднак і знарок хацелася аб'явіцца ў вёсцы па-цёмнаму, без лішніх сведак, бо на абодвух шкода было глядзець — адзенне зусім не па зіме, абутак стаптаўся ды і завашывілі яны добра-ткі.

Тым часам з пабудовай чыгункі Унеча — Орша сплаўная справа ў гэтым месцы Бесядзі пачала занепадаць — па-першае, само будаўніцтва чыгункі, пакуль яно вялося, патрабавала багата лесу, а па-другое, з уво-

дам чыгункі ў дзеянне з'явіўся новы спосаб перавозкі яго на далёкія адлегласці. Ва ўсякім разе, на ўсю моц нейкі час працаваў леспрамгас толькі ў адзін бок. Але незадоўга перад вайной, акурат без малога за два гады да яе, зноў тралёўка аднавілася на рум: як і ў даўнія часы, калі рум засноўваўся, забесядскі лес пайшоў за мяжу — спярша да Прыпяці ў плытах ажно па трох рэках, затым пры дапамозе лесавозаў у Буг, які стаў пагранічным.

Дарэмна было б шукаць каго цяпер на руме. Нават вартаўнікі, якім належала знаходзіцца круглы год тут, і тыя яшчэ да прыходу немцаў разышліся па сваіх вёсках.

Адразу за румам пачынаўся лес — стромкі пілавачнік, калі гаварыць моваю таксатараў.

Здавалася, што некалі шумная дарога — да рума звычайна ішлі і ехалі людзі — сёння будзе пустая на ўсёй адлегласці да Мамонаўкі. Ды не. Якраз на другім кіламетры шляху Зазыба раптам убачыў ваўка. Акурат па часе — не чалавека, а ваўка. Зусім па-сабачы той сядзеў на абочыне, пазіраючы насустрач. Невялікі страх даросламу чалавеку ўбачыць у лесе ваўка, тым больш аднаго, аднак Зазыба адразу адчуў, што ў руках не хапае дзеля такой сустрэчы дзябёлага дубца ці хоць бы якога-небудзь адсечанага макуша. Але ўжо ў наступны момант патрэба ў абароне адпала, бо Зазыба здагадаўся — на абочыне сядзеў воўк, які даўно ўжо нікому не пагражаў. Проста, не здольны быў. Пра яго ўсе ведалі ў наваколлі. Можа, не кожнаму даводзілася сустракацца з ім вось так, як цяпер Зазыбу, аднак ведаць ведалі. Быў ён дужа стары і ўжо не меў зубоў, таму не нападаў на жывёлу. Людзям таксама не было чаго баяцца яго, бо ваўкі ці не ў дзесяць гадоў адзін раз нападаюць на чалавека, і то ў глухую ПІЛІПАЎКУ, пад час сваіх воўчых вяселляў, а гэты дык і наогул не здольны стаў пагражаць каму б то ні было,— нават задушыць ахвяру ўжо не хапала моцы, не тое што загрызці. Цяжка было ўявіць таксама, чым карміўся ён, мусіць, толькі тым, што не магло ўцячы ад яго — качынымі яйкамі на балоце, бездапаможнымі, яшчэ мокрымі пасля нараджэння, зайчанятамі і г. д. Словам, пра тое, чым жыў гэты воўк апошнія гады, калі знядужаў ад старасці, ведаў, бадай, адзін бог ды ён сам. Зусім не цураючыся людзей ад гэтай сваёй нямогласці, наад-

варот, яўна адчуваючы ўнутраную патрэбу бачыць іх, ён, быццам жабрак які, бадзяўся па наваколлі і, мусіць, як усё жывое, здольнае хоць нейкім чынам разважаць альбо згадваць што-якое, з сумам перабіраў у галаве ўспаміны аб страчаным жыцці. Страчаным!.. Бо хто на схіле дзён сваіх не лічыць, што страціў жыццё?.. Нават самы ўдачлівы сярод жывых ці адважыцца сказаць, што атрымаў ад жыцця ўсё, пра што марыў. Ды і хто застаўся задаволены тым, што атрымаў? Нарэшце, каму аддало жыццё ўсё, што абяцала спачатку?

Без унутранай перасцярогі, што падыходзіць да звера, Зазыба глянуў зблізу на ваўка і з сумам адзначыў незайздросны выгляд таго — клочча поўсці, куды даўным-даўно, можа, яшчэ ў тое лета ўчапіліся дзяды, калі ён бадзяўся недзе па выгане край вёскі, віселі брыдкімі калтунамі скрозь па аблезлай скуры, а ў вачах, што былі ўжо без ранейшага драпежнага бляску, стаяў гной, і небараку з цяжкасцю даводзілася частым плюсканнем адганяць прэч назойлівых маленькіх мух. Зазыба жахнуўся ад такога выгляду звера, ажно сэрца яго зазнібела, быццам гэта ён сустрэў не ваўка, а даўняга знаёмага, можа, аднагодка, які раптам нагадаў яму сваёй прысутнасцю на абочыне лясной дарогі штосьці даволі сумнае і непазбежнае. Але не станеш з ваўком размаўляць!.. Таму Зазыба, усё роўна як стыдаючыся глядзець на дужа несамавітага, ужо бездапаможнага звера, прымусіў сябе больш не паварочваць у яго бок галавы, прашыбаваў міма. Між тым воўк таксама не застаўся сядзець на месцы, пайшоў услед — можа, ад адзіноты, а можа, ад голаду. Колькі часу Зазыба слухаў ззаду мяккі тупат ягоных ног, але паколькі ішоў ён скорым крокам, то неўзабаве воўк пачаў адставаць, нарэшце і зусім сціх.

Якраз ці не ў гэты момант Зазыба вышыбаваў к азярцу, берагі якога параслі трыснягом і чаротам, таму з дарогі, якая агінала яго паўкругам, не кожны мог угледзець люстраную паверхню. Але ў адным месцы дарога ўсё ж падыходзіла блізка да берага, там буяў расхінуты па два бакі чарот, і ў прагаліне, скрозь якую блішчала сярэдзіна возера, стаяў човен, паточаны і патрэсканы, бы звычайнае карыта, якое выкінулі з двара без патрэбы. На чоўне гэтым можна было пераехаць напрасткі возера, тады б скарацілася дарога ў Мамонаўку, але на тое, акрамя жадання, патрэбна пэўная

адвага: хоць і човен, ды мала чым лепей за дзіравае карыта. Адразу за возерам, ужо зусім непадалёк ад пасёлка, была мясціна, якую, ведаючы, рэдка хто мінаў. Мамонаўскі селянін, той самы Баханёк, які апошні пагнаў у Арлоўскую вобласць з калгаса кароў, спілаваў некалі там край балота дубок, а гадоў праз колькі раптам знайшоў, што пень падняўся ў рост чалавека. Яшчэ моцна не верачы сабе, Баханёк пачаў наведвацца туды часцей — сапраўды, год ад года пень вырастаў, як жывы. Тады Баханёк адкрыўся са сваёй тайнай другім. Здзіўленыя мужыкі чухалі патыліцу, круцілі галовамі, аднак не ўстрымаліся, каб не зрабіць на кары блізкага дрэва засечкі. Нарэшце на наступнае лета пераканаліся — пень і праўда ўзняўся вышэй засечкі. Нават старыя людзі і тыя не ведалі нічога падобнага раней — во, гаварылі, нездарма калісьці продкі нашы пакланяліся дрэвам, а найбольш дубу, які лічыўся святыняй у Перуна, галоўнага тутэйшага бога. Хто ведае, можа, Баханёк якраз і натрапіў на самы Перуновы дуб, нездарма ж цяпер працягвае расці нават пень... Праз нейкі час атрымалася так, што ад гэтай дарогі туды пралягла сцежка, якая праз балота вяла далей, да пасёлка. Праўда, хадзіць па ёй можна было толькі ў сухое лета. Але загадкавая таямніца «растучага пня» трымалася да таго часу, пакуль нехта з румаўскіх спецыялістаў, пакорпаўшыся вакол яго з рыдлёўкай, не высветліў надзвычай цікавую, калі не адзіную ў сваім родзе, то рэдкую ўжо, няйначай, з'яву: пень не спыняў росту таму, што карані яго даўно (яшчэ да таго, як Баханёк спілаваў дрэва) зрасліся з каранямі блізкай вольхі і працягвалі жывіцца ад іх. Тым не менш адкрыццё гэтае ніколькі не зменшыла цікавасці да яго. Асабліва таму, што блізка па дарозе быў рум і там заўсёды знаходзіліся людзі, якім таксама карцела падзівіцца з незвычайнага выпадку.

Патрывожыўшы сваім тупатам у чароце чырванадзюбых чыркоў, якія адразу, нават не зрабіўшы прывычнага круга, імкліва паляцелі кудысьці на другую ваду, Зазыба абмінуў азярцо. Ужо чуваць было, як у пасёлку нехта ляпаў па высахлым дзераве сякерай, бо гук здаваўся лёгкім і звонкім. Няйначай, што ад гэтай блізкасці Зазыбу зноў прыйшло ў галаву думаць, чаму раптам адкуль вярнуўся Чубар, што змусіла зрабіць яго гэтак, але вынікам былі адны здагадкі, затое з ней-

ќай трывожнай прыкрасцю ўспомнілася, як яны пагаварылі ў той, апошні, дзень, калі прыходзіў старшыня да намесніка ў хату. І ўсё-ткі час, які мінуў з таго дня, зрабіў сваё. Нечакана для сябе Зазыба адкрыў, што цяпер ён рады ў душы неспадзяванаму Чубараву з'яўленню. Радасць гэтая пакуль была неакрэсленая, нічым не падмацаваная, але тым не менш пачынала набываць жыццё ў ім, даючы надзею — нягледзячы на разыходжанні, якія здараліся паміж імі, Зазыба не сумняваўся ў адным і цяпер, бадай, у найбольш галоўным: нарэшце будзе не толькі пагаварыць з кім, а і свядома вызначыць багата якія варункі, згодна якіх давядзецца дзейнічаць ва ўмовах акупацыі.

Пра нараду ў каменданта таксама варта будзе расказаць Чубару, бо сам ён не асэнсаваў яшчэ яе як след — дзіва, але кожны раз, як падступаўся Зазыба ўзважваць у галаве пачутае ў воласці, знаходзілася раптам нешта такое, што выбівала яго з раўнавагі, нават бянтэжыла. Самы апошні такі момант быў зусім нядаўна, калі Зазыба намацаў у кішэні тую паперчыну, што даў яму ў рукі ля вазоў у мястэчку Брава-Жыватоўскі, а ён у сваю чаргу сунуў яе ў кішэню. Гэта была тая адозва дзяржаўнага камісара ўсходняга абшару Фрындта, аб якой гаварыў на нарадзе Гуфельд і якую камендант загадаў развесіць паўсюль у воласці — мястэчку і ў вёсках. Напісана была яна на чатырох мовах — на рускай, беларускай, польскай і нямецкай — у чатыры слупкі зверху ўніз і пачыналася такімі словамі: «У інтарэсах бяспекі краіны і бяспекі маёмасці і дабра жыхароў будзе праводзіцца з усёй строгасцю нямецкіх улад барацьба з бандамі і групамі тэрарыстаў. Насельніцтва заклікаецца даць гэтаму дзейсную помач». Далей у тэксце ішлі адзін за адным пяць пунктаў, і амаль пасля кожнага з іх буйнымі літарамі было надрукавана: «...будзе расстраляны». Уласна, і вайсковы камендант Крутагорскага раёна, і камендант Бабінавіцкай воласці ўжо дзейнічалі, зыходзячы з гэтай адозвы. Дзіва толькі, што звычайны загад чамусьці называўся адозвай! Чым глыбей Зазыба ўчытваўся пункт за пунктам у радкі, тым мацней, здавалася, стыла ў ім кроў. Але ўтрапёная думка, нягледзячы на гэта, хутка вывела яго да ўсведамлення аднойвельмі важнай акалічнасці: аказваецца, дарэмна генеральны камісар Кубэ ўрачыста абвяшчаў, што

«прагучаў і змоўк бразгат зброі на Беларусі». Адозва, якую трымаў у руках Зазыба, гаварыла якраз наадварот — не, не змоўк!

* * *

Сапраўды, Чубар жыў гэты час у Мамонаўцы. Выходзіла, Зазыба акурат разважаў тады — старшыня, няйначай, перш-наперш падасца пасля вандравання да Аграфены. Ён і раней ледзь не кожнага вечара наведваўся ў пасёлак, а цяпер тым больш не праміне хаты, дзе заўсёды рады яму.

Сувязь іхняя — Чубара і Гапкі Азаравай — была бяльмом на воку ў людзей: асабліва асуджалі іх за тое, што Чубар пачаў хадзіць да гэтай жанчыны неўзабаве па гібелі мужа яе ў фінскую вайну. Такое лічылася вялікім грэхам не толькі ў вёсцы. Таму нават пасля таго, як Чубар сказаў, што збіраецца ажаніцца на Гапцы, верамейкаўцы разам з кулігаеўцамі ды мамонаўцамі не перасталі ў адсутнасці іх з пагардай крывіць губы — адны не маглі дараваць ім тое, што яны не пачакалі са сваімі любошчамі і года, скрозь які Гапцы належала строга насіць жалобу па забітым мужу, другія ж, карыстаючыся парушэннем гэтага даўняга звычаю, проста зласловілі. Тым часам самі вінаватыя, здавалася, зусім не звярталі аніякай увагі на чужыя абгаворы, мусіць, лічачы іх за звычайныя плёткі — вось ужо праўда, што каханне сляпое!..

Чубар прыйшоў у Мамонаўку ўранку, адразу як пераначаваў у лупільні.

Калі ён пасля сну на досвітку выглянуў з хаткі, то быў прыемна здзіўлены — ласяня скрозь усю ноч заставалася на месцы. Вуж — той споўз з парога і кудысьці зноў схаваўся пад падлогу, а ласяня ляжала сабе і, мусіць, моцна спала, бо галаву падняло толькі тады, як Чубар затупаў побач. Убачыўшы чалавека, яно хуценька, бы са страху, ускочыла на ногі, але не адбеглася прэч. Небарака за сваё малое жыццё столькі займела пакуты ад людзей, а тут стаяла і нібыта радавалася, што не праспала, акурат малалетні хлопчык, якога бацька паабяцаў узяць з сабой у паездку ды паказаць там нештачка. Чубар удыхнуў ва ўсе грудзі халоднага паветра, пазяхнуў, дзівячыся, што яшчэ з

учарашняга на небе свяціўся месяц. Ісці ў Мамонаўку належала ў абход Верамеек. Але дарога ўсё роўна збольшага была вядома. І Чубар, доўга не бавячыся на месцы начлегу, рушыў. Ласяня таксама не адставала. Яно толькі пастаяла трохі ля хаткі, быццам па дамоўленасці, гуляючы ў хованкі, а тады кінулася даганяць Чубара, які знік за першымі кустамі. Пакуль не зайшоў месяц і не пачаўся сапраўдны ранак, Чубару неабходна было спяшацца прайсці самыя людныя мясціны, тыя скрыжаванні і ўрочышчы, дзе хутчэй можна напаткаць чалавека, хоць бы нават і звычайнага грыбніка. Але недзе за возерам — якраз на палавіне дарогі к пасёлку — яго, як спадцішка, пачало раздражняць шорганне маленькіх капыткоў ззаду, акурат ласяня ўжо замінала ісці. З прыкрасцю падумалася: «Ну, куды яго прывядзеш, калі сам яшчэ бяздомны?» Гэта і дало ўсяе рады — раптам Чубар сігануў у яловы гушчар, падалей ад сцежкі, а там, з падрапаным тварам, выскачыў на нейкі ўзбалотак, акружаны, быццам назнарок, вузкаю стужкай бярэзніку, і, лішне не робячы шуму, шыбануў наўдаку, каб інтуітыўна выйсці на мамонаўскую дарогу. Праўда, ужо ў Мамонаўцы ён пашкадаваў, што пакінуў за возерам ласяня адно, не прывёў з сабой, дзе яго льга было калі не прыручыць, то хоць патрымаць колькі часу, пакуль не падрасло б для самастойнага жыцця на адзіноце ў лесе.

Гаспадыня ўбачыла Чубара праз акно, калі той націянькі выйшаў з лесу. Яна памкнулася была насустрач яму, але тут жа стрымала сябе, каб дачакацца яго ў сенцах. Як толькі Чубар пераступіў першы парог, Гапка, зусім не саромеючыся дзяцей, павісла ў яго на шыі. У той дзень яна нават не пыталася, адкуль ён узяўся ў іх, чаму і ці доўга збіраецца быць. Яна адно радавалася, што Радзівон неспадзявана вярнуўся да яе, і не хавала гэтага ад яго, цяпер яна не схавала б свае радасці і ад людзей, калі б можна было хоць каму паказаць яе.

Як і ўяўляў сабе Чубар па дарозе ад фронту, спярша сапраўды было ўсё — і гарачая лазня, якую падрыхтавала Гапка к наступнаму вечару, і бясконцыя ласкі. Але неўзабаве, ужо дзён праз колькі, Чубар адчуў, што гаспадыня раптам як бы пачала бянтэжыцца, што нічога не ведае пра яго думкі, пра яго планы. Чубар, вядома, не стаў скрывацца ад яе, урэшце, у

гэтым не было сэнсу, бо некаму ж ён павінен цалкам давярацца, а яна слухала і ўсё тускнела тварам, быццам паступова расчароўвалася ў сваіх спадзяваннях. Бачачы, што ў іх адносінах расце адчужанасць, Чубар разумеў — неабходна, каб паміж імі настала канчатковая яснасць. Але размову такую ўсё адцягваў, дакладней, проста не рашаўся распачаць яе, нібыта ў душы баяўся, што натрапіць на нешта прыкрае, што яму адмовяць у гэтай хаце ў чымсьці такім, без чаго далейшае існаванне не мае сэнсу...

Зазыбу сёння Гапка сустрэла таксама раўніва, можа, нават варожа, усё роўна як чалавек прыйшоў, самае меншае, апісваць за нейкія даўгі маёмасць.

А Чубар, наадварот, узрадваўся.

— Ты як даведаўся, што я тут? — спытаў ён узрушана ў Зазыбы пасля таго, як яны моцна парукаліся ў хаце.

— Сарока адсюль прылятала,— пажартаваў Зазыба, таксама не хаваючы сваёй радасці.

— Ну, а папраўдзе?

— Калі папраўдзе, то бабінавіцкі яўрэй Хоня сказаў мне.

— Дзе ты яго бачыў?

— У мястэчку.

— І ён табе сказаў, што я ў Мамонаўцы? — насцярожыўся Чубар.— Адкуль ён мог ведаць?

— Не, пра гэта я сам здагадаўся.

— То і добра,— супакоіўся Чубар.— А то я ўжо, грэшным дзелам, падумаў... Але сядай,— прапанаваў ён і, як толькі Зазыба апусціўся на самаробнае, з пукатаю спінкаю крэсла, якое нібыта назнарок было пастаўлена зараней падалей ад вокнаў, спытаўся пра самае галоўнае: — Ну, як тут, намеснік? Што новае?

Зазыба ўсміхнуўся:

— Гм, новае.... Новага шмат, лічы, што ўсё новае. І самае першае, гэта тое, што ты цяпер ужо не старшыня, а я не намеснік. Бо калгаса няма.

— А не паспяшаліся вы яго распусціць?

Зазыба паціснуў плячамі, зноў усміхнуўся, але больш нецярпліва.

— Я і сам адзін час думаў, ці не паспяшаліся мы. Ажно палаяўся быў з тым-сім. А тады бачу — самы раз так і зрабіць. Асабліва калі ўлічыць, што камендант таксама нездавальненне выказаў нашым паспяшаннем,

нават праработку зрабіў мне за эта на нарадзе.

— Што за нарада?

— Звычайная. Немцы збіралі паліцэйскіх, старастаў, старшынь калгасаў, там, дзе яны засталіся яшчэ, ну і раіліся, як новы парадак ладзіць.

— А ты пры чым тут? Ты ж не стараста і не паліцэйскі? Нават не старшыня калгаса?

— І я так лічыў, што ні пры чым. А камендант чамусьці не паверыў. Выклікаў таксама на нараду. Ды і кажа пры ўсіх, што мы самаўпраўствам заняліся, падзяліўшы калгасную маёмасць. Гразіўся, што будзе расследаваць справу. Так што, не адзін ты нездаволены.

— Ну, камендант — гэта адно, а я — другое.

Зазыба раптам адчуў у Чубаравым голасе ранейшую ўпартасць, якая часам межавала з безразважлівасцю і якая нярэдка перашкаджала ім шукаць згоды паміж сабой. Таму сказаў памяркоўна:

— На гэта ёсць рашэнне калгаснага праўлення. Пратакол таксама складзены, каб раздаць маёмасць і падзяліць пасевы. Але не насаўсім, а толькі на захаванне калгаснікам, да прыходу Чырвонай Арміі.

— Нешта я не чуў раней такой дырэктывы? Што, паступіла новая? — пранікліва глянуў на Зазыбу Чубар.

— Проста праўленцы самі рашылі так.

— З тваёй, канечне, дапамогай?

— Але.

— А што я табе казаў? Загадана ж было знішчаць усё, знішчаць! Не захоўваць, а знішчаць! Думаеш, немцы такія дурні, каб не адшукаць, што вы дзе пахаваеце? Я сам некалі, пры раскулачванні, займаўся такой справай, дык ведаю.

— Ну, што знойдуць, а што і не.

— Вось, вось!..

Бачачы, што Чубару мала западаюць ягоныя довады, Зазыба рашыў падысці да пытання з другога боку, спадзеючыся, што гэта ўжо, няйначай, падзейнічае як след.

— Вось ты кажаш,— паківаў галавой ён,— што нібыта ўсё трэба толькі знішчаць, каб не дасталося немцам. А, думаеш, мне вельмі хочацца, каб яны сычалі на ўсім нашым? Дарэчы, я пасля размаўляю і з Машта-

ковым. Той таксама не патрабаваў, каб я напрапалую знішчаў усё.

— А чаго ж ён хацеў?

— Ну, канкрэтных указанняў ён не даваў, але знішчаць калгасны набытак не загадваў. Казаў, у прыватнасці, што хлеб і самім спатрэбіцца.

— Калі гэта было?

— Здаецца, ці не на другі дзень, як ты пайшоў з Верамеек.

— Ён да цябе прыязджаў?

— Не, у Кулігаеўку. А мяне пасля ўжо туды паклікалі.

— Ну, і пра што вы гаварылі?

— Збольшага пра ўсё. Дарэчы, пра цябе ён таксама пытаўся.

— А ты што?

— Сказаў, што бачылі цябе на бальшаку, мусіць, падаўся ў Крутагор'е.

— А ён?

— Абураўся. Казаў, што цябе недзе чакалі перад гэтым, а ты не з'явіўся.

Чубар пасля гэтага доўга маўчаў, потым спытаў:

— Як думаеш, ён тут, у раёне?

— Чаго не ведаю, таго не ведаю,— развёў Зазыба рукамі.

Тады Чубар страсянуў паваротам галавы свае валасы, каб не спадалі на лоб і ляжалі раўней, адагнаў з твару ўнутраную задумлівасць, якая ў самы апошні момант прыйшла замест нецярплівасці і рашучасці, і перавёў гаворку на іншае.

— Ну, пра калгас і пра тое, што вы цяпер робіце, я наслухаўся ўжо за гэтыя дні і ад яе.— Чубар кінуў позірк на гаспадыню, якая ўсё яшчэ знаходзіла сабе нейкія справы ў хаце.— Адно не хапала пачуць з вуснаў галоўнай дзеючай асобы. Цяпер і гэта адбылося. Такім чынам трэба лічыць, што новы парадак у Верамейках ужо дзейнічае. І паліцэйскі ёсць?

— Ёсць. Брава-Жыватоўскі.

— Шкада, што да яго ў свой час не дабраліся. Прытаіўся, падлюга.

— Ты з ім асцярожней. Узброены ходзіць, ды і гразіўся неяк, што не пашкадуе цябе, калі сустрэць давядзецца.

— Тут хто каго. Я таксама без вінтоўкі не хаджу. Але паразводзілі тут свалаты рознай!

— А яна неяк сама.

— Бо чакала, пакуль час настане. Брава-Жыватоўскі таксама быў на нарадзе?

— Гэта ж ён мяне і вазіў.

— Значыць, пачаў камандаваць?

— Асцерагаецца яшчэ браць усё на сябе, але справа ідзе к таму.

— Што яго насцярожвае?

— Выгадвае, каб ужо напэўна ўсё было. Каб не выйшла якой неспадзеўкі — а раптам нашы папруць немцаў назад?

— Глянуць бы адным вокам на яго.

— Думаю, што не размінуцца вам.

— Значыць, цябе немцы лаялі, што калгас распусціў? — чамусьці зусім весела, быццам стрымліваючы сябе ад смеху, паглядзеў на Зазыбу Чубар.— А што яны думаюць?

— Як што думаюць? — не зразумеў Зазыба.

— Ну што яны хочуць мець ад калгаса? — удакладніў Чубар.

— Хлеб,— адказаў Зазыба.

— Дык што, яны наогул пакідаць збіраюцца калгасы? — недаўменна заплюскаў вачамі Чубар.

— Здаецца, не. У іх усё прадумана ўжо. Зноў абяцаюць сялянам індывідуальнае землекарыстанне. Але з паступовым пераходам. Цераз абшчыну.

— А якая карысць ім тады марудзіць?

— У іх і на гэты конт ёсць сваё тлумачэнне. Але ўсе тлумачэнні — пустое. Проста, патрэбны хлеб наш. Ну, а з калгаса лягчэй яго забраць. Далей там, маўляў, яшчэ невядома што будзе, а цяпер зразумела — сёлетні хлеб вырашчаны, значыць, не трэба перашкаджаць мужыкам рознымі перадзеламі ўбіраць яго.

— Вось бачыш,— усклікнуў Чубар,— немцы сваёй рахубы трымаюцца, а ты памагаеш ім!

— Я ўжо табе не адзін раз казаў,— паморшчыўся Зазыба,— не трэба ўсё зводзіць да аднаго сэнсу — пакінуць хлеб ці знішчыць. Думаеш, Чырвоная Армія сюды вернецца і з хлебнымі абозамі, каб мужыкоў нашых карміць?

— Перастань ты, Зазыба, гэтак пячыся пра мужыкоў! Ідзе вайна. І нам з табой зусім пра другое трэба думаць.

— Пра людзей таксама трэба думаць.

— Ну, ты як знаеш, а я патураць не збіраюся. Не за гэтым вяртаўся сюды. Ты, мусіць, думаеш, што я ўвесь гэты час па кустах аціраўся? Я паўсвету ўжо абысці паспеў. На-тка вось, прачытай.— Ён выняў з кішэні складзены аркуш паперы з прамовай Сталіна, якую атрымаў ад палкавога камісара, падаў Зазыбу.

Але Зазыба адно глянуў на загаловак ды прачытаў першыя радкі.

— Гэта я чытаў. Яшчэ тады, як друкавалі газеты.

— То было ў газетах, а цяпер, бачыш, мандат. Мне яго даў адзін вялікі чалавек, калі накіроўваў сюды. Бо тут пра ўсё добра сказана, што і як. Таму няма чаго выстаўляць сваю народніцкую палітыку. Цяпер не да яе.

— Ніякая яна не народніцкая, а самая савецкая.

— Але ты нарэшце павінен зразумець, што на вайне трэба ваяваць.

— Дык ці я адмаўляю гэта? Але мы з табой не зусім на вайне. Пакуль што мы з табой хутчэй у вайне, чым на вайне.

— Значыць, неабходна і тут распаліць яе. Дарэмна не захацеў чытаць да канца. Тут так і напісана: «...Трэба ствараць партызанскія атрады, конныя і пешыя, ствараць дыверсійныя групы для барацьбы з часцямі варожай арміі, для распальвання партызанскай вайны скрозь і ўсюды...»

— Я ж табе сказаў — я і так ведаю гэту прамову. Яшчэ з таго, як яна друкавалася ў газетах і перадавалася па радыё. Сталін сам гаварыў. Але як ты са сваёй конніцай збіраешся харчавацца ў тыле? Можа, спадзяешся, што табе і авёс для коней, і кашу грэцкую для партызан з самалётаў скінуць?

— А хоць бы і так! Наладзіш сувязь, і табе даставяць усё, што трэба.

— Дзе яны цяпер, тыя самалёты? Нешта я не бачыў, каб... Нямецкія лётаюць, а нашых не відаць.

— Знойдуцца самалёты, калі спатрэбіцца.

— Ну да, паслухаўшы цябе, дык усё лёгка робіцца, быццам і праўда цяпер іх не відаць таму, што не патрэбны. Я вунь вяртаўся ў Верамейкі з Арлоўшчыны, дык нагледзеўся — іхнія ўвесь час вісяць над дарогамі, бамбяць ды страляюць з кулямётаў, а нашых ча-

сцей і блізка няма, добра, калі артылерысты зеніткамі адгоняць. Не, брат, не так усё проста, як здаецца ды хочацца нам. Тут да ўсяго трэба з галавой падыходзіць. Раз нам пачынаць гэту партызанскую вайну тут, то нам і думаць, як пачынаць яе і з чым. Шчорсава войска некалі таксама партызанскім называлася адзін час, але я не помню, каб мы вось так крычалі — палі, знішчай!.. Праўда, цяпер і абстаноўка не тая, і вайна не тая. Аднак жа людзі ёсць людзі. І тады яны людзьмі былі, і цяпер імі засталіся. І жыць яны мусіць-муць.

— Ты зноў пра сваё!..

— Я не пра сваё,— запярэчыў Зазыба,— а якраз пра тое, пра што і ты. Так што ў нас інтарэс адзін. Не сумнявайся. Але не трэба з бухты-барахты. Неабходна ўлічваць розныя акалічнасці. Ты вось паперчыну паказваеш, а ў мяне таксама ў кішэні нібыта дзеля такога выпадку прыпасена другая. Пачытай, каб і для цябе стала сёе-тое больш зразумела, у кожным разе, каб хоць цяпер ты не пароў гарачкі.

Ён выняў з кішэні адозву дзяржаўнага камісара ўсходняга абшару, падаў Чубару. Той узяў, глянуў на яе і буркнуў:

— Ну от, знайшоў што параўнаць!

— Гэта не для параўнання,— сказаў непахісна Зазыба.— Хутчэй для яснасці.

— А што гэта азначае — дзяржаўны камісар у застэмпоўстве?

— Не ведаю, я такога слова раней не чуў,— адказаў Зазыба.

— «Хто ўбачыць падазроныя асобы,— пачаў з першага параграфа ўслых чытаць адозву Чубар,— асабліва парашутыстаў, асобных савецкіх афіцэраў або салдат, шпіёнаў або сабатажнікаў, савецкіх службоўцаў і гэтак далей, або ведае што-небудзь аб іх знаходжанні, той павінен заявіць зараз жа бліжэйшай нямецкай або не нямецкай уладзе. Хто данясенне занядбае або варожым асобам помач якую-небудзь акажа, прытулак, ежу ці іншае, будзе расстраляны. За дадзеныя, якія дапамогуць злавіць злачынцаў, што парушаюць публічную бяспеку і парадак, кожны можа атрымаць ад камісара акругі ўзнагароду ў пяць тысяч рублёў». Гм, значыць, і за мяне могуць даць пяць тысяч? — усё роўна як здзівіўся Чубар.

— Выходзіць, што могуць,— кіўнуў Зазыба.— Але чытай далей.

— «Прозвішчы тых, хто выдасць злачынцаў, могуць быць па іх жаданню захаваны ў сакрэце. На жыхароў населеных пунктаў ускладаецца адказнасць за бяспеку тэлеграфнай і тэлефоннай сувязі, дарог, у тым ліку і чыгунак, як і за ўсе іншыя нямецкія прылады. За занядбанне абавязкаў будуць карацца жыхары...»

— Бачыш, ты сабе думаеш так, а чорт перайначвае,— сказаў Зазыба, як толькі Чубар скончыў чытаць.

— Чорту чартаваць, а нам трэба яго выганяць. Але калі будзеш дужа ўчытвацца ў такія вось адозвы, як гэта, што напісаў нейкі Фрындт, то наўрад ці выганіш. Такія адозвы разлічаны на тое, каб мы ўсе, хто трапіў пад акупацыю, сядзелі як мышы пад венікам і ні гугу. Яны хочуць нашых людзей рабамі мець, таму і палохаюць, каб адабраць волю да супраціўлення, дэмаралізаваць. Дзе ты яе ўзяў?

— У камендатуры ўсім давалі.

— Нябось, расклейваць наважыліся?

— Раз надрукавана, значыць, будуць і расклейваць.

— І ты памагаць збіраешся?

— Я проста хачу разабрацца, што тут да чаго!

— Здаецца, час ужо быў разабрацца.

— Цяпер кожны дзень нешта новае дадае.

— Яно і дадаваць будзе, але гэта яшчэ не азначае, што мы павінны сядзець, склаўшы рукі, ды чакаць, пакуль усё да канца высветліцца, бо можа позна быць. Па-мойму, ты проста альбо баішся, альбо...

— Не рабі сабе лішняй цяжкасці,— перахапіў Чубараву гаворку Зазыба.— Гэтыя твае «альбо» ў дачыненні да мяне не падыдуць. Я не меншы патрыёт, чым хто іншы, і не менш за каго разумею, што трэба брацца за зброю. Але я таксама і за тое, каб было ўзважана і ўлічана ўсё як мае быць.

Ці то Зазыбавы довады нарэшце памелі вагу, дайшлі да Чубаравага разумення, ці то ён яшчэ не сабраўся з думкамі супраць іх, але раптам перастаў пярэчыць — аблакаціўшыся на край стала, ля якога сядзеў, задумана паклаў галаву правай шчакой на далонь і ссунуў густыя чорныя бровы. Хоць яны — ужо сапраў-

ды былыя старшыня калгаса і намеснік — гэты час, пакуль былі разам у Гапчынай хаце, лічы, спрачаліся, іначай іхнюю размову нельга назваць, каб і хацеў, аднак на твары ў Чубара ўжо не відаць было і следу нават ад узбуджанасці. Гэтая нечаканая перамена, выкліканая, можа, унутранымі супярэчнасцямі, ажно кранула Зазыбу, яму зрабілася ніякавата, акурат ад таго, што пакрыўдзіў чалавека, у шчырасці намераў якога не даводзілася сумнявацца. Чубар колькі часу маўчаў, а Зазыба глядзеў на яго з нейкім вострым, як не шчымлівым пачуццём, здаецца, упершыню выразна зразумеўшы вялікую розніцу паміж сабой і ім ва ўзросце. Дасюль Зазыбу чамусьці ніколі не прыходзіла і ў галаву, што такая розніца існуе, бо Чубар заўсёды быў для Зазыбы чалавекам, які змяніў яго на пасадзе, значыць, іх ураўнялі ва ўсім самі акалічнасці. А тут Зазыба раптам, усё роўна як нечакана, адкрыў для сябе, што намнога старэйшы за Чубара, па сутнасці, той мог быць яго сынам. Пачаўшы думаць так, ён не мог не адзначыць таксама, што Чубар змяніўся нават і з выгляду, пакуль недзе адсутнічаў,— твар нібыта завастрыўся, і шыя патанела, а высокі адкрыты лоб пабраўся глыбокімі складкамі, якія сыходзіліся ўпоперак да носа; пад выпуклымі надброўнымі дугамі, крыху прыкрытыя павекамі, стоена хмурыліся цёмныя вочы.

Няйначай, Чубар неўзабаве адчуў, што Зазыба зблізку разглядвае яго, тады страпянуўся, акурат нездаволены ці злоўлены на чымсьці патаемным, і ўстаў з такога ж самаробнага крэсла, на якім сядзеў і Зазыба, і, залажыўшы рукі за спіну, прайшоўся шырокімі крокамі раз, і другі, і трэці па хаце.

Зазыба, між тым, застаўся на месцы, адно павярнуўся трохі, каб не сядзець да Чубара спіной.

Нарэшце Чубар перастаў мераць крокамі падлогу, спыніўся ля стала і зноў улаштаваўся на сваё крэсла, сціснуўшы каленкамі складзеныя ў далоні рукі.

Зазыба разумеў, што размова яшчэ не скончана, больш таго, на некаторыя пытанні ён так і не адказаў Чубару, бо той вельмі нястрымана паводзіў сябе, паварочваў часта гаворку зусім у іншы бок, асабліва тады, як пачынаў упарта адмаўляць, здавалася б, бясспрэчныя рэчы, адстойваючы свой погляд на іх; але разумеў Зазыба таксама і тое, што ініцыятыва ў гаворцы і на-

далей будзе за Чубарам, менавіта ад Чубара залежыць, на чым яны сыдуцца тут сёння, хоць, вядома, дужа хацелася прымусіць таго глянуць на ўсё вачамі чалавека, што моцны не толькі адданасцю агульнай справе, якая сапраўды цяпер зводзілася да аднаго — да барацьбы з ворагам, але і развагай, здольнасцю ацаніць як след абстаноўку і дзейнічаць згодна гэтай ацэнкі.

Апошняй спробай схіліць Чубара да большай стрыманасці было хоць і нясмелае, але ўсё ж пярэчанне, калі Чубар, пасядзеўшы трохі, сказаў з дакорам:

— Не выканалі мы, Дзяніс Яўменавіч, дырэктывы, не ўсё зрабілі, што ад нас патрабавалася...

— Дык... Можа, дырэктыва памянялася ўжо... Гэта ж калі тое было, а цяпер, мусіць, новыя дырэктывы ёсць. Толькі мы пра іх не ведаем.

— Ніхто той дырэктывы не адмяняў,— смыкнуў шчакою Чубар.— Дырэктыва была дадзена правільная.— І спытаў: — Што ты збіраешся рабіць заўтра?

— Здаецца, нічога,— адказаў Зазыба, але тут жа спахапіўся: — Хоць не, што я кажу — д'ябал, мусіць, ужо знайшоў работу.

— Які д'ябал?

— Камендант.

— Што, ужо дайшло да таго, што камендант загадвае, а ў вас пад каленкамі трымціць?

— Не дужа каб трымцела, а загад выконваць мусіш.

— І што ён такое загадаў?

— На Дзяражні ў Белай Гліне разбураны мост. Ці то нашы ўзарвалі, як адыходзілі, ці пасля хто разбурыў. Дык цяпер вось адбудоўваць трэба. Загадана запрэгчы ўсе падводы, якія ёсць у гаспадарцы, ды накіраваць з мужыкамі ў Белую Гліну.

— Якраз заўтра?

— Дакладна не ведаю, але трэба чакаць, што Брава-Жыватоўскі пачне хутка выконваць камендантаў загад.

— Ну, вось,— пагардліва ўсміхнуўся Чубар.— Чырвоная Армія паўзрывала масты на рэках, а вы, патрыёты, збіраецеся цяпер па загаду нейкага нямецкага каменданта адбудоўваць іх.

— Дык...

— Што «дык»? — не перастаў пагадліва ўсміхацца Чубар.— Паставіць бы там, у саснячку, што насу-

праць маста, станкач з поўнымі лентамі ды свінцом па нас, свінцом!

— А ты гэтак і зрабі! — акурат узрадавана зварухнуўся Зазыба.— Ды з кулямёта не па нас, мы тут ні пры чым, а па фашыстах, па фашыстах свінцом сваім. Вось тады і мы разбяжымся хто куды, як ты пастраляеш іх і не будзе каму загадваць ды прымушаць нас пад палкай, а то і пад пагрозай смерці.

— Думаеш, не зрабіў бы?

Зазыба паціснуў плячамі.

— Быў бы кулямёт,— сапраўды пашкадаваў Чубар,— то не вельмі асцерагаўся б я.

— Ну, а раз няма кулямёта, то няма чаго і гаварыць, а тым больш папікаць,— акурат блазнуючы, бліснуў вачамі Зазыба.— Словам, пакуль кулямёты ў адных немцаў, то выбачай. Ніхто не захоча стаць добраахвотна пад тыя кулямёты. Мы ў Верамейках і то пераканаліся ўжо, як яны могуць наводзіць на людзей кулямёты.

Але Чубар нібыта не слухаў Зазыбу.

— І ты, чырвоны ардэнаносец, паедзеш адбудоўваць мост? — наперад здзіўлена спытаў ён.

— Паеду,— упарта крутануў галавой Зазыба.— І справа не ва мне. Я хоць зараз смерць гатовы прыняць, але каб ад гэтага карысць была. А то што з таго будзе, калі я ахвярую сабой, а справе не дапамагу. Усё роўна немцы мост на Дзяражні адбудуюць. Пазганяюць мужыкоў з навакольных вёсак і адбудуюць.

— Але кроў герояў, Дзяніс Яўменавіч, памагае спецыідэям,— зусім не хвалюючыся, што сваёй жорсткасцю не толькі крыўдзіць, а і абражае Зазыбу,— сказаў Чубар.

— Хапіла ўжо крыві і без маёй для ідэй,— спакойна адказаў на гэта Зазыба.— Кроў тут не паможа. Трэба зрабіць так, каб не мы немцаў баяліся, а каб яны нас. І не крывёй сваёй мы павінны напалохаць іх, а зброяй. Я вось так разумею справу і хачу, каб і ты нарэшце зразумеў гэта.

— А я хачу, каб ты ўсё ж не ехаў у Белую Гліну. Табе трэба з'ездзіць у іншае месца.

— Куды гэта?

— У Машавую. Думаецца мне, што нашы пакінулі для падпольнай работы некага ў раёне. Не можа быць, каб з кіраўнікоў ніхто не застаўся. Столькі дырэктыў

розных было, цыркуляраў. Не, не павінна быць, абавязкова каго-небудзь пакінулі тут. Дарэчы, пра гэта гаварыў і той чалавек, які накіроўваў мяне сюды.

— Што за чалавек? — дапытліва глянуў на Чубара Зазыба.

— Не ўсё роўна. Чалавек і чалавек, вышэй нас з табой!

— Але чаму ехаць акурат у Машавую?

— Мне так думаецца. Справа ў тым, што ў пачатку жніўня, якраз незадоўга да акупацыі, мяне таксама выклікалі нечага туды. Відаць жа, недарэмна збіраў райком камуністаў, якія мелі браню ад прызыву ў армію?

Зазыба задумаўся — супраць гэтай Чубаравай прапановы ён нічога не меў. Наадварот, ухваліў — нарэшце, за столькі часу сказана нешта больш-менш канкрэтнае, хоць яшчэ і не ведаў, да каго там, у Машавой, трэба будзе звярнуцца яму. Нарэшце ўспомніў — непадалёку ад вёскі, у пасёлку Дзяржынне жыў яго даўні таварыш, ляснік Арцём Алейнікаў, таксама, як і Зазыба, удзельнік грамадзянскай вайны.

То быў чалавек цікавага і нялёгкага лёсу. Яшчэ задоўга да рэвалюцыі, ці не ў адзінаццатым годзе, скончыўшы народную школу, падаўся ён з беларускай вёскі на Далёкі Усход і колькі часу працаваў матросам на параходнай прыстані ў Благавешчанску. Затым яму пашанцавала ўладкавацца на службу ў кантору Амурскага таварыства параходства і гандлю. Але пачалася вайна з кайзерам, і яго мабілізавалі ў армію, а там яго, як чалавека «пісьменнага», прызначылі пісарам асобнага артылерыйскага дывізіёна, узброенага, як ён любіў гаварыць ужо ў мірны час, французскімі далёкабойнымі гарматамі. У снежні семнаццатага года, калі выпала магчымасць пакінуць армію, вярнуўся Арцём у родную вёску. Аднак канчаткова парваць сувязь з арміяй не ўдалося. У маі наступнага года ён становіцца справаводам мабілізацыйнага аддзела Клімавіцкага ваенкамата з выкананнем абавязкаў спярша камісара павятовай паштова-тэлеграфнай канторы, потым камісара адразу некалькіх валасцей, у тым ліку і Бялынкавіцкай. Ну, а ў дзевятнаццатым годзе былы пісар, справавод і камісар паступае ў Чырвоную Армію, спярша зноў ваюе з немцамі, з гайдамакамі, затым з белагвардзейцамі і белапалякамі... Быў двойчы паране-

ны. Уласна, па раненню ў дваццаць першым годзе і дамоў вярнуўся. Пачаў працаваць аб'ездчыкам у ляснічтве. Потым падаўся вучыцца — скончыў курсы па лесаэксплуатацыі, пасля чаго быў прызначаны памочнікам ляснічага. Але ў трыццаць пятым годзе Арцёма раптам выключылі з партыі, абвінаваціўшы ў сувязі з класава варожымі элементамі — за тое, што нібыта трымаў на працы раскулачаных. Праўда, на судзе факты яго апякунства над класава варожымі элементамі не пацвердзіліся, і ён быў адноўлены ў партыі нават без партыйнага спагнання. І тым не менш на ранейшую пасаду Алейнікаў ужо не трапіў — у часе папярэдняга заключэння ў яго пайшла кроў з вушэй, чалавек страціў слых. Давялося здаволіцца працай звычайнага лесніка.

Чырвонаармейцам Арцёма ў дзевятнаццатым годзе зрабіў Зазыба. Алейнікаў падаўся з ім да Шчорса, калі Зазыба па даручэнню бацькі Бажэнкі прыязджаў у родныя мясціны вербаваць у брыгаду добраахвотнікаў. Пазнаёміліся яны ў Бялынкавічах, дзе Алейнікаў быў вайсковым камісарам. Вядома, без дазволу камісара праводзіць набор добраахвотнікаў на тэрыторыі падначаленых яму валасцей нельга было. Таму Зазыба пасадзіў на воз Масея, яшчэ зусім падлетка, які таксама вельмі хацеў праехацца з бацькам, і накіраваўся шукаць камісара ў Бялынкавічы, за васемнаццаць кіламетраў ад Верамеек. Якраз перад тым, як ім прыехаць туды, мястэчка заняла налётная банда атамана Кутузава. Хадзілі чуткі, што прозвішча вялікага палкаводца атаман узяў сабе дзеля большай значнасці, мяркуючы адразу зрабіцца славутым. Але потым высветлілася, што гэта было сваё прозвішча. Паходзіў ён родам з Клінцоўскага павета і выдаваў сябе за абаронцу вясковай беднаты, а рабаваў толькі казну ды багатых яўрэяў, якія складалі тады пераважную частку жыхароў павятовых гарадоў і валасных мястэчак. Праўда ці не, аднак хадзілі як не легенды, што нарабаванае ён раздаваў сялянам. І гэты вось «сялянскі заступнік» з атрадам у пяцьдзесят шабляў заняў Бялынкавічы. Першае, што зрабіў ён, узяў у палон камісара Алейнікава, якога атаманавы коннікі знайшлі ў старшыні валвыканкома. Самога старшыню не чапалі — таксама палітыка: маўляў, з выбранай уладай, няхай нават і савецкай, не ваюем... Кутузаўцы шарудзілі ўжо ваўсю па

Бялынкавічах, калі на местачковую вуліцу з калодліўскага боку ўз'ехаў Зазыба. З'яўленне ўзброенага чалавека, вядома, не магло застацца незаўважаным. Таму Зазыба нават не паспеў добра агледзецца, як на возе яго абапал абселі кутузаўцы і сілай павярнулі каня да царквы, дзе ў паповым доме раскашаваў атаман. Там жа з ім быў і камісар Алейнікаў. Кутузаў не лічыў яго сваім палоннікам, прынамсі, атаман кожную хвіліну імкнуўся падкрэсліць гэта перад другімі, аднак ад сябе не адпускаў. Убачыўшы іхняе мірнае застолле, Зазыба спярша падумаў, што тут сапраўды адна кампанія. «Хто такі і што робіш? — спытаў атаман прыезжага. «Прыехаў да вайсковага камісара»,— адказаў Зазыба. «От і камісар табе,— усміхаючыся, атаман паказаў на маладога чалавека ў рамянях.— Гавары, што табе трэба ад яго?» — «А вось гэта ўжо мая справа, гаварыць ці трохі пачакаць»,— з выклікам сказаў Зазыба, які к таму часу зразумеў, што камісар хутчэй за ўсё вымушаны сядзець тут. «Ты, я бачу, прыткі, служывы,— пакрыўджана кіўнуў галавой атаман.— Ну што ж, тады сядай і ты побач з камісарам. Таксама госцем будзеш». І ў той момант, як ён гаварыў гэта, робячы ўслед за кіўком галавы яшчэ і розныя грымасы на твары, Зазыба паспеў злавіць кароткі позірк зняволенага камісара, у якім выразна адбілася папярэджанне. «Але ж у мяне хлопчык застаўся на возе»,— занепакоена сказаў атаману Зазыба, даючы зразумець, што яму за гэтым неабходна выйсці ў двор. «Нічога,— махнуў рукой атаман,— за тваім хлопчыкам паглядзяць там мае хлопцы, а ты спакойна сядай».— «Баюся, напалохаюць твае хлопцы дзіця»,— робячы прастадушны выгляд, паморшчыўся Зазыба. «Тады даручым яго пападдзі,— адгадаўшы Зазыбава жаданне (хоць якім чынам, але апынуцца на волі), насмешліва сказаў атаман.— Гэй, матухна?» З бакавых дзвярэй на яго голас як не ўбегла рахманая, але не дужа вясёлая жанчына. Кутузаў важна сказаў ёй: «Госць наш прыехаў з дзіцем, дык ты паглядзі там, каб... словам, пакармі і абагрэй малога, а мы тут з яго бацькам ды камісарам вашым пасядзім яшчэ за сталом.— І паглядзеў на Зазыбу.— Бачыш, усё ўладзіцца. Пападдзя пастараецца. А ты сядай і расказвай за чаркай — адкуль, за чым? — Тады нібыта ўзбурыўся, што Зазыба не спяшаецца праявіць паслухмянасці: — Ды не глядзі ты на мяне

падазрона! Усе мы тут свае, рэвалюцыянеры. Так што сядай і расказвай. А хочаш, дык і старшыню валаскома паклічам». Нарэшце Зазыба зразумеў, што адсюль яму не выйсці пакуль, таму зрабіў давольны выгляд і сеў на тое месца за сталом, якое ўжо даўно паказваў атаман,— на венскае крэсла, паміж двух атаманавых ад'ютантаў. Кутузаў пачакаў, пакуль усаджваўся яршысты прыезджы, нагнуў вялікую бутыль да канца і гукнуў на другі край стала гаспадару: «Ойча, прынясі яшчэ пітва, бо на аднаго госця паболела ў нас». Поп, нібыта вол з-пад ярма, глянуў на яго, але не пасмеў аслухацца,— сапраўды, цяжка быць паслужлівым, калі ў доме за сталом тваім сядзяць разам і бальшавіцкі камісар, і разбойны атаман, які таксама выдае сябе за рэвалюцыянера. Пакуль поп хадзіў па гарэлку, Кутузаў паспеў пажартаваць, чамусьці звяртаючыся найбольш да Зазыбы: «Я ў яго тут пытаўся: ойча, ці ведаеш ты, чым адрозніваюцца касцёльныя званы ад царкоўных?» — «Не ведаю»,— кажа. А я яму і гавару: «У царкве звоняць — бліны-бліны-клёцкі, бліны-бліны-клёцкі, а ў касцёле інакш — тром-блін-папалам, тром-блін-папалам!» Бачу, падабаецца, але маўчыць ойча, толькі вачамі хітра лыпае. Здавалася б, адна рэлігія, хрысціянская, ды таксама няма міру — праваслаўныя на католікаў, католікі на праваслаўных. А тут хочуць, каб мы, рэвалюцыянеры!..» Вымаўляючы гэтыя словы, атаман перавёў позірк на камісара і, можа, якраз таму не скончыў думку: няйначай, яны дагэтуль паспелі ўжо высветліць свае ідэалагічныя адносіны! Каб не наклікаць на сябе большай падазронасці, Зазыба пачаў піць слухмяна, абы толькі атаман нагінаў над шклянкай бутыль, бо спадзяваўся, што ў п'яным тлуме неяк выберацца з гэтай пасткі. Але дарэмна. Сам атаман хоць і піў таксама нямала, аднак не хмялеў. Па тым, што зброі бандыты не адабралі ні ў Зазыбы, ні ў камісара, можна было здагадацца, што на жыццё іх атаман не меў намеру рабіць замаху, затое ў ізаляцыі збіраўся трымаць да таго часу, пакуль хаўруснікі не перастануць трэсці мясцовых багацеяў. Атаман быў упэўнены, што тут, у паповым доме, дзе не толькі за сталом, а ў кожным кутку сядзеў хто-небудзь з яго хаўруснікаў, ні камісар, ні прыезджы чырвонаармеец не набяруцца смеласці аказаць супраціўленне. Таму паводзіў ён сябе спакойна, нібыта толькі і быў адным заклапочаны, каб

дагадзіць сваім вымушаным нявольнікам. «Кутузаў не запляміць дарэмнай крывёй свайго вялікага прозвішча!» — усклікваў ён час ад часу. І сапраўды, уранку, калі кутузаўцы з поўнымі кашалямі пакідалі мястэчка, Зазыба нават бацькавага каня знайшоў на тым самым месцы, дзе прывязаў учора, а пападдзя прывяла да воза заспанага Масея, які, бадай, мала чаго зразумеў з таго, што адбывалася ўсю ноч у паповым доме. Здавалася, найбольш за ўсіх збіты з панталыку быў камісар Алейнікаў. Быццам аглавушаны, ён колькі часу пазіраў у канец местачковай вуліцы, дзе патрохі, як рэдкі туман, асядаў пыл, падняты атаманавай конніцай, і зусім зацята чухаў даўно не стрыжаную патыліцу. Тады плюнуў далёка ад сябе, акурат наўздагон атаману, спытаў: «Чаго прыехаў?» А як пачуў ад Зазыбы, якую справу меў таршчанец да яго, замацюкаўся, затупаў нагамі: «Не мог сказаць раней! Тайну рабіў! Во каго трэба было агітаваць у войска — бандзюкоў гэтых і іхняга ідэйнага атамана! Гатовы эскадрон меў бы адразу!» — «Нам не трэба такіх,— усміхнуўся Зазыба.— Нам у брыгаду патрэбны свядомыя байцы пралетарскага альбо сялянскага паходжання». Ад гэтага камісар ажно ўзвіўся: «А, думаеш, нам тут свядомыя ўжо не патрэбны? Хто будзе змагацца з такімі вось ідэйнымі атаманамі, як гэты Кутузаў,— несвядомыя? — Затым паспакайнеў, аціхнуўшы раптам, і з надзеяй у вачах глянуў на Зазыбу: — Слухай, вазьмі мяне з сабой, га? К чортавай матары ўсіх гэтых атаманаў! Пайду на вайну як чалавек і буду ваяваць за Савецкую ўладу з сапраўдным ворагам! От зараз прымчыцца з Клімавіч з атрадам Сурта, і буду прасіцца, каб адпусціў. Возьмеш?»

І вось да гэтага Арцёма Алейнікава Зазыба цяпер збіраўся ехаць у Дзяржынне. У кожным разе, калі Арцём і нічога не ведае пра жнівеньскую нараду, якую склікаў у Машавой крутагорскі райком партыі і на якую не трапіў Чубар, то размова з ім будзе ўсё роўна карыснай — звычайна леснікі, нават глухія, чуюць і бачаць больш, чым гэта іншы раз здаецца.

— Ну от,— з дакорам сказаў Чубару Зазыба,— аказваецца, і для мяне работа знайшлася, а ты ўжо хацеў, каб...

— Работа цяпер для ўсіх знойдзецца, абы не ад-

вільвалі,— з прыхаванай нездаволенасцю азваўся Чубар.— Урэшце твая справа, калі ехаць у Машавую — заўтра ці на дзень-два пазней. Але каб доўга не цягнуў. І перад тым як паедзеш, пакліч да мяне Драніцу.

— Ты што, не ведаеш, з кім цяпер Драніца твой дружбу водзіць? — утарапеў Зазыба.— Ён жа заўтра прадасць цябе Брава-Жыватоўскаму!

— Нічога,— знарок не звярнуў увагі на Зазыбаву збянтэжанасць Чубар.— Ты яму толькі скажы, што я тут, а потым ужо мой клопат будзе нанава ў сваю веру перавярнуць яго.

## XII

Хтосьці мужчынскім голасам гукнуў з прыцямковае вуліцы:

— Гэта вы з Верамеек?

Салдаткі ад нечаканасці спыніліся, прыціхлі. Нарэшце зусім як з неахвотаю адказалі:

— Мы.

— Тут ваша адна ў хаце ў мяне,— падышоў бліжэй чалавек,— то хадземце і вы.

— Хто, Роза? — умомант абступілі, акурат абсыпалі яго, верамейкаўскія кабеты.

Але ён як не пачуў. Сказаў далей:

— А другая ваша ў камендатуры. Немцы перадалі яе ў нашу, яшніцкую, камендатуру. Будзе разбірацца заўтра камендант, што яна натварыла, у чым вінавата.— Памаўчаў і дадаў: — Але нейкія вы... Другія кабеты хадзілі сюды да нас, неяк ціха было ўсё, а вы раптам нарабілі дзялоў.

— Да ўжо ж...— уздыхнуўшы, усё роўна як павінілася за ўсіх перад незнаёмым чалавекам Анэта Прыбыткова.

У хаце, куды неўзабаве прывёў яшніцкі мужык верамейкаўскую гурму, акрамя заклапочанай Розы Самусёвай, былі яшчэ дзве жанчыны, мусіць, адна гаспадыня, жонка гэтага чалавека, яшчэ маладая, хоць і круглая кабета, і старэйшая, ці то свякруха яе, ці, можа, цешча ягоная, якая, седзячы на маленькім слончыку, гушкала калыску на выроўчатых почапках.

Роза пачула спадарожніц, калі тыя затупалі яшчэ на двары, паўз вокны; яна дакладна ведала, што гэта

ідуць яе вяскоўцы, бо гаспадар хаты абяцаў перастрэць іх па дарозе ад лагера і прывесці сюды; таму яна ўскочыла з мулкага венскага крэсла, на якім сядзела ў тынкаваным прасценку паміж вокнаў, і як толькі адчыніліся дзверы ў сенцы, а за парогам хаты ў цёмным праёме ўзніклі знаёмыя абрысы, памкнулася насустрач.

— Ну, каб ета хто падумаць мог! — пляснула яна рукамі.— Яны ж за яўрэйку мяне палічылі!

— Яшчэ што скажаш! — адразу не паверыла ёй Варка Касперукова.

Тады разважыла маладая гаспадыня.

— А што дзіўнага? — усміхнулася яна.— Як у нас кажуць — рыхтык яўрэечка!

— Ну, якая яна яўрэечка? — паціснула плячамі Анэта Прыбыткова, але і сама неўпрыкмет кінула на Розу дапытлівы позірк.

— Ладна,— звярнулася да кабет нездаволеная чымсьці Палага Хахлова,— яўрэйка дык яўрэйка. Можа, калі балагол які і заначаваў у дзедавай бабкі. Нездарма ж у іх заўсёды добрыя свінні водзяцца. Але ета ўсё жартачкі...

— Ну да, добрыя жартачкі! — усё роўна як заступілася за Розу Анэта Прыбыткова.— Етыя жартачкі ледзь не давялі во!..

— Дак я і кажу,— зрабіла пакутлівы твар ад нецярплівасці Палага Хахлова.— Я і кажу...— Відаць, яна хацела сказаць нешта Анэце Прыбытковай у сваё апраўданне, аднак адмовілася і, павярнуўшыся да Розы Самусёвай, спытала: — Ну, а Дуню? Чаму раптам Дуню забралі?

Роза бліснула пры цьмяным святле бляшанай газоўкі акурат вільготнымі вачамі, страпянулася, усё роўна што чакала гэтага запытання і баялася яго.

— Дак яна ж сама...— Роза сказала гэтак і замулілася на момант.— Яна сама прыйшла. А я стаяла тама і не разумела, што ета яны мне гавораць адусюль, чаго дабіваюцца. А як Дуня прыйшла, дак і я здагадалася — юда ды юда, кажуць. Ну, і лезуць з рукамі. А Дуня заступілася. Тады немцы на яе накінуліся. Пачалі пагражаць ёй.

— Як ета пагражаць? — акурат не паверыла Палага.

— А так, што адзін немец ажно блузку падраў ёй. Хапаўся за грудзі.

— Ну і што, калі хапаўся? — недаўменна паціснула плячамі Палага, маўляў, што за дзіва, і быццам за падтрымкай паглядзела чамусьці на старэйшую гаспадыню, якая хоць і не пераставала гушкаць рукою калыску, аднак павярнулася тварам на хату і слухала чужую размову.

— А тое, што Дуня плюнула яму ў морду! — з раззляваным прыкрасцю адказала між тым Палазе Роза Самусёва, хаваючы ў далонях свой твар.

— Га,— выдыхнула ад нечаканасці старая гаспадыня.

А Палага Хахлова спакойна сказала:

— Ну і дурніца!

Тады ўсхапілася Анэта Прыбыткова.

— А сама ў Ключы не тое зрабіла?

— Тое, ды не самае. Тама быў свой, паліцай, дак ці я буду яшчэ цацкацца з ім? А тута немцы. Не знаеш, што і сказаць. Акурат таму нямому. Добра яшчэ, калі не дурны трапіцца. А як дурны? Ну, і чаго яна дамаглася, што плюнула?

— Дак неяк жа трэба было зрабіць, каб адкараскаліся,— з сэрцам усклікнула на гэта Роза Самусёва.

— Во, то яна сябе за авечку выдае, якая нічога не разумее, то раптам... Дуня што? Дуня... А вось ты! Спярша і крылы, як тая курыца, распусціла, лаві, моў, певень, мяне, тапчы, а тады нават рады не можаш даць, хто ты, яўрэйка ці не.

— Сама ж гаворыш — як нямому сказаць, калі не знаеш, чаго ён хоча?

— Сама, сама! — перадражніла ўсхваляваную жанчыну Палага: яна ўсё больш злавала, няйначай, хаваючы цяпер нейкую непрыязнасць да Розы.

Адчуўшы гэта, маладзейшая з верамейкаўскіх кабет, Прося Рацэева ажно ўзбурылася:

— Ну што ты, цётка Палага! Пашкадуй жа хоць ты Розу! Ей ужо і без цябе хапіла!

Варка Касперукова таксама ўлавіла злую наўмыснасць у папроках Палагі, паспрабавала развесці размову жартам. Але дарэмна. Палага і зусім ужо нечага натапырылася, нібыта і праўда не магла дараваць Розе за Дуню Пракопкіну.

Тым часам у калысцы заплакала гаспадарова дзі-

ця, і ўсім раптам зрабілася сорамна, што гэтак крычалі дасюль, лічы, на ўсю хату. Ушчуваць яго адразу кінулася да калыскі маладая гаспадыня, якай ўвесь час, пакуль верамейкаўскія кабеты гаварылі і спрачаліся між сабой, нечага моўчкі корпалася ў адчыненым шкапчыку, што стаяў у куце пры задняй сцяне і, пэўна, служыў гаспадарам таксама абедзенным сталом. «Цыц, цыц!» — нахілілася маладзіца над калыскай, захінаючы сябе даматканым полагам, што звешваўся з аднаго боку на вяроўчатых почапках ледзь не з-пад самае столі. Дапаўшы да матчынай грудзі, малое тут жа ўлагоджана сціхла, акурат захлынулася малаком, і ў хаце запанавала цішыня.

— А я вось што скажу вам, бабы,— кінуў у гэтую цішыню першае слова гаспадар; ён стаяў у сенцах па той бок парога, усё роўна як прыйшоў сюды не разам, а толькі што, ды прыпыніўся ад нечаканасці на момант, здзіўлены, што ў ягоную хату набілася столькі незнаёмых жанчын; цяпер усе верамейкаўцы ўбачылі, што гэта быў мужчына гадоў пад трыццаць, якраз да пары маладой гаспадыні, хоць і выглядаў не такім мажным, як яна; дзіва, аднак і з твару яны мелі паміж сабой падабенства, жонка і муж,— былі аднолькава смуглявыя, а найбольш збліжала іх у гэтым падабенстве, бадай, тая нясмелая, амаль сарамлівая ўсмешлівасць (іначай яе не назавеш), што ўзнікала ў цёмных вачах, калі яны пачыналі зацікаўлена ўглядацца ў каго.— Гэта ваша шчасце яшчэ, што хоць так выйшла — і гэтую я прымусіў на гародзе схавацца, і тую немцы не павезлі з сабой, а ў камендатуру здалі.

— Ага,— заківалі галовамі жанчыны.

— Але як яе выбавіць адтуль? — асобна падала голас Анэта Прыбыткова.

— Добра было б, каб немцы зусім перадалі яе ў паліцыю,— акурат услых разважаючы, прамовіў гаспадар.

— Што б тады было?

— Дак... у Яшніцы начальнікам паліцыі кум наш. Пацана гэтага насіў хрысціць.

Кабеты з нечаканасці пераглянуліся — маўляў, сапраўды кум куму не адмовіць.

— А ці паслухаецца ён вас?

— Павінен паслухацца,— упэўнена, нават з адценнем самаздаволенасці, адказаў гаспадар.— Я вось

толькі думаю, што адкладваць на заўтра гэтага не трэба. Лепей паспрабаваць уладзіць справу шчэ сёння. Як вы мяркуеце?

— Ну да,— ухапілася за гаспадарову прапанову Палага Хахлова,— трэба пагаварыць з чалавекам, можа, і праўда возьме Дуню ад немцаў?

— Тады вось што,— разважаў гаспадар,— хадземце да кума. Але не гамузам. Ты вось, як старэйшая, можаш пайсці са мной,— паказаў ён на Палагу,— і яна.— Позірк яго лёг на Розу Самусёву.— Няхай паглядзіць, што дарэмна немцы прычапіліся, ніякая ты не яўрэйка. Дакументы ж хоць ёсць?

— Адкуль яны ў нас?

— Ладна, скажу куму, што знаёмыя. І вы таксама ў адзін голас пацвярджайце, моў, начавалі не раз у маёй хаце, як на кірмаш з Верамеек сваіх прыязджалі.

Жанчыны на гэта ўцямліва заківалі галовамі.

— Да ўжо ж...

Тады гаспадар пацёр адна аб адну рукі, нібыта ад здаволенасці, што выпала заняцца чужой справай, і весела гукнуў на хату:

— Мы хутка вернемся. А вы тут вячэру згатуйце. Варыце бульбу. Ды паболей, бо во колькі сабралася вас. І, нябось, усе есці хочаце?

З гэтымі словамі ён выйшаў з сенцаў на вуліцу.

Тым часам Палага Хахлова кінулася да Гэлі Шарахоўскай, шапнула:

— Давай свае залатоўкі!

— Навошта? — збянтэжана спытала тая.

— Давай, давай,— не стала вельмі тлумачыць Палага.

Адвярнуўшыся да сцяны, Гэля злазіла к сабе ў запазуху, выняла загорнуты ў насоўку, як яна казала, матчын пасаг, аддала настырнай кабеце.

— Ну во, цяпера вярней будзе! — усклікнула здаволеная Палага і ўжо зусім весела падала знак Розе ісці з хаты.

У змроку — месяц сёння яшчэ не паспеў узысці — яны ледзьве адгадалі гаспадарову постаць. Той акурат слізгаў ці ляцеў кажаном спярша па нябачнай сцежцы ад хаты, затым па местачковай вуліцы, нават не чуваць было тупату ног, не тое штоб спатыкнуўся раптам або яшчэ нейкім чынам нарабіў шуму. Затое спа-

дарожніцам яго даводзілася нялёгка, каб адно паспяваць за ім — разбітая, няроўная дарога ўвесь час нібыта раскрывалася, правальваючыся перад імі, ажно захалынала сэрцы.

— Значыць, мужыкоў сваіх не знайшлі ў нашым лагеры? — нарэшце спытаў спагадлівы чалавек.

— Не,— адказала Палага Хахлова.

— А яно ўжо, мусіць, у Яшніцы мясцовых і няма нікога,— пачакаўшы, пакуль кабеты наблізяцца зусім, сказаў ён.

— Ага, здаецца, няма,— згадзілася Палага.— Пра ета таксама казаў адзін на царкоўным двары. Кажа, мы тут усе то з Масквы, то яшчэ адкуль здалёку, а вашых няма. Кажа, можа, у Крычаве вашы?

— Ну, там могуць быць,— як пра нешта само па сабе зразумелае сказаў чалавек.— Нездарма ён завецца перасыльным пунктам ваеннапалонных. Але, каб ведалі, у крычаўскім лагеры нават здаровы чалавек доўга не працягне. Гэта не тое, што тут, у Яшніцы. І параўнаць нельга. Тут ужо працаваць прымушаюць. Ну, а калі працы ад чалавека патрабуюць, то і карміць хоць неяк, а мусяць. А ў Крычаве — там ні яды не даюць, ні лекаў. Як не трапіў адтуль куды-небудзь адразу, то, лічы, прапаў, небарака. Альбо немцы скрозь агароджу прыстрэляць, альбо сам з голаду здырдзіцца. Я брата шукаў там, дык бачыў. Думаў, і брат недзе папаўся немцам, але не, дарэмна толькі кума турбаваў, каб даведкі розныя для абодвух у немцаў выпраўляў.

— Не папаўся брат?

— Хто яго цяпер ведае! Гэта ж каб крычаўскі лагер апошні з усіх быў, дык ужо дакладна ведаў бы. А так падумаў, што ў палоне, ну і з'ездзіў, каб пасля клопату не мець, бо сумленне замучае, калі што якое. Але я пра кума таксама пачаў. Не павязло яму ў жыцці, куму майму, хоць сам чалавек ён добры. Якраз у маі гэтым, перад вайной, згарэў. Уначы. Хутчэй за ўсё ад маланкі. Але самога тады не было ў Яшніцы, дык і жонка згарэла і двое пацаноў. Словам, чалавек сербануў гора. Гаварылі мы неяк з ім і пра лагеры. Сапраўды, дзіўна — чаму раптам немцы пачалі дазваляць сяму-таму пакідаць іх? Аднаму выдадуць пропуск, так, сапраўдны пропуск, каб вяртаўся дамоў, а другога жонцы аддаць не пашкадуюць за кавалак

сала, калі прыйшла ды пазнала свайго? Аказваецца, не таму, што немцы пагалоўна добрыя па натуры. На гэта загад ёсць вышэйшага камандавання. Баяцца, што ў лагерах заразныя хваробы пачнуцца. Ну, тыфус там розны ці яшчэ якая чума. Адным словам, баяцца, каб не перакінуліся гарачай парой хворобы з ваеннапалонных на войска, бо заразная вош можа з'есці хоць якую, нават доблесную армію. Вось генералы нямецкія якраз таму і спалохаліся. Але як я сабе думаю, то дабрата іхняя працягнецца толькі да першых моцных маразоў. Тады ніякай заразы не трэба будзе баяцца. Як захварэеш, то тут жа на марозе і адубееш, і вош твая не ўратуецца, нават калі і ў кішэні.

— Да ўжо ж,— згадзілася з павадыром Палага Хахлова.

— Так што спяшайцеся, бабы, шукайце сваіх мужыкоў. А не, дык ратуйце чужых.

Сказаўшы гэта, чалавек крута павярнуў налева, у нейкі вузкі прасценак паміж платоў.

— Ідзіце за мной,— кінуў ён назад.

Нават у цемнаце было відаць, што прасценак паступова шырэў наперадзе, пакуль нарэшце не вывеў на шырокі выган, таксама абгароджаны ■ бакоў платамі. На краі гэтага выгана, ужо на самым водшыбе ад местачковай вуліцы, свяцілася вокнамі хата.

Па тым ужо, што ў хату належала заходзіць не з сенцаў, а проста з выгана — адно адчыні знадворку дзверы ды перасігні парог, льга было меркаваць, што чалавек жыў у ёй нядаўна.

Старшы паліцэйскі якраз вячэраў. Ён сёрбаў варыва драўлянай лыжкай проста з чыгунка, трымаючы ў левай руцэ вялікую лусту хлеба, адкроеную ад буханкі, спечанай не ў хатніх умовах, на подзе ў печы, а ў пякарні,— няйначай, атрымаў на свой паліцэйскі паёк. Здавалася, каб адкусіць ад такога кавалка, мала будзе звычайнага чалавечага рота, аднак паліцэйскі аплятаў хлеб без асаблівай нязручнасці для сябе: быў ён чалавек шырокі ў плячах, з вялікай галавой і, адпаведна, з буйнымі рысамі твару. Ён не ўскочыў з-за стала насустрач увайшоўшым, нават не зрабіў лішніх рухаў, акрамя ўсё тых, што патрэбны былі пры вячэры, аднак галаву падняў адразу.

— А, гэта ты, кум? — прамовіў ён акурат расча-

равана.— Ну, пасядзі трохі, а то я сёння забегаўся дужа, дык не было калі нават паесці.

Кум у адказ кіўнуў галавой, маўляў, зразумела, такая служба, і дастаў для сябе нагой з-пад вялікага драўлянага ложка нізенькі слончык, спрытна падчапіўшы яго наском бота.

Здавалася б, з усіх чатырох, хто прысутнічаў цяпер у хаце, найперш мелі патрэбу ў адпачынку здарожаныя верамейкаўскія кабеты, асабліва Палага Хахлова, якая, лічы, ад самага світанку была на нагах, але ім не паказалі, куды сесці. Зрэшты, нічога дзіўнага не было ў гэтым — просьбіткі ж!..

Пакуль кумы кожны заняты быў сваім — адзін зацята, як напаказ, нібыта дражнячы галодных, сёрбаў варыва, няспешна носячы лыжку з чыгунка да рота і назад, а другі моўчкі сядзеў і цярпліва чакаў, калі згаладалы гаспадар нарэшце апрастае чыгунок, каб пагаварыць аб справе, якая прывяла сюды яго з гэтымі чужымі жанчынамі. Палага Хахлова з Розай Самусёвай, стоячы ў парозе, амаль у прыцемках, бо святла ад лямпы не хапала на ўсю хату, паспелі кінуць вокам па хаце з кутка ў куток. Наогул, яна, гэтая хата, хутчэй нагадвала нейкую вартоўню, чым жылы будынак. Нават гармонік, што вісеў на сцяне па-над голым, без дзяруг і падушак, ложкам, не надаваў ёй патрэбнага выгляду.

Але вось паліцэйскі аблізаў з усіх бакоў лыжку, неяк паглядзеў на яе бліжэй да лямпы, быццам хацеў пераканацца, што на ёй нічога не засталося, тады паклаў нізам на край чыгунка і спытаў:

— Дык гэта яны?

— Ага,— стомленым голасам адказаў кум.

Паміж імі ўжо, няйначай, ішла сёння ў нейкім месцы гаворка пра верамейкаўскіх кабет і пра тое, што здарылася з імі ў Яшніцы, бо нездарма паліцэйскі адразу спытаў так, а потым акурат невідушчым зрокам доўга глядзеў у парог, дзе Роза Самусёва і Палага Хахлова ўніжана чакалі вырашэння Дунінага лёсу.

— І бывае ж у цябе ахвота, кум...— засмяяўся нарэшце паліцэйскі, але ўсё ж дакончыў сваю думку ўголас: — Кажа, і ахвота табе лезці не ў сваю справу. І заўсёды вось так. Колькі я помню цябе, дык ты калі не з адным, то з другім. То раптам сабаку пакалечанага чужога прыгрэеш, то чалавека якога-небудзь гні-

лога дамоў прыцягнеш. А цяпер вось нейкія бабы. Адкуль жа хоць яны?

Палага Хахлова зразумела па размове, што час ужо ёй выйсці на хату з прыцемак зусім ды абазвацца там сваім голасам.

— З Верамеек мы,— сашчапіўшы рукі на жываце, выступіла яна і ныкнула галавой у паклоне.

— З якіх Верамеек? З тых, што пад Чавусамі?

— Не, мы з другіх,— адказала Палага.— Мы з тых, што па Бесядзі ўніз.

— А-а-а,— зразумеўшы, заківаў галавой паліцэйскі.— Дык каторая з вас жыдоўка? — І, адводзячы позірк ад Палагі ў прыцемак, з усмешкай усклікнуў: — Пэўна ж не ты!

Тады Палага крутанулася на босых нагах і як не выхапіла з парожжа вялую і непадатлівую Розу Самусёву.

— Ну, якая яна вам яўрэйка? — павышаючы скорагаворкай голас, з надрывам, быццам пакутуючы ад раптоўнага прыступу даўняга болю, паказала яна на разгубленую маладую жанчыну абедзюма рукамі, узняўшы іх на ўзроўні плячэй перад сабой.— Ці ж вы не бачыце па твары, што яна наша, верамейкаўская, і бацька яе ніякі не яўрэй, і маці вясковая баба. Ну і што, што чарнявая? Дак ці мала ж сярод нашых таксама чарнявых? А яны — яўрэйка! Ну, ладна, няхай немцы, дык яны, мажа, зусім нічога не тулумкаюць, ■ вы-то? Што, і вы не ўгадваеце па твары, якая яна яўрэйка? І-і-іх!..

— Цыц, баба! — чамусьці паставіў локцем руку на стол паліцэйскі і павадзіў з боку ў бок растапыранай далоняй. — Цыц! А то галава распухае. Я і сам бачу, што яна не жыдоўка. Толькі ў адрозненне ад цябе, цётка, я не па твары гэта ўгадваю, а па нагах. Яўрэек трэба пазнаваць па нагах. Ды ладна, зараз не пра гэта. Мне цікава ажно, што думала сабе тая ваша, другая, калі на немцаў з кіпцямі кідалася?

— Хто, Дуня? — нібыта здзівілася Палага Хахлова.

— Дуня, Дуня!

— Дак...

— Яна ж не кідалася сама!..— нясмела падала свой голас і Роза Самусёва.— Ета салдаты яе хацелі, дак яна...

— Аказваецца, вунь што! Цнату бараніла! — падміргнуў паліцэйскі куму.— Надумаліся, што бараніць. Ды калі хочаце ведаць, то ні адзін немец, каб вы нават і прасіліся, не падышоў бы да вас без мыла. А цяпер вось ламай галаву, разбірайся з вамі. Гэта хваліце яшчэ бога, што натрапілі на кума майго, на гэту жалаослівую душу, а то б... і разбірацца доўга не сталі. Так, і разбірацца б не сталі. Ведаеце, што бывае за супраціўленне ваенным уладам? А куму майму таксама трэба і ў гэта нос сунуць!

Гаворачы ўсё гэта, паліцэйскі ўвесь час не зводзіў вачэй з кума, але той сядзеў, ссутулены, на слончыку і, здавалася, абыякавы быў да ўсяго, што рабілася ў хаце, нібыта клопату яму хапіла адно прывесці сюды гэтых жанчын. Таму паліцэйскі ажно гукнуў:

— Ці мо заснуў, Піліп?

— Заснеш з вамі! — паволі падняў галаву госць, акурат баяўся, што раптоўны і рэзкі рух сапраўды выдасць яго.

— Але ж, мусіць, праслухаў, што я тут гаварыў,— ледзь не пакрыўджаным голасам сказаў паліцэйскі.— Дык я нанава скажу табе. Тое, што гаварыў і раней, калі ты адзін прыходзіў да мяне. Добра, памагу табе і ў гэтай справе. Схаджу заўтра да бургамістра. Не, лепей не да Смяглікава. Схаджу адразу да каменданта, раз з немцамі бойка звязана. Няхай аддадуць бабу нам, і закрыем гэтым справу. Так і запішам — гэта не жыдоўка, а тая — чэсць сваю жаночую бараніла, думала, што... Словам, не пра тое падумала баба ды кінулася кошкай згарача вочы драць.

— От дзякуй вам, добры чалавек! — падумаўшы, што нарэшце ўсё абышлося, пачала ныкаць уніз галавой Палага Хахлова.— І самі будзем дзякаваць, што з бяды етакай выбавілі нас, і дзецям сваім накажам, каб ведалі ды шанавалі заўсёды, і мужам раскажам пра ўсё, як вернуцца з вайны...

— Ясна, і ўнукам, і праўнукам! — падхапіў паліцэйскі, але з ухмылкай на вуснах, усё роўна як не верыў, што людзі наогул здольныя на нейкую там удзячнасць, альбо проста не надаваў усяму гэтаму аніякага значэння.

— Дак а што? І ўнукам, і праўнукам! — не разгубілася Палага Хахлова.

— Ну, дапусцім, ад вас я ўдзячнасці не чакаю,—

махнуў рукой ад сябе паліцэйскі, але сказаў ужо мякчэй трохі і, бадай, не так насмешліва-няверліва, як перад гэтым.— Не вы мяне знайшлі, і не вам я падахвоціўся памагчы. Тут кум мой, Піліп, галоўную скрыпку іграе, з яго і спагнанне маё, ад яго і ўдзячнасць буду патрабаваць. Ну як, Піліп?

— Дык хто ж за добрую справу дзякуй пашкадуе даць? — зварухнуў загадкавай усмешкаю вусны кум Піліп.

— Але ж ты ведаеш нашу ўмову? — выцягнуў шыю чамусьці павесялелы паліцэйскі.— Давай канчаткова дамаўляцца: я да каменданта свайго іду ўранку, і няхай твае кабеты гэтыя коцяцца па дарожцы, куды ім зажадаецца, а ты — мне заяву на стол.

— Кум, не пра тое ты зноў гаворыш,— пакутліва выпрастаў ссутуленую спіну Піліп.— Ведаеш, як у святым пісанні сказана пра гэта?

— Успомніў што! — смыкнуў шчакою паліцэйскі.— Ты прачытаў бы, што пішуць у самым найноўшым завеце. Вось падзівіся, пачытай.— Ён вылез з-за стала, падышоў да сцяны, дзе на цвіку вісела нейкая хатняя апранаха, выняў з кішэні яе складзеную ўдоўжкі газету.— Цяпер трэба жыць па гэтым пісанні. На, чытай.

— Але ж... хто старое забудзе, таму вока вон,— беручы з рук паліцэйскага газету, буркнуў Піліп.

— Э-э, не! — сядаючы перадам на хату край стала, зацята закруціў галавой паліцэйскі.— Гэта ты перайначыў. Хто старое памяне, таму вока вон, вось як трэба правільна.

Госць разгарнуў перад сабой на дзве рукі газету, і ўсім адразу кінулася ў вочы назва: «Менская газета».

— Гэта цяпер такая выходзіць? — глянуў на гаспадара прышлы кум.

— Сам жа бачыш па загалоўку.

— Палучаеш?

— Не, гэта бургамістру хтосьці прывёз цэлы пук з Мінска, дык ён і мне адну пачытаць даў. Нам газеты яшчэ не прысылаюць. А то, кажуць, зноў і падпіска будзе, калі хто пажадае дома атрымаць, і так. На службу будуць па пошце газеты прыходзіць. Словам, усё, як і належыць, хутка наладзіцца. Толькі вось, паглядзеў я, дорага выходзіць. Бачыш, напісана цана:

дзесяць фенінкаў па-нямецку, альбо адзін рубель па-нашаму. Дык дзе тых рублёў цяпер набрацца, калі і праўда давядзецца плаціць па рублю за газету. Гэта ж каб накапіў іх хто дасюль. Таксама і без газет быццам нельга. Дык там, унізе злева, чытай.

Але кум Піліп яшчэ спытаў:

— Ну, а немцы, як плаціць за службу збіраюцца? Венікамі ці савецкімі?

— І савецкімі, і сваімі,— усё роўна як не пачуўшы Піліпавых «венікаў», сур'ёзна адказаў гаспадар.— Здаецца, палавіну жалавання тымі, а палавіну тымі. Праўда, адзін к дзесяці: адна марка — дзесяць рублёў каштуе. Я нават здзівіўся тут. Паўсюды паздымалі партрэты Леніна, Сталіна. Ну, думаю, а што будуць рабіць з чырвоненькай трыццацірублёўкай? Там жа таксама Ленінаў партрэт. Ажно не, не чапаюць. Вось што значыць грошы, капітал. Цэннасць. Вышэй нават за палітыку!

— Гм,— хутчэй ад здаволенасці, чым ад здзіўлення, пакруціў галавой Піліп.

— Ну, чытай,— падагнаў яго гаспадар.

Нарэшце госць, як і падказваў гаспадар, кінуў вокам ад загалоўка ў ніжні левы кут газеты. Там пад агульнай шапкай «У апошнюю хвіліну» была змешчана інфармацыя — «Цімашэнка звольнены. Будзённы на Лубянцы».

Зразумела, што мала хто цяпер устрымацца здольны быў, каб не прачытаць гэта паведамленне «Менскай газеты» да канца. Піліп таксама старанна, ледзь не сапучы ад унутранай напятасці, проста глытаў кожнае слова. Не паспеў ён падняць галавы ад газеты, як старшы паліцэйскі задзірліва, быццам у даўнюю адпомсту, сказаў:

— Ну вось, а ты яшчэ сумняваешся. Сталіну сапраўды ўжо кранты. Бо з кім яму цяпер ваяваць? У яго і палкаводцаў сваіх ужо, лічы, няма. Давядзецца яму амерыканцаў ці англічан наймаць, раз сваімі дужа лёгка распарадзіўся. Але не думаю, каб нашы салдаты ды пад началам амерыканцаў або англічан сталі ваяваць.

— Ну, а што Маскву ўзялі, не пішуць? — пакідаючы кумаву гаворку без адказу, спытаў акурат сам у сябе Піліп і пачаў кідацца вачамі па іншых загалоўках.— Здаецца, не пішуць.— Ужо зусім знарок, але

нібыта ад здзіўлення, паціснуў плячамі ён.— А ты казаў, што ўзялі ўжо!..

— Дык газета не сённяшняя!

— Думаю, што і ў сённяшняй немцы яшчэ не напісалі пра гэта.

— Калі не напісалі, то напішуць. На гэты конт будзь спакойны.

— Ды я і так не дужа хвалююся. Але даў бы газету гэтую дамоў мне. Дома я лепей прачытаў бы.

— Нічога, чытай тут.

— Дык жа пара ісці, кум. Бабам заказаў бульбу варыць. Мусіць, ужо гатова недзе, дык трэба весці і гэтых вось таксама, няйначай галодныя.

— Нічога, патрываюць і без бульбы. Ну, а калі ахвота ўжо вялікая на тое, дык няхай сабе ідуць. Іх ніхто не затрымлівае, а мы з табой далей пагаворым па іхняй справе.

— Як жа яны без мяне, кум?

— Ага, дарогі к дому не знойдзем! — падала голас Палага Хахлова.

— Будуць тыцкацца ў пацёмках і хаты не знойдуць,— сказаў далей заступнік верамейкаўскіх кабет.

— Ну, як знаеш, мілы! — недавольна паёрзаў на месцы паліцэйскі.— Але ўмовы сваёй я не адмяняю. Я кабету табе заўтра цалюсенькую вяртаю, камендант дзеля гэтага паслухаецца мяне, а ты заяву ўручаеш. З заўтрашняга дня і служыць у паліцыі пачнеш.

— Але што пра мяне людзі скажуць? — устаўшы з слончыка, падаў Піліп гаспадару газету.

— Тое, што і пра мяне.

— Ну, дапусцім, розніца ёсць,— запярэчыў Піліп.— Ужо нават тая, што мяне ў армію не ўзялі.

— Знайшоў чым хваліцца!

— Хваліцца тут і праўда няма чым,— спакойна разважыў госць,— аднак задумацца ёсць пра што. У армію па здароўю не ўзялі, а тут у паліцыю сам запісаўся. Альбо, можа, я гэтым часам паздаравеў? Уяўляеш, што пра мяне ў Яшніцы заўтра скажуць, абы я павязку гэту начапіў?

— Ну, як знаеш!...— акурат пакрыўджана, пацiснуў плячамі старшы паліцэйскі, але ў гэтай ягонай пакрыўджанасці было болей прыхаванага прытворства, чым сапраўднага пачуцця.

Бачачы, што гэтае наведанне старшага паліцэйска-

га можа не мецъ станоўчых вынікаў, Палага Хахлова раптам сцялася і, яшчэ больш страпянуўшыся душой, адважылася ўзяць далейшыя перамовы на сябе.

— Не, ты ўжо, добры чалавек, пашкадуй нас,— ступіла яна да стала, дзе сядзеў натапыраны гаспадар, і паклала залатоўку, адну з трох, што амаль сілай узяла перад гэтым у Гэлі Шарахоўскай.

Паліцэйскі адразу скеміў, што гэта за метал заблішчаў на стале. Ён тут жа ўзяў залатоўку ў руку, паднёс бліжэй да вачэй.

— Ого, яшчэ мікалаеўская! — падкінуў на руцэ залатую манету.

— Дак ты ўжо і праўда пашкадуй нас,— зноў сказала Палага Хахлава, але цяпер не так уніжана, як рабіла гэта раней, калі таксама звярталася да паліцэйскага, нібыта цалкам была ўпэўнена, што золата памела сваё дзеянне.

— Ну што ж,— плюскаючы вачамі, паглядзеў на яе паліцэйскі,— на каменданта, бадай, гэтая манета мацней паўплывае, чым нават Піліпава заява. Але ж гэта аднаму каменданту. А яшчэ?

— І для цябе во таксама ёсць у мяне,— ужо зусім пасмялела Палага, кладучы на стол астатнія залатоўкі.— Праўда, не свае, пазычаныя, ды няхай ужо. Толькі і зрабі для мяне ласку. Там у лагеры ёсць чалавек адзін. Выручы ты яго, аддай мне.

— Хто ён табе?

— Ніхто. Чужы.

— Адкуль?

— Кажа, з Масквы.

— А навошта ён табе?

— Дак...

Старшы паліцэйскі раптам зарагатаў на ўсю хату, сказаў насмешліва, нават абразліва:

— Ну вось, мужык недзе яшчэ жывы, а яна ўжо другога знайшла! Брыдкія вы ўсё-ткі істоты, бабы!

## XIII

На ўсе Верамейкі пахла гарэлым. Куды ні пайсці, у якім канцы вёскі ні стаць — у канаплёўскім ці канчанскім — усюды забіваў ноздры гэты гарэлы хлебны пах. Хоць ужо зіхцела раніца, але патыхала

не ад печаў, што сёння, таксама як і кожнага дня дасюль, дымілі ў неба цаглянымі комінамі. Пахла прэжаным з поля, з Паддубішча.

Стрыманы вецер дыхаў адтуль як не чадам. Здалёку, яшчэ з вёскі, відаць былі адкрытаму воку на схілах жоўтага кургана шматлікія чорныя лапкі, розныя па форме,— гэта ўжо як дзе занялося ад агню ржышча,— над якімі часам яшчэ ўзляталі ўгору трапяткія іскры, што выдзімаў, набягаючы парывамі, вецер. Адсюль жа, з вёскі, было відаць таксама, як пахаджвалі там, рухаліся зданямі чалавечыя постаці.

У Зазыбаў у хаце таксама не сціхала гамонка пра начны пажар. Праўда, гаварыла пра яго, уздыхаючы, Марфа, кожны раз пачынаючы, быццам забыўшыся, нанава, а тады ўжо ёй памагаў Масей, які наогул, здавалася, папярэджваў ледзь не кожнае слова яе. Вядома, у тым, што Масей зрабіўся гэткі гаваркі, нічога дзіўнага не было — гады, якія яны не бачыліся з маці і якія сталі для іх пакутлівай разлукай, тлумачылі ўсё як найлепей. Аднак быў у ягонай словаахвотлівасці і другі бок, дакладней, была другая прычына і, можа, самая важная. Яна заключалася ў тым, што бацька сёння не паказваў не толькі лішняй, а зусім ніякай ахвоты сказаць слова ў хаце. Такім чынам, гэтай сваёй словаахвотлівасцю, якая, уласна, абмяжоўвалася амаль кожны раз самай звычайнай хатняй гамонкай, пра самыя звычайныя рэчы, сын нібыта памагаў маці. Гэта было ў ім старое пачуццё, што выклікалася заўсёды жаданнем, яшчэ ледзь не з малых гадоў, узяць ва ўсім матчын бок, і не столькі паспагадаць маці, колькі абараніць яе, як яму здавалася, ад бацькавай чэрствасці. Дарэчы, гэтае старое пачуццё, як помніцца, ці не адразу ж заявіла аб сабе і ў тую ноч, калі Масей вярнуўся дамоў. Між тым бацька сёння выглядаў ажно чорным ад панурасці.

Ён наогул цяпер увесь час знаходзіўся ў адным і тым жа настроі, які дакладна вызначаўся словам — кепскі, і, можа, толькі тыя нядоўгія хвіліны, калі яны сустрэліся ўначы на ганку, настрой у яго быў зусім іншы. Тады бацька альбо не саўладаў са сваімі пачуццямі, альбо свядома даў ім волю. Ва ўсякім разе, то была сапраўдная сустрэча з сынам, як і належала ёй адбыцца паміж двума блізкімі чалавекамі, якія шмат перадумалі адзін аб адным у часе разлукі. Але тая

першая радасць хутка прайшла, нават магло здавацца, што яна не была радасцю, а нейкай вымушанай данінай у праяўленні пачуццяў з бацькавага боку. Масей хутка адчуў, яшчэ да таго як пайсці ў лазню, што бацьку пачало чамусьці непакоіць ягонае нечаканае з'яўленне, і чым даўжэй ён жыў дома, тым мацней пераконваўся ў гэтым, асабліва калі браць пад увагу, што бацька, бадай, і не хаваўся са сваім непакоем ад яго. Праўда, пасля паездкі ў Бабінавічы бацька неяк трохі ажно пажвавеў, стаў менш задумлівы, быццам яго там, у мястэчку, на самой справе парадавалі чым. (Пра тое, што на зваротнай дарозе давялося наведацца ў Мамонаўку, каб пабачыцца з Чубарам, ён і слова не сказаў.) Але спаць клаўся зноў, як прыгнечаны. Калі вячэралі разам — маці, бацька і Масей,— пачалася, як і водзіцца ў такім выпадку паміж людзьмі, што доўга не бачыліся, гаворка. Спярша гаспадар трохі расказваў пра нараду ў Бабінавічах, што хацеў ад прысутных камендант на ёй і як тыя ўспрынялі паведамленне аб «новым парадку». Потым пачаў расказваць пра сваё турэмнае жыццё Масей. Ужо недзе на палавіне яго размовы бацька, які ці не адразу звёў над пераноссем бровы, раптам у дадатак перасмыкнуў ад прыкрасці левай шчакой, сказаў:

— Ат, і ахвота табе, сын, увесь час язык таміць на адным! І сабе вярэдзіш душу і нам з маткай галовы тлуміш! Ну, было! Але ж я табе казаў ужо!.. Цяпер не час пра гэта ўсё ўспамінаць! Ты адпакутаваў, другі папакутаваў! Ды што нашы тыя пакуты ў параўнанні вось з гэтымі, калі ўвесь народ у бядзе?

— Бяда — яна заўсёды бяда,— спакойна, але нібыта трохі насмешліва паглядзеў на бацьку Масей.— І малая — бяда, бо яна чыясьці, і вялікая — бяда, бо яна таксама нечая. Думаеш, калі я пра сваю гавару дык іншага не бачу ці не адчуваю? Але мяне дзівіць — ты ўсё роўна як не верыш таму, пра што я гавару. Сам жа, нябось, таксама нямала папакутаваў. Ну, няхай праз мяне. Так у нас і выходзіла — ты праз мяне, а я праз каго?

— Гэтага я не ведаю!

— І не хочаш ведаць.

— Гм,— паёрзаў на ўслоне бацька.— Я кажу, не час цяпер пра гэта ўспамінаць! Вайна ж!

— Для цябе, бацька, вайна — усяго толькі вялікая бяда...

— І час вялікага выпрабавання!

— Няхай так. Але ж зразумей — вайна не толькі ўсенароднае гора, яна таксама і вынік палітыкі, якая вялася перад гэтым.

— Ну і што, калі вынік палітыкі?

— А тое, што ў цяперашнім адступленні жалезнай заканамернасці няма, значыць, маглі немцы наступаць, а маглі і мы.

— А-а, вунь ты пра што! Значыць, ты хочаш сказаць, што вінавата савецкая ўлада?

— Чаму? Я хацеў сказаць...

— Ну, вось што, сын! — адразу пацішэў, робячы халодны голас, бацька.— Ты сваё тое, што хацеў сказаць, трымай пры сабе!.. Паслухай лепей мяне!.. Можа ж, я заслужыў хоць сваімі пакутамі, як ты кажаш, сказаць гэта!.. Для мяне савецкая ўлада — як для маці тваёй ты!.. Ей, бачыш, няма ніякай справы да таго, які ты цяпер і што ты гаворыш, і што збіраешся рабіць!.. Ты для яе па-ранейшаму такі самы, якім яна цябе нарадзіла!.. А ўжо ты павер мне — ні адна маці не хоча, каб дзіця ў яе было кепскае!.. Яна б тады і мучыцца не мучылася праз яго. Нават не раджала б!..

Вось гэтак і для мяне савецкая ўлада! Я яе таксама... ну, калі хочаш ведаць, я яе таксама раджаў!.. Я за яе біўся! Я за яе пакутваў!.. Бо мы ўсе, хто за яе біўся тады, ведалі, якая гэта ўлада і навошта яна людзям патрэбна!.. Канечне, цяпер у немцаў ці ў якога-небудзь Брава-Жыватоўскага можна праслыць героем, лаячы савецкую ўладу, расказваючы розныя жахі!..

— Ды не лаю я! Я толькі кажу, што...

— Вось ты ўвесь час кажаш, а я дак і дасюль не ведаю, з чым ты дамоў прыйшоў, што ў цябе ў галаве?

— Ну-у, бацька, ты ўжо зусі-і-ім!..

— І не зусім, а кажу пра тое, пра што павінен сказаць, бо я табе бацька. З такім настроем цяпер, ведаеш?..

— У нас з табой выходзіць так, што, здаецца, далей ужо і няма куды.

— Так, далей ужо і праўда няма куды! — паківаўшы галавой, з задумлівым выглядам сказаў бацька, усё роўна як убачыў за гэтымі сваімі словамі, таксама як і за сынавымі словамі, штосьці зусім іншае, нейкі

другі сэнс, а не той, які ўкладваўся ў іх на самой справе.

Больш яны не загаварылі. Акурат дзеля прыліку пасядзелі колькі часу за сталом па абодва бакі насупраць, а як Марфа пачала прыбіраць апрастаны посуд, усхапіліся ледзь не разам на ногі і разышліся ў розныя канцы — бацька выйшаў нечага ў сенцы, сын, наадварот, даўшы на хату глухое «дзякуй», скрыўся за філёнкавымі дзвярамі на другой палавіне пяцісценкі.

А потым быў пажар у Паддубішчы. Хоць і пачаўся ён недзе пасля паўночы, але ў Зазыбавай хаце сон звычайны тады яшчэ да ўсіх не прыйшоў. Уласна, спала пакуль адна Марфа. Бацьку з сынам як кажуць, не да моцнага сну было. Яны то зусім не зводзілі вейкі, варочаючыся з боку на бок, кожны на сваёй пасцелі, то ляжалі ў паўзабыцці, не губляючы цалкам свядомасці. Думкі ў абодвух віравалі неспакойныя, трапяткія, як і тое полымя, што кідала з Паддубішча водбліскі на вёску, памнажаючы такім чынам агульны неспакой на цёмных вокнах верамейкаўскіх хат. Спярша было цяжка адрозніць, ці гэта ўсё яшчэ свяціў у хату, туляючыся за вёскай, месяц, ці сапраўды штосьці гарэла. Нарэшце, нехта крыкнуў на вуліцы: «Пажар!»

Зазыба быў адзіны чалавек у вёсцы, які лішне не раскідваў у галаве, каб адгадаць, хто падпаліў гэты пажар. Але дзіва — узяўшы адразу пад падазрэнне Чубара, ён не асудзіў яго, што той прывёў сваю пагрозу ў выкананне, толькі скалынуўся душой, быццам у нейкім утрапёным неўразуменні, быццам ўсё яшчэ да канца не верачы, што такое наогул можна рабіць на самой справе.

Прайшоўшы на другую палавіну хаты, якая цалкам цяпер належала Масею, бацька спыніўся насупраць акна, зробленага ў сцяне, што выходзіла ў бок глінішча.

Ад агню ў Паддубішчы чырвань разлілася ў працягу да самай вёскі, здавалася, яна варушылася наперадзе, ўсё роўна як недзе сыспаду яе краталася ад рухомага паветра вялікае, на ўсю шырыню, прасцірадла. Праз акно чырвань мітусілася і на падлозе ў хаце, бліжэй туды да філёнкавых дзвярэй, на грубцы, што стаялі ў пакоі з левага боку ад увахода, таксама трапятала трохі на сценах, на стале. Але больш за ўсё, бадай, клалася яе на Зазыбу. Той стаяў пры акне, відны знад-

ворку па пояс. Твар яго меў ад гэтага зусім пафарбаваны выгляд, а вочы, у якіх разам адбілася мноства палаючых кропак, нагадвалі хутчэй два выпуклыя шкельцы, чым жывыя абалонкі, здольныя не толькі адлюстроўваць усё, што траплялася на шляху, [redacted] таксама выпраменьваць адзнакі жыцця, у першую чаргу думку, якая валодала ў гэты момант ім.

Хоць пажар гарэў далёка, але нават на такой адлегласці, праз шкляную шыбіну, Зазыба адчуў неўзабаве на сваім твары гарачыню, і калі як міжволі дакрануўся рукой да свайго лоба, далонь нібы апякло — гэткім моцным было ўражанне ад бачанага.

Зазыбу чамусьці здавалася, што Чубар недзе там бегае ўвесь час з агнём паміж коп, раскідвае з іх направа і налева ахопленыя полымем снапы. У самым пачатку пажара, яшчэ да таго, як усхапілася на ногі вёска, яно акурат так і было. Але цяпер Чубара ў полі ніхто б не ўбачыў, каб і хацеў. Там наогул нікога жывога не было, гарэлі адны копы — успыхвалі і праз нейкі час патухалі. Зазыба раптам ажно ўздыхнуў [redacted] палёгкай, і адразу нейкая слабасць і тайная здаволенасць авалодалі ім. З гэтым адчуваннем ён адарваўся ад акна, вярнуўся на сваю палавіну хаты. Хутка з вуліцы прыйшла і Марфа.

— Гарыць? — спытаў ён такім голасам, быццам справа ішла аб дажджы ці яшчэ аб нечым нязначным.

* * *

Між тым у вёсцы сапраўды былі два чалавекі, якім калі і не абыходзіла гэта зусім, то ў кожным разе не надта турбавала. Адзін з іх — Зазыбаў Масей.

Так, ён выбягаў разам [redacted] маці на ганак глядзець уначы пажар, гатовы быў нават падацца тушыць яго, каб спяшаліся другія. Так, ён збольшага разумеў, чаго павінны былі ехаць уранні вясковыя мужыкі ў Белую Гліну, у тым ліку і яго бацька. Аднак датычыла яго гэта і праўда пастолькі, паколькі жыў ён цяпер у Верамейках і не мог не бачыць усяго, што рабілася тут, таксама як і не мог не чуць, пра што гаварылі вакол яго вяскоўцы. Словам, Масей пакуль не адчуваў сябе ў роднай вёсцы сваім, тут яшчэ нічога не было яго, зробленага асабіста ім, ягонымі рукамі, альбо выпаку-

таванага душой і сэрцам, хутчэй Масея па пачуццях яго можна было палічыць чалавекам прышлым, які да таго ж не збіраўся доўга затрымлівацца на адным месцы і які здольны толькі ў нейкай ступені спачуваць тутэйшай бядзе.

Першы дзень пасля вяртання ў вёску Масей амаль не пакідаў хаты. Не кажучы пра вялікую дарогу, пройдзеную ім з Мінска ў Верамейкі, была патрэба адпачыць нават пасля лазні. Гэтак рабілі заўсёды людзі, што адпачывалі пасля лазні, абы ставала часу. Ну, а Масею часу цяпер не пазычаць было. Здавалася, над ім раптам спынілася сама вечнасць — у параўнанні з тым, як ён жыў дагэтуль, што ад яго патрабавалася штодня, як ён павінен быў пільнавацца ў кожнай новай сітуацыі, каб іншы раз проста ўцалець, астацца жыць, нарэшце настаў час, калі раптам да яго не стала нікому справы, быццам чалавек атрымаў адусюль бестэрміновае звальненне з-за непатрэбнасці сваёй. Зразумела, што адпаведна становішчу, у якім знаходзіўся, ён і адчуваў цяпер і паводзіў сябе. Пакуль адно вяртала яго з гэтага стану — прысутнасць бацькі, адносіны з ім, размовы; тады Масей пачынаў хвалявацца, усё роўна як нанава актыўна перажываў зведанае ў апошнія гады. Але гэта — калі што датычыла мінулага. Сённяшняе, таксама як і будучае, яго не займала, прынамсі, у такой ступені, як вымагалі таго час і падзеі. Разам з тым бацька дарэмна скрозь папракаў яго і непакоіўся, што Масей будзе рабіць і гаварыць усім у вёсцы лішняе. Як праўдзе, то Масей зусім не адчуваў у гэтым патрэбы. Адна справа працягваць міжвольна жыць нядаўнім мінулым, на тое яно і нядаўняе, асабліва ягонае, жудасна-пачварнае, іначай і не скажаш, другая справа свядома бунтаваць тое мінулае, распальваючы ў сабе, таксама як і ў тых, з кім размаўляеш, непатрэбныя страсці. І ўжо калі разважаць такім чынам далей, дык Масей недзе мог бы нават растлумачыць сабе, чаму ён наогул усчынаў гаворку, якая абурала бацьку: хутчэй за ўсё вінавата ў гэтым была зацятая бацькава непрымальнасць, ад якой Масею рабілася не толькі крыўдна (выходзіла, нібыта ён знарок плёў абы-што), але якая выклікала ў ім упартае жаданне абавязкова пераканаць у сваім, давесці сваё.

З маці Масею было лепш. Ад яе блізкасці, ад яе

клопату прыходзіў той спакой, які, здавалася, ужо адзін адхіляў усё пачварнае. Больш таго, дома Масей паспрабаваў нават складаць вершы — выходзіла, адагрэлі ў аўчыне застуджанае птушаня, і яно адразу стрыпянулася крыламі, запяяла. Але спеў атрымаўся запознены, той, што засеў у горле яшчэ на марозе, Здавалася, у душы абуджалася нешта жывое, гаючае, а на паперу легла зусім іншае, ад чаго сам Масей схамянуўся.

Калі за краты прывяла дарога,
час надышоў зямному мурашу,—
надзеі ўсе на бога ўсклаў нябога,
агнём збавення...

Але ж гэта было складзена яшчэ ў сутарэнні,— схамянуўся Масей.— Ды і пры чым тут бог?.. Адкуль ён?..»

Агнём збавення...

Уражаны, Масей колькі часу нерухома сядзеў над сшыткам, тады, быццам у сутарзе, скамячыў рукою пачаты аркуш, адарваў ад сшытка і кінуў праз расчыненае акно ў палісаднік. Тым не менш недзе падсвядома ў галаве не пераставала біцца ранейшая думка, і ён неўзабаве ўсё-такі дадумаў апошні радок:

Агнём збавення высветліў душу...

Так, агнём збавення...

Масей ускочыў на ногі і пачаў хутка мераць хату ад стала да грубкі, звычайнай печкі-галандкі.

Збавення...

Вось тут, у гэтым «агні збавення», няйначай, пачатак усяго.

Раптам Масей адчуў у сабе нейкую расчараваную стому, нібыта за гэтыя колькі хвілін, што сядзеў за сталом, была страчана ўся душэўная і разумовая энергія. На сшытак ужо было ажно страшна глядзець, усё роўна як належала ўпісаць у яго прысуд сабе.

А ўранні маці паклікала яго ў Паддубішча.

— Хадзем, можа, сынок, паглядзім, што тама пажар еты натварыў,— сказала яна.— Калі і па нашай паласе пахадзіў, дак награбу на копнішчах хоць зерня. Не ўсё ж яно тама пасмягла.— А тады нечага адразу стала закідваць слова і за бацьку, нібыта ўвесь гэты час, што мінуўся ў бацькаву адсутнасць, яна

толькі адно і думала аб учарашняй размове.— А можа, бацька і праўду казаў. Шкада во толькі, што некалі яму. Усё неяк без яго людзі не могуць. Хоць бы і цяпера. Я іншы раз таксама вазьму што-небудзь у сэрца, ляпну абы-што, а пасля сама вінавачу сябе — навошта было? Бытта без естага і пражыць нельга? А яно і сіл маіх ужо на ўсё не стае. Здаецца, дасюль яшчэ мадзела неяк, яшчэ трымалася пакрысе, а цяпера во ногі кожны раз падкошваюцца. Як што якое, дак сэрца бытта апускаецца і ногі падкошваюцца. Ну, да хвала богу, ты вярнуўся, цяпера дома, дак... Але не думай, што бацькава слова абы-якое. Ты яго слухай іншы раз, а то мне ўжо часам і не панятна, каго з вас шкадаваць. Ты, сынок, дабрэй да яго, дак і ён дабрэйшы будзе да цябе. А калі што якое, то я ўжо ў крыўду не дам.

Марфа высмыгнула з лахманоў на тапчане паласатую дзяругу, якой накрываўся ўначы бацька, утаптала яе, не складваючы ў рэдзі, у мяшок і ўсміхнулася Масею, акурат змоўшчыца якая.

З двара яна не павяла сына па завулку, а збочыла адразу з ганка, што ў двары, да той форткі на гарод. Там у яе на дошках, складзеных у шурку пры хляве, ляжаў пранік — аббівала нядаўна проса. Узяла яго, кінула наверх дзяругі ў мяшок. На мяжы, што служыла праз гарод не дужа патоптанай сцежкай, прапусціла паперад сябе сына, і яны пайшлі так, адзін за адным, між бульбоўніку да пералазу. Для Масея ўсё было новае вакол, ва ўсякім разе, успрымалася як новае ці дужа даўно бачанае. Але на гародзе позірк амаль не затрымаўся, вочы, што тыя зайцы, адразу гайсанулі далей, спярша да бальшака, што вызначаўся за аўсом разгалістымі бярозамі, тады нібыта адшукалі кусты на краі глінішча і, нарэшце, спыніліся на соснах, якія раслі на вясковых могілках. Пры гэтым знарок хацелася бачыць усё як нанава, адзначаючы і тое, што з'явілася за ваколіцай у яго адсутнасць, і тое, чаго не стала. Пра танкетку, якая сажай чарнела на аўсяным узмежку, ён неяк пасаромеўся нават пытацца ў маці,— ці мала пакарэжанага, закопчанага металу давялося пабачыць за дарогу ў Верамейкі, а вось пра буслянку, што на бярозе ля могілак, не ўтрымаўся загаварыць:

— Здаецца ж, буслы раней гняздо мелі не там?

— А-а-а,— усміхнулася маці,— запомніў? Дак тае бярозы няма. Пчолы ў дупле знізу былі завяліся, ну, і некаторыя нашы аматары даставалі мёд, усё дупло падразалі шырэй, каб лягчэй браць соты, а тады ў навальніцу бура і саўсім зламала дрэва на надрэзаным месцы. Так што колькі гадоў пасля не было дзе сесці буслам. Прыляцяць вясной, пакружаць над вёскай і паляцяць назад. Ну, [redacted] тады неяк Яшка ўзвалок барану і на ету бярозу. А ты от прыкмеціў ай не, што на ґняздзе ўвесь час адна і адна птушка стаіць, і ніхто к ёй не прылятае?

— Не.

— Дак ета сама бусліха, а бусла няма.

— Чаму?

— Тута ў нас цэлая гісторыя раней [redacted] етым была,— адказала Марфа.— Бачыш, бяроза якая тоўстая, што ажно голлем дастае цераз дарогу на Ляксейкаў гарод? Дак з етага якраз і выйшла ўсё.

Паўз лазню, што стаяла з накінутым на прабой чэпам, яны ўжо выпроствалі па быльніку да глінішча, каб трапіць на сцежку, па якой належала ісці далей, на гуцянскую дарогу, а адтуль у Паддубішча.

Дыхалася Масею, як у звычайную пагожую раніцу, хоць асаблівай узнёсласці, якая здараецца ад раптоўнага далучэння да прыроды, не адчувалася.

Сонца тым часам страціла ўжо ранішні выгляд, было сліпучае і гарачае; стоячы акурат над гуцянскай дарогай і мала не дайшоўшы да жытнёвага палетка на кургане, яно свяціла цяпер у твар.

Убачыўшы злева ніжэй бружмелевага куста на тым беразе рова адкрытыя пячуркі, Масей адразу падумаў: вось добра, трэба прынесці на бацькаў падворак у кашы гліны, можа, сапраўды калі сверб у руках з'явіцца...

Некалі ён збіраўся паступаць у мастацкае вучылішча, але не выйшла па самай простай прычыне, з-за вялікай адлегласці — Віцебск, дзе было ў Беларусі адзінае такое вучылішча, знаходзіўся далёка ад Верамеек; тым часам зусім блізка, у Мсціслаўлі, ужо каторы год працаваў педтэхнікум, дзе вучылася на настаўнікаў сялянская моладзь з усёй акругі. Гэта і вырашыла канчатковы выбар. Тым больш што дамашнія, пачынаючы ад дзеда Яўмена, таксама не ўхвалялі намер «ляпіць з гліны чалавекаў». Іншая справа — настаўнік!

Але захапленне, якое абудзіў у хлопцу ў час грамадзянскай вайны чэх з інтэратрада, не траціла над ім улады.

Маці ступіла першая на сцежку з рудога быльніку, азірнулася на Масея.

— Дак паслухай далей, як яно было з етымі бусламі,— сказала яна, чакаючы, пакуль наблізіцца сын.— Зяць у Ляксейкі завёўся з пасёлка Слабадскога, здаецца. Ты ж, пэўна, помніш іхнюю Зену, дак прыехаў да яе, і не абы-хто, каб сказаць, а настаўнік. Я ўжо не ведаю, што чытаў ён у школе, пра ета табе другі хто скажа, але з вінтоўкай ён бегаў часта па Верамейках. Як прыехаў к нам, дак за школай верамейкаўскія хлопцы адразу нават стрэльбішча выкапалі, значкі розныя на грудзі начапілі. Усё хадзілі страляць па кружочках чорных. Іншы раз ідзеш паўз той роў к возеру бялізну паласкаць, а яны ажно валяюцца тама, тыя намаляваныя на паперах кружочкі, быццам птушка іх падзяўбла. Ну, на што ўжо вінтоўка ў яго добрая была, дак нячутна страляла, груку не рабіла. Шпокаюць паціху тама хлопцы сабе каля школы пад горкай, а нам тута ў вёсцы і не чуваць. Але ж я не пра ета. Вось што было. Глядзеў неяк настаўнік, што буслы носяць у гняздо вужоў. Ну, а яно і праўда — буслы ж кормяцца абы-чым па нашаму людскому паняццю: то жаб на балоце ловяць, то вужоў выглядаюць, а то і гадзюку налучаць. Тады і нясуць усё жывое ў гняздо. А калі бусліха сядзіць на яйках, дак і яе ў тую пару карміць трэба. Я ета к таму, што кожны ведае, чым буслы звычайна кормяцца. Ну, а ён, Ляксейкаў зяць, бытта першы раз убачыў. Кажа, панапускаюць гадзюк у горад, а тыя і ў хату напаўзуць. Схапіў у гарачцы вінтоўку да й стрэліў, доўга не думаючы, забіў бусла.

— А верамейкаўцы што?

— Дак што мы! Пашумелі трохі, а тады перасталі. Ведалі, што буслы адпомсцяць за сябе. Махнытку на страху прынясуць адкуль. І што ты думаеш — разы два ўжо Ляксейкаў двор загараўся, аднак заўсёды хто-небудзь нахопліваўся, то сам Ляксейка, то Ціток таксама аднаго разу выратаваў сям'ю ад пажару, убачыў з сельсавета агонь да падняў шум.

— А зяця Ляксейка пасля таго не прагнаў? — спытаў Масей.

— Дзе ты прагоніш яго! Да і навошта? Што ні кажы, а настаўнік. Такія зяці на дарозе не валяюцца.

Тады Масей яшчэ спытаў:

— Дзе ж ён цяпер, настаўнік?

— На вайне. Усе ж на вайне, дак і яго забралі па мабілізацыі. Кажуць, чалавек ён бытта не благі. Ляксейка заўсёды дайжа хваліў на людзёх, а во што дурны, дык ужо праўда. Тута ніхто нічога не скажа. Навошта было забіваць карысную птушку?

— Бусліха з таго часу адна?

— Адна. Праўда, усё ж вывела ў той год птушанят. Хоць і галодная колькі дзён сядзела на яйках, пакуль тыя не вылупіліся, а вывела. Але ж навучыла лятаць да ў вырай паслала, то, можа, і сама больш ніколі не бачыла іх. Адна кожны год прылятае. Як толькі прataліны зацеплюцца на курганах, дак і ляціць сюды. Займе гняздо першая і сядзіць сабе. Другія буслы папаркуюцца, а яна так. Як не стала яе бусла, дак другога і не завяла. Бывае ж, буслы б'юцца за гняздо, хочуць заняць самі чужое, але на яе, здаецца, ні разу не нападалі. Пакружацца над бярозай і паляцяць у іншае месца, усё роўна, як ведаюць, што не трэба чапаць, акурат здагадваюцца, што аўдавела птушка. А яна сядзіць вось так і сядзіць, з вясны да восені. Нават мала калі па ежу на балота лятае. Да і што ёй адной трэба тае ежы! Ета як і чалавеку аднаму — абы клопату меней. А нашы ўсё гавораць: Ляксейкаў двор пастаіць цэлы толькі да трэцяга разу.

— Цяпер будзе стаяць,— акурат запярэчыў Масей.— Відаць жа, няма каму ў вёсцы падпальваць.

— Можа, й так,— кіўнула галавой, хаваючы глыбокую ўсмешку, маці.— Не бабы ж рабілі ета, што падпальвалі. Ну, а мужыкоў цяпера на вайну пабралі, дак ты правільна кажаш: будзе стаяць, нічога з ім, етым Ляксейкавым дваром, не стане. Я во думаю толькі, чаму яна адна, бусліха? Няўжо не можа знайсці сабе новага да пары?

— А буслы не шукаюць,— сказаў, трохі падумаўшы, Масей.— Дажываюць дні ўжо адзін па адным, калі раптам што здарыцца.

— Глядзі ты, вернасць якая! — па-добраму здзівілася маці, пасвятлеўшы тварам, усё роўна як гэтае адкрыццё дадавала нешта зусім нечаканае ў яе ранейшае разуменне; Масей адчуў нават, што маці парывалася прадоўжыць сваю думку, але ці то саромелася гаварыць пры ім, ці якая іншая прычына стрымліва-

ла; нарэшце ўсё ж загаварыла зноў: — А яно цяпера неяк выходзіць само, што верамейкаўцам часта даводзіцца вачамі свяціць. І хоць бы ў адных сваіх шал у галаве быў, а то і чужыя дабаўляюць. Во і надоечы выйшла нядобра. Тута Раман Сёмачкін прывёў з сабой аднекуль чалавека, кажуць, уцяклі разам з войска, дак той застрэліў дайжа лася. Мы ўсе жыта ў полі жнём, якраз падзялілі, а ён убачыў лася на сухадоле да й стрэліў. Тута звеку таго лася ніхто жывога не бачыў, а ён раптам... Малое ў лася засталося. Кажуць, зусім як цялятка ў каровы. Цяпера недзе нудзіцца адно. Ажно шкода. Хоць ты схадзі куды да пашукай у кустах, каб у хлеў прывесці. Няхай бы вырасла дома, а тады і ў лес не страшна пускаць падужэлае.

Дзіва, але калі б загаварыў вось гэтак пры ім хто іншы, а не яго маці, Масей няйначай прыйшоў бы ў захапленне, уражаны і шырынёй думкі і глыбінёй пачуцця. Аднак, слухаючы сваю маці, Масей далёкі быў нават ад звычайнай замілаванасці з гэтай прычыны, усё роўна як яго маці і павінна была вось так, а не інакш разважаць і адчуваць...

А маці, між тым, гаварыла і хапалася ісці, нават тая немалаважная акалічнасць, што сёння побач крочыў сын, не магла не выдаваць у яе рухах сялянскай нецярплівасці хутчэй трапіць на палетак.

Яны падыходзілі ўжо да гуцянскай дарогі, дзе стаялі расчыненыя вясковыя коўраты, якія насупраць моста з таго боку ўмоўна падзялілі Верамейкі на дзве часткі; з гэтага боку, ад гарбатага поля, што спадзіста прытулілася да самых вясковых двароў з так званымі верхнімі гародамі, перад гуцянскай дарогай сцежка ўзбягала на высокі грудок, усё роўна як знарок насыпаны некалі людзьмі для нейкай няпростай патрэбы; адсюль найперш кідалася чалавеку ў вочы сваёй бліскучай паверхняй сплюснутае возера, хоць на самой справе яно было круглае, потым лес паміж вадою і небам; і што дзіўнае, а можа, і не так дзіўнае, як нечаканае для таго моманту, калі адкрываеш гэта,— бляск, колер неба і вады, здавалася, заўсёды залежалі адно ад другога; затое прыбярэжны лес, скрозь хвойны, кожны раз быў адзін і той жа, акурат даўно перастаў расці. Масей таксама перш за ўсё ўбачыў з грудка возера, за ім лес. А ўжо тады ўвагай цалкам завалодаў выгляд роднай вёскі. Раней яму чамусьці і ў голаў не прыхо-

дзіла, што Верамейкі падобны знешне на сагнуты лук, дзе цецівой была сцяна лесу за возерам, стралой — кароткая вуліца, якая завецца Падліпкамі, а пруткай дугой — сама вёска, якая агінала возера. Адкрыўшы для сябе гэта, Масей нават здзівіўся, што нечакана магло прыйсці такое дакладнае параўнанне. Цеціва гэтага своеасаблівага лука даўно была туга напята, адно залішне блізка сціскала ў абодвух канцах дугу, а страла ўсё не вылятала. Не вылятала, можа, таму, што не мела пакуль перад сабой пэўнай мэты. Уражаны сваім адкрыццём, Масей яшчэ нейкі час не думаў, што яна з аднолькавым поспехам здольна працяць і яго; можа, наогул прызначана для яго з самага пачатку, як толькі дакранулася адным канцом цецівы, а другім лягла на самы выраз дугі; але вось ён нарэшце ўявіў гэта і раптам адчуў штуршок у сэрца, нібыта сапраўды страла дастала яго. Вядома, адчуванне штуршка было выклікана сілай уяўлення, чалавечай здольнасцю даводзіць у сабе гэтае ўяўленне да рэальнага адчування. Аднак галоўнае было ўсё ж у тым, што Масей адчуў штуршок у сэрца зусім як сапраўдны, здавалася, яно зрушылася з ранейшага месца за левай грудзінай і ці то перамясцілася ўправа, ці то зусім павялічылася, заняло ў грудзях больш таго месца, якое яму належыць. І, бадай, не менш значным для Масея сёння было, што за гэтым штуршком да яго прыйшло новае адчуванне — раптам улавіў вакол сябе ў паветры пах іржышча, які не даваў спакою ад самае ночы ўсім у вёсцы, апрача яго. І вось ён нарэшце таксама адчуў яго, зразумеўшы тым часам і матчын клопат, які змушаў яе спяшацца ў Паддубішча. Другім разам ды каб у другім месцы Масей, мусіць, не даў бы веры сам, што так можа наогул здарыцца з чалавекам. Але нечаканая перамена адбылася з ім, значыць, не падлягала сумненню, хоць у гэтым — прымаць альбо адмаўляць яе — не было патрэбы зусім. У Масеевых вачах не было таго павярхоўнага позірку, які коўзае з канца ў канец далягляду, але не можа спыніцца на чымсьці пэўным, каб ад гэтага пэўнага захалынула раптам душу; скрозь па вёсцы ён бачыў зверху ўсё да драбніц, пазнаваў, і чыя дзе хата, і якія дрэвы абапал вуліцы, і шмат яшчэ якія рэчы і прадметы, з чым некалі шчыльна звязана было яго жыццё — у дачыненні да чалавека ўсё гэта называлася і называецца родным і знаёмым. Зноў адсюль,

з грудка, стала відно буслінае гняздо на бярозе і адзінокая бусліха на ім, нібыта яна сапраўды зніякавела там назаўсёды. Між тым з грудка было відаць не толькі блізкае, але зусім і далёкае адсюль — паўзверх лесу, які меў шырыню, бадай, не меней трох кіламетраў, вачам адкрываліся жоўтыя ўзлобкі палёў па той бок Бесядзі, па правы бераг яе. Яны бачыліся якраз на ўзроўні гэтага, грудка, не ніжэй і не вышэй, а лес стаяў у глыбокай нізіне, якая была непрыкметнай толькі дзякуючы высокім і густым дрэвам.

Маці ўжо спускалася з грудка к дарозе, там ад коўрат ішлі ў Паддубішча верамейкаўскія бабы. Тыя таксама ўбачылі Марфу з сынам — у вёсцы ўжо ведалі, што вярнууся дамоў Зазыбаў Масей,— прыпыніліся. Яшчэ падыходзячы к дарозе, Масей пазнаў жанчын у твар, толькі адна, абапал якой стаялі два хлопчыкі, здавалася незнаёмай. Але хутка і яе ён адгадаў — Карпілаву Ганну. Тады, як жыў у Верамейках, Ганна была маладзенькая і без дзяцей.

— Здрастуй, Дзянісавіч, здрастуй,— адказалі на Масеева прывітанне жанкі, зусім без сарамлівасці разглядаючы яго; пасля загаварылі да Марфы: — Што ж ета выходзіць, Давыдаўна, мужыкі пазапрагалі коні, каб ехаць чортведама куды, а тута... Што ета рабіць нам?

— А хто яго ведае,— шчыра прызналася Марфа, акурат давольная, што да яе звярталіся бабы з агульнай для вёскі трывогай.

— Ну, а Зазыба?

— Дак што цяпера для вас Зазыба! — быццам ужо ў злосці паціснула яна плячамі.— Такі, як і ўсе.

Масея жанкі, між тым, усё роўна як не заўважалі цяпер. І толькі дзеці Ганны Карпілавай зіркалі вачанятамі на яго, а тады паварочвалі непадобныя тварыкі адзін да аднаго і ўсміхаліся нечага.

— То пойдзем ужо, бабы? — паклікала жанок старая Цітчыха, якая таксама стаяла ў гурце.

Спярша Масей ішоў трохі зводдаль ад кабет, але неўзабаве з гурту, акурат неўзнарок, выбілася са сваімі хлопчыкамі Ганна Карпілава і, даўшы Масею дагнаць сябе, загаварыла, увесь час рэзка паварочваючы да яго ўсмешлівыя вочы.

— Вы мяне, мусіць, не пазналі, Дзянісавіч? — сказала яна найперш.

— Чаму ж, пазнаў.

— А я думала, не пазнаеце.

— Гэта абодва твае?

— Ма-а-е-е, растуць во, бязбацькавічы,— весела адказала яна амаль нараспеў.

— Па колькі ж ім?

— Большаму...— хацела дакладна адказаць Ганна, але быццам спахапілася чагосьці і не стала гаварыць.— Малыя яшчэ, бачыце?

— Сама як жывеш?

— Жы-ыву,— уздыхнула Ганна.— Але якое цяпера жыццё? Самі разумееце. Як кажуць, было-было, дый пагоршала.

— Замужам была? — спытаўся нечакана Масей, усё роўна як не дапускаў у сваім запытанні звычайнай непрыстойнасці.

Але дарэмна — Ганна нават ценю на твар не пусціла.

— Не была і ўжо, мусіць, не буду,— сказала яна.— Якое цяпера замужжа? Толькі і ўцеха адна, што з другімі зраўнялася, цяпера мы ўсе тута аднолькавыя — і саломенныя ўдовы, і праўдашнія, і тыя, што замужам, і тыя, каму не павязло з етым. Як у той песні пяецца — нам учора праява была, а сягоння другая. Ну, а як вы, Дзянісавіч?

— Ды от, вярнуўся дамоў.

— А я ўсё, бывала, вершы вашы чытала.

— Якія ж? — усміхнуўся Масей.

Ганна трохі памулілася, быццам разгубілася, што пахвалілася, а на памяць нічога не прыйдзе, тады сказала:

— Ну, хоць бы той, помніце, што пра дарогу? Адна дарога адсюль ад нас вядзе на Белы Камень, другая — на Іркуцк.

— Праўда, быў такі верш,— яшчэ больш заўсміхаўся Масей.— Але цяпер я вершаў не складаю, Ганна.

— Дарэмна,— адразу паверыла маладая кабета.— Прыгожыя былі вершы. Дужа неяк цікава рабілася, што наш, верамейкаўскі, складае іх.

— Гэта, мусіць, таму цікава табе, што ты сама ў душы паэт.

Аднак ад гэтае дзіўнае пахвальбы Ганна не закрылася рукой і не пачырванела, толькі не знайшлася раптам што адказаць. Так і ішлі яны колькі часу моўчкі

следам за кабетамі, пакуль меншы хлопчык, які тупаў, бы прыколаты шпількай да матчынай спадніцы, не падаў тонкі галасок:

— Мам, а ці доўга мы тама будзем?

— Во,— не адказваючы малому, усміхнулася Масею кабета,— ледзь не плача, як не хоча ісці разам у поле. Ета ўсё Васілёк, а Петрачок у мяне гаспадар: раз трэба, дак ужо трэба,— вельмі ласкава пахваліла яна свайго большага, ажно Масей не вытрымаў, каб не заступіцца за Васілька, сказаў, пераводзячы позірк з аднаго на другога хлопчыка, у захапленні:

— Сапраўды, добрыя ў цябе мальцы!..

— Ат, звычайныя,— адчуўшы Масееву знарочыстасць, махнула рукой Ганна.— Як і ўсе малыя. З імі часам і гора набярэшся, а іншы раз дак і радасці. Ета ж толькі каб расказаць каму!.. Во, нядаўна стаяць пад бярозай, дзе буслянка ў нас, і плачуць. Кажуць, пашкода буслісі. Стаіць на гняздзе і лятаць не хоча. Памрэ [illegible] голаду. Ну, а мне самой не да етага, дак я і скажы сярдзіта: а вы занясіце ёй туды, на бярозу, ежы. Сказала, [illegible] сама, дурная, пайшла ў амбар. Думаю, паплачаце, дай дамоў пойдзеце, нікуды не дзенецеся, бо самі хутка есці захочаце. А тута, у гадзіне якой, прыбягае к амбару Лістратава ўнучка, крычыць, хлопчык твой большы на бярозу палез. Ну, мне й цюкнула ў галаву — дурная ж я, дурная!.. Выходзіць, сама падбіла нéсмысляў. Пабегла, як стаяла, туды, а ён ужо, мой Петрачок еты, да палавіны бярозы далез з акрайцам хлеба за пазухай. Накарміць бусліху рашыўся. Ледзь угаварыла, каб апусціўся на зямлю. Што ты будзеш пасля рабіць — пашаснецца тама й паляціць уніз на карэнне. Будзеш потым валасы на сабе рваць, каяцца ўсё жыццё. Во якія яны ў мяне, яшчэ і праўда зусім несмыслі. Возьмуць сабе ў галаву глупства, а ты пільнуй тады іх, каб што не натварылі.

Пярэднія кабеты, між тым, дайшлі да канца, ад якога пачынаўся жытнёвы палетак, але не затрымаліся на крыжавіне — адны падаліся далей па гуцянскай дарозе, другія павярнулі на бакавую, каб адтуль ужо рушыць кожная на сваю паласу.

— Ну што, Дзянісавіч, мне таксама туды,— паказала Ганна на бакавую дарогу.— Пайду глядзець. Можа, засталося трохі снапоў. Дак у госці тады прыйдзіце. Пастаўлю во соладу з етага гарэлага ў начоўкі,

прарашчу дай самагонкі націсну. Буду частаваць. Такшто прыходзьце, Дзянісавіч!

Масей недарэчна заплюскаў вачамі — маўляў, самагонкі дык самагонкі, хоць у жыцці сваім ён, здаецца, ніколі не піў яе і не ведаў нават смаку, а тады пачаў прыспешваць крок, каб дагнаць маці, якая ўсё яшчэ ішла са сваімі канчанскімі бабамі.

— А што, Ганна гэта і праўда адна ўвесь час жыве? — пацікавіўся ён у маці, калі яны нарэшце засталіся ўдваіх.

— Дак а з кім ёй яшчэ быць! — быццам не залюбіла ў адказ маці.

Масей адчуў гэта і больш не стаў пытацца.

Хутка яны ўзышлі цераз прыдарожную канаву на ржышча. Ад самай дарогі копы не загарэліся ўначы, таму ржышча тут кругом мела выгляд учарашні, жоўты, без аднаго чорнага лапіка. Пажар палютаваў пасярод палетка ды бліжэй да бакавой дарогі, куды пагнаў полымя вецер. Але спрактыкаванаму воку было відаць, што пачынаўся пажар не ў адным месцы, хтосьці пераносіў знарок агонь уздоўж бакавой дарогі.

На Зазыбавай паласе ўцалела некалькі коп зусім зводдаль, на схіле кургана; туды агонь не дастаў, ужо праўда што — не пусціў вецер. Па чорным іржэўніку, які чамусьці не здолеў увесь высмылецъ, бо дзенідзе тырчалі пеньчукі, маці падышла да таго месца, дзе яшчэ ўчора стаяла ў яе акурат пасярод паласы самая вялікая капа, паварушыла нагой, абутай у гумавы бот, попел. У паветра адразу пырхнулі з попелу іскры, якія датлявалі ў пажарышчы, а на самым дне згарэлай капы бліснулі, быццам адкрытае золата ў прамыве, жытнёвыя зярняткі.

— Во, і малаціць не трэба! — акурат узрадавалася Марфа, хоць Масей ужо разумеў, што яна гэткай прымушае сябе быць; але вось яна сунула руку ў папялішча, дзе залацілася зерне, зачарпнула адтуль яго бокам далоні, здзьмухнула попел — залаты бляск аказаўся падманлівы, жыта было нежывое, бо спяклося ў агні, і нават тыя зярняткі, што не паспелі абвугліцца, наўрад ці гадзіліся ва ўжытак; маці адразу зразумела гэта і перад тым як ссыпаць іх з далоні назад на папялішча, паказала Масею.

У гэты момант пачулася, як зашоргалі па ржэўніку чыесьці крокі. Масей глянуў туды. Ад гуцянскай

дарогі праставала да сваёй паласы Касперучыха.

— Каб на табе гарэла, каб на табе смылела, каб на табе курэла валоссе,— бубніла яна на хаду.— Каб на табе гарэла і трашчала, як гарэла і трашчала етая наша салома,— не пераставала яна праклінаць.— Каб ты насіўся ўсё жыццё з адным-аднюткім у роце хворым зубам, каб ты не знаходзіў ад яго месца сабе!..

Не даўшы суседзям нават «дзень добры», Касперучыха са змрочнай нястрыманасцю прайшла далей, смурыжачы лапцямі па калянаму ржэўніку.

— Сын, ішоў бы ты двору назад,— раптам занепакоілася Марфа і ўсё роўна як з дакорам паглядзела на Масея.— Тута й без цябе мне рабіць, бачыш, няма чаго. Адно будзеш слухаць ету кляцьбу бабскую. Ета я дарэмна саўсім вяла цябе. Ну, да ладна, прайшоўся сабе, і добра. А цяпера ідзі дамоў. Я сама спраўлюся.

* * *

Дзіва, але другі чалавек, які трапіўся ў баку ад агульнага верамейкаўскага клопату, быў Парфён Вяршкоў...

Дужы селянін, якому, здавалася, зносу не будзе, раптам адчуў па сабе, што ў той надвячорак, калі пастаяў на вясковым пляцу пад наведзенымі на яго нямецкімі аўтаматамі, пачало разбурацца ўнутры ў ім штосьці такое, на чым трымаецца жывое жыццё. Уначы ён ляжаў на пасцелі мокры ад халоднага поту, які немаведама адкуль браўся, бо наўрад ці было столькі вадкасці зусім у ягоным целе, акурат у хаце са столі выпадала раса, і ён купаўся ў ёй, увесь час трызнячы. Спаў ён нямоцна, чуючы сваё трызненне, а ў прамежках, тады, калі галаву засціў туман небыцця, бачыў адзін і той жа сон, дакладней, не адзін, а цэлых тры, якія зліваліся у адзін. Спярша ён, седзячы на нейкім ліпкім карчы, ад якога не адваліліся камякі балотнай багны, закручваў на ногі каляныя анучы. Яму было балюча гэта рабіць, бо на нагах нацерліся вялікія мазалі. Побач ужо стаялі боты, у якіх ён павінен быў неўзабаве ісці ў нейкую вялікую дарогу. Але Парфён так і не запомніў з усяго сну, які паўтараўся не адзін раз, ці нацягнуў ён нарэшце боты, каб ісці. Бачанне раптам перапынялася, мазалі на нагах пераставалі ба-

лець, а затым да яго прыходзілі новыя малюнкі ў сне: нібыта ён прысутнічае пры бацькавым кананні, калі той паміраў далёкім зімнім днём. Звычайна старыя людзі паміраюць пад ранне, а яго бацька расставаўся з гэтым светам удзень. Парфён сапраўды быў пры бацьку ў тыя хвіліны. Аднак таго, што бачыў цяпер у сне, у сапраўднасці не было. Бацька паміраў не ў сваёй памяці, бо перад гэтым доўга хварэў і, мусіць, ужо не меў сілы вярнуцца да свядомасці. Парфёну цяпер бачылася ўсё наадварот. Вярзлося штосьці неверагоднае і жудаснае: ужо задыхаючыся, бацька раптам расплюшчыў вочы і дакорліва паківаў сыну пальцам, быццам толькі што даведаўся пра нядобры ўчынак. Дзіўна, але Парфён і на самой справе адчуў сябе вінаватым, ён толькі не мог здагадацца, што меў на ўвазе бацька — віну сваю адчуваў, а ў чым заключалася яна, не мог уцяміць... Трэцяй часткай таго сну, калі можна назваць так, было ўжо зусім нядаўняе. І не выдуманае соннай фантазіяй, а самае што ні на ёсць сапраўднае. Ён стаяў на пляцу, перад калгаснай канторай, побач з прыдуркаватым Цімам, а насупраць, пахаджваючы па пляцу паміж імі і натоўпам верамейкаўцаў, гаварыў нейкую зусім не страшную прамову, падобную хутчэй на звычайную казань, той цыбаты жандарскі афіцэр у светла-зялёным мундзіры з чорнымі абшлагамі і чырвонай істужкай, прадзетай у пятліцу на грудзях... Гэтым Парфёнаў сон канчаўся, бо якраз тут Парфён чуў свой голас, кідаючыся ў трызненні. Парфён абуджаўся, праводзіў рукой па твары, зарослым шчэццю, тады цераз бараду абмацваў шыю да самых ключыц, сціраў са скуры густы пот, шкадуючы, што няма блізка ручніка, але разбудзіць Куліну, якая спала ў бакоўцы, не рашаўся. І вось у гэтыя свядомыя хвіліны, калі канчалася трызненне, ён пачынаў разумець, спалоханы і здзіўлены, што нешта адбылося з ім такое, чаго ён яшчэ не мог растлумачыць, што нешта змянілася назусім... За сняданкам, калі ён падносіў лыжку да рота, Куліна раптам сказала, што ў яго дрыжаць рукі. Парфён ажно затрымаў лыжку, каб пераканацца самому, і яшчэ больш здзіўлены, чым Куліна, успомніў, што тады, на пляцу, вось так трымцелі ў яго каленкі. Быццам не верачы сабе, Парфён выйшаў пасля сняданку ў двор, прайшоўся ад ганка да варот і, адчуўшы няверную хаду сваю, уздыхнуў, сказаўшы ўголас: «Слаб

чалавек!..» — усё роўна як хацеў суцешыць гэтым філасофскім прызнаннем сябе і вярнуць назад былую дужасць. Зайшоўшы нанова ў хату, Парфён зноў лёг на ложак, але ўжо, здаецца, зусім бездапаможна, як пасля вялікага застолля. Куліна заўважыла і гэта, пасля хліпаць носам, акурат Парфён чымсьці пакрыўдзіў яе, тады не ўтрымалася і загаласіла, вінавацячы яго ва ўсім — навошта было заступацца за таго вар'ята, маўляў, табе заўсёды больш за другіх трэба, ты нідзе не праміне́ш, каб не зачапіцца за што, і чым далей, тым болей. Больш Парфён у той дзень не выходзіў з хаты.

Калі да іх прыйшоў Брава-Жыватоўскі, каб змусіць гаспадара ехаць у Белую Гліну аднаўляць спалены мост, Куліна адразу накінулася на яго:

— Не дасцё чалавеку пахварэць нават!

Стоячы ў парозе, Брава-Жыватоўскі зняважліва сказаў:

— Ну от, спярша ў героі лезеце, а тады косці ў каленках лічыце! — Аднак, няйначай, быў таксама ўражаны Парфёнавым выглядам, бо тут жа павярнуўся і, лішне не грукаючы ботамі, заспяшаўся вонкі.

Пасля паліцая Куліна быццам дзеля прыліку, каб нямоглы Парфён не падумаў крыўдліва, панікала колькі часу па хаце — уранні заўсёды хапае непарадку, то адно не так, як трэба, стаіць, то другое,— тады сабралася ў Паддубішча.

Застаўшыся адзін ў хаце, Парфён пачаў думаць. Уласна, ён не пераставаў думаць і раней, нягледзячы, што брала сваё стомленая адчужанасць, аднак да таго часу, пакуль не пайшла Куліна, адчуваў нейкае вонкавае абмежаванне, перашкоду, даволі было жонцы грукнуць чым-небудзь у чалесніку альбо зрабіць неўзнарок які іншы гук у сенцах ці ў хаце, як думка ў ягонай галаве абрывалася адразу, быццам адсечаная чымсьці вострым, і ён ужо не мог нанова выкіравацца на яе, каб раскруціць, бы тую цэўку, да канца; замест страчанай думкі ў галаву прыходзіла новая, запаўняла ўсё сабой, і пра старую неўзабаве ўжо нават не помнілася, але ўвесь час і старыя і новыя думкі былі звязаны не з ім самім, гэта значыць, думалася не пра сябе, не пра сваё асабістае жыццё, не пра свой лёс, а пра іншых людзей — альбо пра верамейкаўцаў, альбо пра даўно знаёмых з другіх навакольных вёсак; і якраз, можа,

таму, што думкі гэтыя былі пра староннiх людзей, яны ўсе мелі спакойны лад, пра такія не скажаш, што адна нечакана апякла свядомасць, а другая ўстрывожыла душу; проста, думалася ўсё роўна як здалёку, у паўза-быцці бачылася; і толькі тады, калі ў памяці ўсплыла дачка, Парфён, здаецца, крануўся душой, зноў займеў жывую яснасць у галаве і падрабязна, дзень за днём прасачыў ва ўспамінах сваю паездку на Кубань, дзе жыла дачка, але хваляваца дужа за даччын лёс не было вялікай патрэбы, бо не верылася, што вайна ад-сюль дакоціцца да тых далёкіх стэпаў,— неяк пражы-ве там, а можа, яшчэ і мужыку бронь далі, дык і зусім добра ў іх будзе, супакоіў ён адразу сябе, не даўшы часу бедаваць; ва ўсім іншым, што прыходзіла Парфё-ну ў галаву, не было той вастрыні, той нецярплівасці, якія звычайна вымагаюць асэнсавання, напружанай работы думкі.

Парфён не баяўся смерці. Ён не баяўся яе так, быц-цам упэўнены быў, што яна здарыцца не з ім, а з кім-сьці іншым. Дзіўна, але адчуванне гэтае прыйшло да яго яшчэ ў першую раніцу, калі ён знарок, не верачы сваёй слабасці, прайшоўся па двары ад ганка да варот і назад. Тады ён, яўна суцяшаючы сябе, падумаў, што паміраць наогул не страшна, асабліва ў такі час, калі людзі вакол гінуць сотнямі, тысячамі, а можа, і міль-ёнамі, бо невядома, хто з усіх мае большае права жыць, раз ужо камусьці край трэба з прычыны склаўшыхся абставін развітацца з жыццём. Яму толькі дзіўна ста-ла, як гэта здарылася, што раптам падступае чарга да яго, чалавека, які па ўсім павінен быў жыць — ён не-хварэў і не ваяваў. У сувязі з гэтым смерць здавалася яму недарэчнай, ён нават сабраў рашучасці пажарта-ваць у думках: цяперашнім часам і ў рай можна про-стаму чалавеку не трапіць, бо вайна, мусіць, рабіла праведнікаў больш, чым здольны прыняць іх рай, нездарма кажуць, што загінуўшых у бітве архангелы прапускаюць туды без праверкі... Сваім нядаўнім учын-кам, які, уласна, стаў прычынай усяму, Парфён не га-нарыўся, але і не шкадаваў, што пайшоў на яго... Словам, Парфён быў поўны памяркоўнасці, добразычлі-васці і цвярозага разумення. Аднак цяпер ён усё выразней пачынаў разумець адну акалічнасць, якая раней ніколі не займала яго. Уласна, і акалічнасці, як такой, не было. Проста была самая звычайная спро-

ба паглядзець з усіх бакоў на чалавека, як на жывую істоту, якая нараджаецца на гэты свет, пабудзе ў ім, а тады абавязкова павінна знікнуць чамусьці, адысці ў нябыт. Паглядзець і зразумець, што да чаго тут. «Чалавек нараджаецца, каб памерці. І тут не мае ніякага значэння, колькі павінен пражыць — урэшце, днём даўжэй, днём карацей. Аднак няўжо чалавек сапраўды нараджаецца толькі дзеля таго, каб памерці? Відаць, прамежак ад нараджэння да смерці, які называецца жыццём, даецца чалавеку, каб не толькі жыць, але і штосьці рабіць — дабро, зло... Але чаму зло? Значыць?..» Запярэчыўшы сабе, Парфён адразу зрабіўся неспакойным, быццам паехаў па дрогкай дарозе, якая вытрасла з яго той, амаль урачысты, стан, які зусім нядаўна, хвіліны назад, выглядаў, як памяркоўнасць, добразычлівасць і гатоўнасць да ўсяго. «Канечне,— снавалася далей думка,— чалавек павінен рабіць толькі дабро. Зло тут ні пры чым. Яно — прыўнесена аднекуль, яно ўжо — вынік пазнейшы, калі з чалавекам пачало рабіцца штосьці ненармальнае. Цікава, а як пра гэта ўсё гаворыцца ў Евангеллі?» І тут жа Парфён пашкадаваў, што ніколі свядома не чытаў гэтай кніжкі, адно чуў, як чыталі з яе папы ў царкве. Таму нічога, што б пацвердзіла ягоныя думкі, ён не ўспомніў і адразу забыўся пра Евангелле. «Так, чалавек павінен рабіць дабро,— зноў падумаў Парфён,— і калі б ён рабіў толькі адно дабро, тады не хапіла б месца ў жыцці ўсяму недарэчнаму, у тым ліку і гэтай вайне. А вось жа людзям чамусьці няймецца, нібыта і праўда спакушае і падбівае іх д'ябал. Пра сябе, пра свой удзел у жыцці Парфён цяпер не думаў. Усю ўвагу яго пакуль займалі агульныя разважанні. Але настаў час, і Парфён нарэшце ад агульных разважанняў перакінуўся ў думках на сваю асобу: цікава было супаставіць, наколькі адпавядала гэтаму асноўнаму патрабаванню — рабіць дабро — яго асабістае жыццё. Дзіўная рэч, аднак вялікага суцяшэння такое супастаўленне яму не прынесла. Парфён цвёрда ўпэўнены быў у адным — зла ён нікому не зрабіў. Жыў сумленна, добра ставіўся да сумленных людзей. Але ж як гэта стасавалася з тым, што чалавек, жывучы, павінен рабіць дабро? Сумленнасць — яшчэ ж не дабро! Калі гаварыць шчыра, то жыць сумленна, гэта яшчэ не рабіць дабро! Выходзіла, што і ён, Парфён, жыццё сваё пражыў не так,

як трэба!.. Значыць, дарэмна яму дасюль здавалася, што для жыцця хапае аднаго сумлення. Аказваецца, для чалавека мала працаваць, мала любіць блізкіх — гэтага ўсяго толькі і стае, каб пражыць самому. Ты любіш — цябе любяць. Ты працуеш... Але ж працуеш таму, што без працы не будзеш мець кавалка хлеба... Выходзіла, такім чынам, што Парфёну належала яшчэ жыць, каб апраўдаць сваё з'яўленне на гэты свет, жыць, а не думаць пра смерць, не супакойваць сябе і не шукаць у гэтым спакоі бясстрашша перад ёй.

Усхваляваны, а дакладней — унутрана ўзбуджаны сваімі разважаннямі, Парфён адчуў раптам, што ляжаць вось так у хаце і думаць яму нельга больш, што трэба неяк скінуць з сябе цяжар гэтага здранцвелага спакою. Трэба знайсці ў сабе сілы рухацца, гаварыць!..

Асцерагаючыся рабіць рэзкіх рухаў, каб не закружылася галава ад слабасці, ён пасядзеў крыху ў ложку, усё роўна як яшчэ не ведаючы, што будзе рабіць потым, тады пачаў намацваць звешанымі нагамі абутак, звычайныя боты без халяваў, якія называюцца тут абрэзнямі і ў якіх зручна хадзіць, акурат у мяккіх чунях. Боты стаялі на падлозе якраз на ўзроўні ног, і яму без цяжкасці ўдалося сунуць у іх босыя ступні. Цяпер заставалася стаць на ногі. Але тая няўпэўненая хада, якая прымусіла яго пераканацца ў сваёй нечаканай слабасці, насцярожвала зрабіць гэта, і ён, даючы сабе часу на такую насцярогу, павёў вачамі па хаце, дзе ўсё начынне і рэчы здаліся яму чужымі, акурат гэта Парфён нейкім чынам трапіў не да сябе. Нават старадаўняя каляровая літаграфія, якая была куплена яшчэ бацькам у японскую вайну на кірмашы ў Сілічах і якая вось ужо многа гадоў вісела ў іх на сцяне на адным і тым жа месцы пад вышыванай шырынкай, дык гэтая літаграфія таксама здалася Парфёну незнаёмай, аднекуль прынесенай сюды, і ён спыніў на ёй новы позірк, у якім адбілася разам і недаўменне і цікаўнасць. На літаграфіі на фоне маскоўскага Крамля быў намаляваны нейкі ружовашчокі вусаты асілак у жоўта-сінім кафтане і чырвоных ботах з загнутымі ўгору мысамі. Асілак трымаў аберуч расейскі сцяг. Унізе, пад нагамі асілка, былі два радкі слоў: «Доўга будуць дзеці нашы помніць славутыя справы...» Парфён з маленства ведаў усе тыя словы, ад пачатку да канца, іх чыталі ў гэтай хаце і тады, калі ніхто не

ўмеў чытаць,— на памяць, пачуўшы аднойчы ад кагосьці пісьменнага, можа, таго чалавека, які прадаў на кірмашы літаграфію,— чыталі і тады, калі ўжо з'явіліся ў хаце Вяршковых свае грамацеі. Аднак цяпер Парфён быццам нанова пачаў унікаць у надпіс, што ў сваім працягу быў наступнага зместу: «...Як бацька іхні, воін славуты, пабіў ворагаў няверных і вярнуўся дамоў з пераможным сцягам».

Затрымкі гэтай з разглядваннем літаграфіі якраз хапіла Парфёну, каб забыцца пра нядаўнюю насцярогу. Ужо зусім не думаючы пра тое, што ад слабасці падкосяцца ногі ці закружыцца галава, Парфён абапёрся рукамі на край ложка, падштурхнуў сябе і зрабіў некалькі парывістых крокаў да парога. Надзейнасці ў нагах не было, але і страху, што яны не вытрымаюць, падвядуць, таксама не было. Затое было імкненне хутчэй выйсці з хаты, быццам яе пачало запаўняць атручанае паветра. Націснуўшы вялікім пальцам на плясқаты язычок клямкі, Парфён піхнуў — адразу рукой і нагой — ад сябе дзверы, зусім не клапоцячыся, што яны расчыняцца напята, грукнуцца другой клямкай аб сцяну, і хутка, ледзь не вобмацкам, ступіў на ганак. Бляск сонечнай раніцы, што падаў на загароджаны хлявамі двор проста з неба, адразу нібыта асляпіў яго, а паветра, якое захоўвала на двары яшчэ халаднаватую свежасць, бадзёрым хмелем патыхнула ва ўсё, чым прагна дыхаў ён. Усё гэта — і рэзкі бляск сонечнай раніцы, і хмелем б'ючае свежае паветра — умомант падзейнічала на аслаблены арганізм. І Парфён дакрануўся плячом да бакавой лутکі. Зноў як і ў тую раніцу, калі выходзіў выпрабоўваць свае сілы, ён сказаў сабе, дакладней, падумаў: «Слаб чалавек!..» Гэтыя два словы цяпер ён прамовіў з нейкай асаблівай ахвотай, усё роўна як добрае закліnанне, пасля якога чалавек знаходзіць і сілу, і ўпэўненасць, адкрываючы раптам для сябе суцяшэнне ў тым, што ён усяго толькі мае дачыненне і падзяляе тое, да чаго маюць дачыненні і што падзяляюць усе астатнія людзі.

З саду пахла яблыкамі і яшчэ нечым, што разам моцна заглушала іншыя пахі, якія, няйначай, маглі адчувацца на сялянскім падворку,— гэта быў знаёмы пах, які застаўся ад кісла-салодкага лета.

«Пайду-тка я ў сад»,— спакойна, з нейкаю радасцю ў душы падумаў Парфён і, прыслухоўваючыся да свай-

го ўнутранага адчування, адштурхнуўся ад луткі, паволі сышоў па сходках з ганка.

Сад быў, як кажуць, ва ўсім спелым харастве, якое настае ў канцы жніўня ды яшчэ працягваецца і ў верасні, пакуль на летніх дрэвах не пачынаецца масавы яблыкапад; на грушах і яблынях суччa гнулася ад чырвоных, жоўтых і светла-зялёных крамяных пладоў; на голай зямлі пад дрэвамі пераліваліся сонечныя ясвы; угары, паміж густога веццяя, пырхалі, акурат па лясным малініку, валлякаватыя птушкі, якіх ужо даўно ніхто не палохаў тут не толькі знарок, а і знячэўку. Сад быў Парфёнавым гонарам, справай ягоных рук, бо хоць Вяршковы — і дзед Парфёнаў, і бацька — лічыліся ў вёсцы гаспадарамі, у якіх ёсць сад, аднак толькі Парфён даў яму належны толк. Дзедаў і бацькаў сад (а Вяршковы ўсе спакон веку жылі на адной сядзібе) заўсёды стаяў запушчаны, здаралася, што па некалькі гадоў дрэвы, з'едзеныя паршой, не прыносілі пладоў, грушы і яблыні часта вымярзалі — абы зіма трохі палютавала маразамі. Парфён жа, як толькі падрос і займеў у доме вагу, здаецца, першае, што зрабіў, гэта выкарчаваў увосень дуплаватыя і малаплодныя дрэвы, а замест іх накупляў у Шкарняка і прывёз маладыя саджанцы. Праз дзесяць гадоў з тых Шкарняковых саджанцаў выбуялі тут цудоўныя «бэры», «сапяжанкі», «ільінкі», «антонаўкі», «пладавіткі», «пуцінкі» ды «баравінкі»... Ніводнае дрэва ў Парфёнавым садзе не паўтаралася, акрамя «антонавак». Іх было ў яго тры, і яны стаялі абапал грушы, унізаныя цяжкімі, быццам з жалеза адлітымі, яблыкамі звычайна да самага лістабою, калі па краях неба пачыналі грувасціцца адна на адну цёмныя хмары, з-пад якіх паволі высоўваліся ў сіняе прадонне дагор'і снегавых аблокаў. Уратаваў Парфён свой сад і ў нядаўнія маразы, пад час фінскай вайны.

Паўз крайнія дрэвы, якія гулка, акурат ратуючыся, каб не абламіцца ад цяжару, гублялі па адным яблыкі, Парфён абмінуў з сонечнага боку сад, няспешна накіраваўся да плота, што адгароджваў сядзібу ад загуменнай дарогі. Там ён прыпаў грудзьмі да верхняй жардзіны, перакінуў на той бок абедзве рукі, усё роўна як павіснуўшы на ёй падпахамі. Так стаяць было зручна і спакойна, не адчувалася нават цяжару на ногі.

Адразу за мурагом, што здавён пакідаўся тут неў-

заранным, шырылася поле, якое ішло правым краем уздоўж бальшака да пясчанага ўзлобка, нібыта ўторканага прысадзістымі, вырасшымі пад сонцам сасонкамі, а левым увесь час выгіналася паўз сіўцовыя лагі, пашыраючы светла-зялёны прасцяг, і закруглялася, падыходзячы да бальшака, на тым жа ўзлобку.

Доўга стаяў Прафён адзін ля плота, ажно пакуль не ўбачыў здалёку чалавека. Убачыў і ўзрадаваўся, хоць не пазнаў.

Чалавекам тым быў Зазыба Масей. Пасля настойлівых матчыных угавораў Масей усё-такі рушыў з Паддубішча ўніз да сухадолу, напіўся там з крыніцы вады, з захапленнем сказаўшы ўсё роўна як абавязковае ў такім выпадку: «ex ipsa fonte libere» («напіцца з самой крыніцы» — *лат.*), затым зрабіў вялікі круг да былых наддаткаў і павярнуў к глінішчу.

У адрозненне ад Парфёна Вяршкова, які доўга не мог пазнаць Зазыбава сына, Масей яшчэ зводдаль лёгка здагадаўся, хто гэта выйшаў на Вяршковым гародзе да плота.

Не зварочваючы да сябе ў завулак, ён прамінуў, шыбаючы па дарозе, выган, з якім межавала сядзіба Вяршковых, і яшчэ крокаў за колькі павітаўся:

— Добры дзень, дзядзька Парфён!

Тады і Вяршкоў кінуў насустрач сваё здзіўленае, але спаважнае запытанне:

— Ці не Дзянісавіч ета?

— Так,— усміхаючыся, падышоў Масей да плота з другога боку.

— А я гляджу — ідзе хтось паўз глінішча, стаю і гадаю сабе, бытта знаёмы чалавек і незнаёмы, а цяпера бачу, дак ета ажно і праўда ты, Дзянісавіч! — Парфён адчуў у сабе здольнасць гаварыць без перашкоды, яму нішто не замінала ўнутры гэта рабіць, таму ён не стаў чакаць наступнага Масеевага слова, спытаў: — Адкуль жа ты?

— Хадзіў, глядзеў.

— Значыць, ты ўжо даўно тута?

— Даўно.

— А я і не чуў,— акурат пашкадаваў Парфён.

Масей не бачыў Вяршкова даўно. Добра не помніў нават, ці даводзілася сустракацца ім у яго апошні прыезд у Верамейкі, ужо з Мінска. Затое ў трыццаць чацвёртым годзе, у завейным снежні, яны размаўлялі

часта. Балазе тады хапала пра што размаўляць. У той месяц нарэшце была адменена ў краіне картачная сістэма на хлеб. А наогул — снежань у трыццаць чацвёртым годзе пачаўся нядобра: стрэлам з нагана ў будынку Смольнага... Былі, вядома, і другія падзеі, якія адбываліся ў снежні трыццаць чацвёртага, напрыклад, краіна з вялікім уздымам рыхтавалася ды выбараў у Саветы, і сярод кандыдатаў у дэпутаты называліся першыя Героі Савецкага Саюза, лётчыкі, якія выратавалі з лёдавага палону чалюскінцаў; у строй дзеючых уступіў Кузнецкі металургічны завод, дарэчы, да будаўніцтва якога меў непасрэднае дачыненне славуты расейскі доменшчык Курака, якога ў Верамейках, таксама як і ў іншых навакольных вёсках ад Унечы да Казельскай Буды, ведалі па дзевяцьсот пятым годзе, калі ён, унук адстаўнога генерала, узнімаў сялян на паўстанне супраць мясцовых памешчыкаў; Савет народных камісараў і Усесаюзны Цэнтральны Выканаўчы Камітэт з вялікім жалем паведамлялі народу аб смерці кавалера ордэна Леніна, «буйнейшага вучонага, актыўнага барацьбіта за навуку» славутага акадэміка Мара... У газетах амаль кожны дзень з'яўляліся паведамленні — «у народным камісарыяце ўнутраных спраў», дзе сустракаліся часам знаёмыя ўсім прозвішчы. Вяршкоў звычайна прыходзіў да Зазыбаў у хату, абы толькі гаспадары паспелі павячэраць, і заставаўся там да першых пеўняў. У Масеевай памяці ўтрымалася з тых вечароў адна Парфёнава думка, якой пасля даводзілася не адзін раз здзіўляцца. Трымаючы газету ў руках з чарговым спісам засуджаных ворагаў народа, Парфён са скрухай сказаў: «У такой справе заўсёды небяспека ёсць. Хоць ты як сцеражыся, хоць які ты сумленны ды крыштальны ні будзь, а небяспека ёсць. З каго першага пачынаць, людзі звычайна ведаюць. А вось на кім скончыць еты свой пачатак, не ведаюць. Адсюль і бяда. Сянні ты яго забярэш, а заўтра па цябе самога хто другі прыйдзе. Так што... Словам, ета як тое проса ў мяшку, абы дзірачку маленькую пракалупаў хто ногцем, тады ўжо і не стрымаеш, усё роўна як вада адтуль пацячэ».

Цяпер Масея здзівіў Парфёнаў выгляд. На твары ляжала нейкая нежывая зямлістасць, што, няйначай, сведчыла пра агульны стан здароўя.

Адчуўшы, што Масей здзіўлены, нават уражаны

ягоным выглядам, стары з прыкрасцю падумаў: «Значыць, сапраўды мае справы кепскія», а ўслых засаромлена сказаў:

— Хварэю, Дзянісавіч.— Памаўчаў трохі, а тады зноў быццам спахапіўся:— Ну, а скажы, Дзянісавіч, ці варта чалавеку наогул жыць?

— Як гэта? — Масей расплыўся ў шчырай, можа, таму трохі паблажлівай усмешцы.

— Ну, можа, не зусім так я сказаў,— паправіўся Парфён.— Я меў на ўвазе вось што: ці трэба чалавеку доўга на свеце жыць?

— Усё роўна дзіўнае пытанне. Я не магу вам адказаць на гэта, дзядзька Парфён. Ды і чаму раптам такая размова?

— Кажу, хварэю вось, дак таксама думаю. А цяпера цябе ўбачыў, спытацца рашыў.

— Значыць, я пад настрой трапіў?

— Лічы, што так.

— І ўсё-такі, дзядзька Парфён, я не ведаю, што адказаць вам. Але адзін разумны філосаф, дарэчы, немец, сказаў, што ніхто з нас не створаны для шчасця, затое ўсе мы створаны для жыцця. Значыць, усе мы павінны жыць. Ну, а наконт таго, доўга ці нядоўга жыць, тут ужо як каму на раду напісана.

Але Парфён, здавалася, ужо не цікавіўся апошнімі Масеевымі словамі.

— Няўжо бываюць і неразумныя філосафы, Дзянісавіч? — раптам спытаўся ён.

— Бываюць.

— А як прозвішча таго, разумнага?

— Феербах.

— Не, не чуў,— пакруціў галавой Парфён.— Значыць, кажаш, немец?

— Так.

— Глядзі ты!.. А цяпера во еты Гітлер! Таксама ж, пэўне, разумным сябе лічыць?

— Ды яшчэ якім! — чамусьці засмяяўся Масей.— Ажно фюрэрам!

— Ну, ладна, чорт з ім, з Гітлерам! — паморшчыўся Парфён.— Ты ўсё ж падумай, Дзянісавіч, дзеля чаго трэба чалавеку жыць, раз яму і ў шчасці твае філосафы адмаўляюць?

— Ды не адмаўляюць,— засмяяўся Масей.— Проста, не кожнаму яно выпадае. Тут розныя прычыны

здараюцца. Адзін — хварэе, другі — шалее, трэці — дурэе, чацвёртаму проста паабедаць няма за што.

— Ну, каб ета толькі так было!..— не паверыў Вяршкоў.— Я пра другое хачу даведацца. Узяць хоць бы мяне во. Ну, што добрага ў маім жыцці, каб доўга жыць? І наогул, каб саўсім жыць? Дзеля чаго маё жыццё? Колькі і помню сябе, дак адно араў вось етае поле. Узару, пасею, збяру, паядзім. Дак ці ж варта варочаць да варочаць ету зямлю толькі дзеля аднаго, каб жыць? Не, Дзянісавіч, для жыцця чалавечага ёсць альбо іншы сэнс, якога і твае разумныя філосафы не ведаюць, альбо тады і праўда, што зусім яго няма. Таму і назаляю табе. Перад тым як выпаўзці сюды з хаты, я таксама вось так думаў. А тут, бачу, ты. Дак з кім пагаварыць, як не з табой? А можа, і праўда, Дзянісавіч, што чалавеку ўсё адно колькі на етым свеце пражыць — дваццаць пяць гадоў ці ўсе сто?

— Калі б так было, як вы кажаце, то, вядома, розніцы ніякай. Але чалавек не толькі арэ ды есць.

— Дак ета я толькі к слову, што ён арэ ды есць,— нібыта ён і нітку сучыць, ён і колы вырабляе. Але ж памяркуй, Дзянісавіч,— страпянуўся на гэта Парфён.— Ен і тапаром махае, зноў — ён усё гэта робіць для сябе, каб жыць: тапаром махае, бо без хаты не пражыве, нітку сучыць, бо голаму тады давядзецца хадзіць, колы на парні гне, бо ездзіць трэба. Так што, сам бачыш, не дужа вялікая ва ўсім етым мудрасць.

— Не, дзядзька,— лёгка засмяяўся Масей,— якраз у гэтым вось — каб жыць — бадай, і мудрасць уся закладзена. Мусіць, у гэтым і сэнс нашага знаходжання на гэтым свеце. Ну, а што датычыць вашага песімізму, то...

— Ета не песімізм, як ты кажаш, Дзянісавіч,— заспяшаўся гаварыць Вяршкоў.— Ета — другое. Ета — спроба высветліць: што да чаго тута і адкуль. Жыццё чалавека можна параўнаць з хуткай яздой. Толькі і паспяваеш перапрэгчы іншы раз каня. А так усё імчыш куды-та, ажно пакуль не апынешся на краі стромкага абрыву. Вось тады і пачынаеш думаць-гадаць: і чаго ехаў, і навошта спяшаўся? Так і са мной адбылося. Усё жыццё не думаў, чаго жыву, а тута раптам пачаў.

— А няўжо, дзядзька Парфён, у вашым жыцці не было нічога такога, што б апраўдала нават у вашых вачах яго сэнс? Я чаму кажу: у вашых вачах? Дужа

вы вялікую мерку да ўсяго бярэце. Дык няўжо вы нічога не зрабілі, з чым шкада было б расстацца, каб... і сапраўды давялося памерці?

— Не помню... Можа, й зрабіў... Можа, з дачкой, з унукам...

— Вось бачыце!

— Але ж ета, калі падумаць таксама...

— Правільна,— усклікнуў Масей, зразумеўшы наперад Парфёнаву думку.— Аднак чалавек разам з усім жыве і дзеля таго, каб паўтарыцца ў другім. У евангеллі напісана пра гэта так: «Праўду, праўду кажу вам, калі пшанічнае зерне, упаўшы на зямлю, не памрэ, то астанецца адно, а калі памрэ, то прынясе багата плода».

— Значыць, ва ўсім ёсць сэнс? — зразумеў Парфён.— Нават у смерці?

— Ёсць.

— І ў вайне?

— Так. Бо ў вайне звычайна змагаюцца дабро са злом.

— Многа ж, дужа многа падае етых зярнятак на зямлю,— уздыхнуў Вяршкоў,— ажно сорамна часам, што ты яшчэ сам жывеш. Але ж цікава выходзіць,— сказаў, счакаўшы трохі, Вяршкоў.— Кругом я вінаваты. Нешта я стараюся гаварыць сваё, а ты мне, Дзянісавіч, наадварот усё.— І пранікліва, быццам з крыўдлівай няверлівасцю, паглядзеў на Масея.

— Чаму вінаваты? — схамянуўся ад гэтага позірку Масей.

Вяршкоў скрушліва ўсміхнуўся:

— Ведаеш, Дзянісавіч, лезе ўсякае ў галаву. Дзіва, але ж нават... Мусіць, і праўда скора памру. Здаецца, што б прасцей магло быць, аднак не мог адзін растлумачыць сабе, што такое ёсць етае само дабро. Ляжу і не магу даўмецца, быццам я таго дабра сам не бачыў ні ад каго і нікому не рабіў. Во да чаго раптам дайшоў, Дзянісавіч, за етыя дні ў хваробе. Таксама, няйначай, філосафам станаўлюся. Ну да ладна. Дзянісавіч, я ўсё пра сваё ды пра сваё. А як ты? Адкуль ты? Здаецца ж?..

— Было, дзядзька! — зусім весела, як пра нейкую дужа даўнюю сваю хлапечую правіннасць, якая раптам адкрылася, стала вядома, сказаў Масей.

Вяршкоў пасля гэтага нечага ссунуў бровы і, адвяр-

нуўшыся, выразна, з прытворствам, пакашляў, акурат пракрактаў ад прыкрасці. Ён па-ранейшаму стаяў за плотам з перавешанымі цераз верхнюю жардзіну рукамі, і гэтая акалічнасць раптам кінулася Масею ў вочы асаблівым сэнсам — няйначай, чалавек стаў так не дзеля адной позы ці зручнасці. Значыць, Парфён выйшаў сюды, не разлічыўшы сілы, і цяпер яму нялёгка будзе вярнуцца на ранейшае месца — у сад ці ў хату. Колькі хвілін назад Масею дзіўным было бачыць хваравітасць на Парфёнавым твары, аднак зусім незраўнаным стала яго адчуванне пасля таго, як уявіў Парфёнаву бездапаможнасць. Між тым ніхто ў вёсцы за гэтыя дні і слова мімалётнага не сказаў аб Парфёнавай хваробе. Ледзь не ўтрапёны, Масей цяпер глядзеў збоку на вывернутую патыліцай Парфёнаву шыю з глыбокімі маршчынамі і востра, ажно да пякучасці ўсярэдзіне, думаў пра ўсю гаворку, якую яны вялі перад гэтым адзін з адным, усё роўна як дапусціў у ёй нейкую недаравальную нетактоўнасць, калі не больш. Тым часам Масей проста не мог дазволіць сабе нічога падобнага, бо заўсёды паважаў Вяршкова за вельмі разумнага і разважлівага чалавека, ад гаворкі з якім, ад зносін з якім ніколі не страціш, а, наадварот, набудзеш. Кожны раз, як Масею даводзілася размаўляць з ім у свае прыезды ў Верамейкі, ён захапляўся гэтым чалавекам і разам з тым дзівіўся, як той, лічы, малапісьменны селянін, умее ахопліваць сваім уяўленнем вялікія праблемы, што заўсёды набывалі грамадскую значнасць, і даваць ім правільнае тлумачэнне. Калі гаварыць пра народ і пра носьбітаў мудрай народнай сталасці, то Вяршкоў якраз і быў адным з тых лепшых прадстаўнікоў народа, у свядомасці якога акумуліравалася ўсё найбольш чыстае, здаровае, сумленнае і непадатлівае, на чым трымаецца ўклад жыцця. Дарэчы, бацьку свайго Масей таксама адносіў да гэтай катэгорыі людзей, хоць у параўнанні з Вяршковым той меў ужо большы грамадскі вопыт, напэўна, больш ведаў, нездарма ж столькі гадоў з'яўляўся галоўнай фігурай у Верамейках. Дзіва, што з бацькам Масей спрачаўся, даказваў сваё, а вось з Парфёнам ужо нібыта і не хацеў, саромеўся нават гаварыць пра тое самае.

І ўсё-такі ён паспрабаваў апраўдаць гэтае сваё нежаданне.

— Разумееце, дзядзька Парфён, у жыцці ёсць рэ-

чы, пра якія не заўсёды хочацца лішні раз успамінаць.— Праўда, гаворачы гэтак, Масей быў не зусім шчыры, прынамсі, успамінаў гэта ніяк не датычыла; затое цалкам ён стаў шчыры тады, як далей растлумачыў: — Бацька мой наогул кажа, што цяпер размовы пра ўсё, што са мной адбылося, акрамя шкоды, тут нічога не прынясуць. Так што...

Масей не спадзяваўся, але Парфён раптам павярнуўся і зусім без хоць якой нездаволенасці падтрымаў бацьку.

— Дзяніс, Масейка, абы-што гаварыць не стане. Раз кажа, значыць, так трэба. Ну, а я чаму спытаў? Дак таксама паняць можна. Заўсёды ж, калі новага чалавека сустрэнеш, то запытаеш — дзе быў, што бачыў? Ну, а раз ужо загаварылі пра твайго бацьку, Дзянісавіч, дак я таксама скажу, што думаю. Я, праўда, не ўмею гучных слоў вымаўляць, ета не па мне, асабліва калі й не трэба іх, аднак бацька твой сапраўды чалавек рэдкі, за ім заўсёды людзям пражыць можна. Ты думаеш, ён, радзячы табе маўчаць, думае пра аднаго цябе ці пра сябе. Не. Ён не такі чалавек. У етым усім другога сэнсу трэба шукаць. От каб кожнай вёсцы ў галаву такога чалавека, а тады кожнаму раёну, пасля вобласці, ну і так далей, во тады б сапраўды для ўсіх царства настала, тады б не страшна было ні стыхійнага бедства, як у газетах пішуць, ні навалачы. Спытай у нашых верамейкаўцаў, табе мала хто не скажа, што мы і пажылі тыя гады, што за тваім бацькам. Канечне, не за адным тваім бацькам, ета б ужо саўсім няпраўда была, тута галоўнае — улада, яна ўсяму прычына, але ж нават і савецкую ўладу можна альбо пад сябе падмяць, альбо... Словам, я хачу сказаць, што нават пры такой добрай уладзе можна не паўсюль аднолькава жыць. Вунь нашы суседнія вёскі. Яны і ў калгас свой па-рознаму ішлі, яны і ў голад, што настаў пасля, неаднолькава жылі, чаго ўжо тута граха таіць... А ў нас у Верамейках тым часам усё ладна, усё, здаецца, па-людску. А ўсё таму, што праз твайго бацьку — за ўсё ён у адказе, усё на сябе бярэ недзе, а ў вёсцы каб адзін што ўзяўся рашаць, дак таксама такога не было. Спярша ў людзей папытае, а тады ўжо справу пачынае. Так што... Я вось табе к слову раскажу. Ты ж адсюль даўно паехаў, а калі і прыязджаў, дак усё роўна не пра ўсё ведаеш. Дак я табе і раскажу, раз ужо мы

пра ўсё загаварылі сянні. Бацька твой раней, як і мы ўсе, касы да сахі з рук не выпускаў, а тады ўжо стаў старшынёй у нас. Праўда, парцейны быў заўсёды. Ну, а тута якраз калгасы пачалі рабіць. І да нас у Верамейкі прыязджае ўпаўнаважаны з раёна. Як цяпера помню, Жабацінскім звaўся. І чалавека з сабой на старшыню прывёз. Склікалі, канечне, сход вясковы. Мужыкі, між тым, маўчаць: справа, вядома, новая, еты калгас, хто яго ведае, куды шыю сунеш, у які хамут. А тута ж пакуль усім няблага — і зямлі, дзякуй савецкай уладзе, хапае, і жыўнасць розная ёсць, абы толькі здароўе не падводзіла. Словам, жыць і без калгаса можна. А Жабацінскі падганяе. Нарэшце кажа — хто супраць калгаса, той супраць савецкай улады. Тута нашы мужыкі і зажурыліся. Хіба ж хто ў нас проці савецкай улады? Пачалі галасаваць — хто за калгас? Уладу савецкую шкадуюць усе, а рукі за калгас паднялі толькі твой бацька да яшчэ тры ці чатыры гаспадары з вёскі. Бачыць Жабацінскі, справа правальваецца. Ускіпеў і кажа: «Галасаванне адмяняю. Галасуйце так — хто супраць савецкай улады?» Ну, мужыкоў нашых і ўзарвала. Закрычалі, загаманілі — не хочуць паднімаць рукі. «Ну,— кажа тады Жабацінскі,— вельмі моцны яшчэ сярод вас класавы вораг. Трэба прыняць іншыя меры. Трэба правесці індывідуальную апрацоўку. Сход сёння распускаю, а заўтра выклічу да сябе самых злосных шкоднікаў. Паглядзім, што вы тады запяеце мне!» І што ты думаеш, сапраўды ўранні пачаў выклікаць да сябе некаторых мужыкоў нашых. Мяне таксама не абмінуў увагай сваёй. Кажа: «Я напэўна ведаю, што ў твайго бацькі ў адна тысяча восемсот дзевяностым годзе месяцамі працаваў падзёншчык, а сам ты ў адна тысяча дзевяцьсот дваццаць першым годзе аддаў у арэнду ўдаве Ігната Самуся адзін гектар зямлі. Цяпер мне ясна, чаму ты не хочаш уступаць у калгас. Ты з'яўляешся класавым ворагам, праціўнікам савецкай улады». Ну, што я аддаў некалі Самусёвай Парасцы кавалак зямлі, ета я ведаю. Аддаў і назад не ўзяў. Аддаў насаўсім,— бо яна сына тады жаніла, а ета, можа, ведаеш, радня маёй першай жонкі. І аддаў яшчэ таму насаўсім, што ў мяне лішняя аблога была. А вось што да бацькі... Дак тут я і сказаць нічога не маю яму. Ці ж я помню, быў у майго бацькі ў адна тысяча восемсот дзевяностым годзе па-

дзённік альбо не быў? Я сам тады яшчэ пад стол без штаноў бегаў. А Жабацінскі ўсё мне паграsevere. Ну, а я сабе тым часам думаю таксама — не, ты тута вярні на мяне хоць што, але прыпісаць класавага ворага не можаш, бо ніякі я не эксплуататар. Пра ета ўсе ведаюць у Верамейках. Чуем, і другіх мужыкоў упаўнаважаны рознымі выдумкамі палохае. Тады твой бацька ціха запрагае каня да ў раён хутчэй. Ну, і забралі ад нас пасля на другі дзень Жабацінскага, а старшынёй дазволілі выбраць бацьку твайго. Ён, праўда, стопрацантовай калектывізацыі не патрабаваў ад мужыкоў, аднак цераз паўтара гады ўжо ўсе мы самі ў калгасе былі. Нават раней. І грозьбы, аказваецца, не патрэбны ў етай справе і просьбы. Вось яно часам бывае як. Не, Дзянісавіч, бацька твой рабіць абы-што не будзе, ну, і гаварыць таксама. Раз ён гаворыць, дак ета ўжо, лічы, край. Я колькі тыдняў таму назад ажно млеў. Бачу, і нашы ўжо ледзь не ўсе адступілі адсюль, і немцы вось-вось прыйдуць у вёску, а яго ўсё няма. Як пагнаў калгасных кароў кудысьці ў Арлоўшчыну, дык і няма. Думаю, прападзем без яго. Так што, Дзянісавіч, зважай. Я сам быў не пазней як надоечы ўзбурчэўся — і тое было не так да вайны, кажу, і ета лепшага жадала. А ён мне: «Цяпера, Парфён, кожны злыдзень здатны савецкую ўладу ўшчыкнуць, бо цяжка ёй стала, не ўсюды паспявае адмахнуцца. Цяпера сумленныя людзі павінны клапаціцца, каб памагчы ёй, бо без яе нам усё роўна не будзе жыцця». Падумаў я пасля гарачкі: праўду кажа Дзяніс. Таму і цябе я зараз зразумець магу, Дзянісавіч. Але скажы мне і вось пра што, Масейка. Ай не ведаеш?

— Ну, а раптам ведаю?

— Дак скажы тады. Дужа ведаць захацелася. Дак скажы. Хто на етай зямлі, дзе мы цяпера, жыў да нас? Што ета за народ быў і калі ета было? Мне тута настаўнік адзін расказваў, нібыта нейкія радзімы да нас жылі і па той, і па еты бок Бесядзі. Чуў жа, нябось, як гавораць часам — радзімец цябе возьме! Дак няўжо і праўда жылі тут нейкія благія людзі?

— Як вам сказаць, на гэтай зямлі сапраўды некалі жылі радзімічы. Яны прыйшлі сюды аднекуль з прапольскіх зямель са сваім правадыром Радзімам і пасяліліся паміж Дняпром і Дзясной, гэта значыць, канкрэтна на берагах нашых рэк — Сажа і яго пры-

токаў Бесядзі і Іпуці. Разам з войскам Кіеўскага князя Алега хадзілі на Царград, гэта ажно ў цяперашняй Турцыі, за Чорным морам. Відаць, яны мелі нават немалы свой флот і былі надзвычай ваяўнічыя, бо часта адмаўляліся плаціць даніну нават Кіеву. Кнігі расказваюць, што на сваіх «ігрышчах» яны прыгожа танцавалі і задушэўна спявалі, выкрадалі сабе жонак у суседніх плямёнаў, якіх мелі ажно па дзве, па тры. Пры пахаванні нябожчыкаў наладжвалі вялікую трызну, а потым іх спальвалі на вогнішчы, попел збіралі ў скрыню і ставілі на слупе каля дарогі. А вось чаму слова «радзімец» стала гэтакім, што ім яшчэ і цяпер палохаюць, зрабілася своеасаблівай кляцьбой, я дакладна не ведаю. Хіба, можа, таму, што радзімічы выкрадалі сябе за жонак у другіх плямёнаў, сваіх суседзяў, маладзенькіх дзяўчат, часам яшчэ зусім падлеткаў, якія потым выраслі ў іхніх дамах у прыгажунь.

— Значыць, то былі нашы продкі?

— Але ж да іх тут таксама жылі людзі. Па той бок Бесядзі, у Клеявічах, напрыклад, археолагі раскопкі вялі, мясцовае курганішча вывучалі, дык знайшлі стаянку старажытных людзей, якія жылі на ёй зусім даўно, ажно каля ста тысяч гадоў да нас.

— Тады і ў нашым курганні,— паказаў Вяршкоў направа ад бальшака,— можна знайсці такую стаянку?

— Можа, і можна,— адказаў сур'ёзна Масей.

Вяршкоў пасля гэтага колькі часу маўчаў, яўна ўзважваў пачутае, тады спытаў:

— Ну, а радзімічы, куды падзеліся яны?

— Анікуды. Проста змяшаліся з другімі плямёнамі. З суседзямі — дрыгавічамі, крывічамі, вяцічамі, севяранамі.

— Значыць, яны ўсё-такі засталіся тута?

— Бадай, так.

— А потым, што потым было?

— Княствы былі. Спярша — Мсціслаўскае. Пасля — Літоўскае. Чуў, нябось — Вялікае княства Літоўскае? Затым тутэйшыя землі разам з Літоўскім княствам падпалі пад Карону. Але заўсёды яны называліся рускімі. Нават у Рэчы Паспалітай і то не страцілі сваёй назвы — так і пісаліся: рускія землі.

— А калі ета Вашчыла бунтаваў? Яшчэ і цяпера

крычаўскіх баб вашчылкамі завуць? Нават калі і наш хто, здараецца, бярэ адтуль сабе дзеўку, дак вашчылкай яе за вочы дражняць.

— Вашчыла бунтаваў пры паляках. Якраз хутка будзе дзвесце гадоў таму паўстанню.

— Ага, помню, пра ета яшчэ і цяпера розныя гісторыі расказваюць. Асабліва ў Мурын Боры. Значыць, і раней неспакойная наша надбесядская зямля была, Дзянісавіч? Не давалася?

— Выходзіць, што так, дзядзька Парфён,— задаволена згадзіўся Масей.

— Дак хадзем, Дзянісавіч, цяпера мо ў сад? Яшчэ я ў цябе маю намер што спытаць. Да і яблыкі з грушамі сёлета, бачыш, якія нараслі? Хадзем, пакаштуеш!

Ён нават не стаў чакаць, пакуль Масей скажа пра сваю згоду, усё роўна як быў упэўнены ў гэтым, таму адпіхнуўся рукамі ад плота, крута павярнуўся і зрабіў некалькі цвёрдых крокаў па сцежцы. Але дарэмна — раптам страпянуўся, адкідваючыся галавой назад і падаючы дагары. Уражаны гэтым, Масей, амаль не чуючы свайго цела, пераскочыў цераз плот, кінуўся да Вяршкова. Нават не нахіляючыся над ім і не слухаючы сэрца, можна было без памылкі вызначыць — Парфён ляжаў на мяжы мёртвы!.. Бадай, гэта быў першы чалавек, які з часу вайны сканаў у забяседдзі сваёй смерцю. Падаючы на зямлю, ён нават вочы паспеў заплюшчыць, акурат не хацеў, каб потым убачылі ў іх пустату.

## XIV

Верамейкаўцы выбраліся ў Белую Гліну, бадай, ужо апошнія з усіх, каму было загадана з'явіцца туды на падводах.

Ехалі хто на чым — на драбінах, на калёсах, а хто і проста на кранджолах, паклаўшы дошку ўпоперак: запрагалі коней каля стайні таксама абы ў што трапілася.

Зазыба заняў месца ў абозе адразу за Сілкам Хрупчыкам. Пасля яго ехаў ужо Мікіта Драніца.

Мікіта сёння чамусьці стоена, ажно загадкава маўчаў, адно круціў, як той пугач, сваёй вялікай галавой, зіркаючы па баках, быццам яму штосьці дужа

рупіла ці здавалася, і ён спрабаваў згледзець тое абапал сябе. Тым часам у Зазыбы было на прыкмеце перадаць Мікіту Чубараў наказ з'явіцца ў Мамонаўку. Там, ля стайні ў Верамейках, ён не рашыўся падступіцца з гэтым да Драніцы, бо гаворка ва ўсіх была тады пра пажар, і Зазыба проста асцерагаўся, што Драніца спалохаецца, плявузгне пры ўсіх. І адразу стане вядома пра Чубара і пра тое, што начны пажар у Падлубішчы мог быць справай яго рук.

Ад самых Верамеек абапал карэністай дарогі ішоў лес — спярша старыя, ужо даўно выбракаваныя, але непаваленыя ды нявывезеныя к руму сосны, тады маладых хвойны падлесак, сярод якога на галых мясцінах адзінока пракідаліся беластволыя бярозкі, пасля зноў пачыналіся вялікія дрэвы з сёлетняй падсочкай. Колы пустых вазоў гучна ляскалі па карэнні, якое выпінала ся вонкі, і ад гэтага на ўвесь лес, здавалася, ішоў несціханы грукат і гул, праз які чалавечы слых ужо няздольны быў ні да чаго дапасці. Ехаць па такой няроўнай дарозе было дрогка і нават ласкотна, таму сёй-той, прывязаўшы зашмаргам вяроўчатыя лейцы да бакавой гнушкі, адбягаў акурат кумільгом побач, каб высмагнуць на ўзлеску ахапак кучомістага, светла-бурага верасу пад зад сабе; паклаўшы, кожны пазіраў на астатніх з выклікам, быццам толькі што зрабіў нешта зусім заліхвацкае ці ўжо, няйначай, такое, што няўзнак іншым. Трымаючы лейцы ў руках, Зазыба амаль не паганяў каня, ды і патрэбы, здаецца, не было ў гэтым, бо яго мышасты захапіўся агульным рытмам скорай язды, стараўся сам паспяваць за пярэдняй падводай. Зазыбу толькі і клопату заставалася, што ўсяго час ад часу кідаць вокам на сякеру, уторкнутую ў шчыліну паміж бакавушак, каб тая не згубілася на дарозе.

Перад тым як ад'ехаць ад стайні, паміж верамейкаўскіх мужыкоў адбылася размова. Пачаў яе Брава-Жыватоўскі. Нездарма кажуць, што на пажары, акрамя ўсяго іншага, можна пагрэць таксама рукі. Брава-Жыватоўскі якраз і скеміў скарыстаць момант, балазе верамейкаўцы ўранку па-сапраўднаму былі ўзбураны падпалам, нават тыя, што звычайна адмоўчваліся пры розных акалічнасцях, і то сёння гневаліся ў душы, гатовыя на ўсё.

— Цяпер самі бачыце,— нібыта ўшчуваючы адна-

вяскоўцаў, кінуў першыя словы Брава-Жыватоўскі,— без узброенай аховы нам не абысціся. А то ж сёй-той з вас падумаў, нябось,— Антон здурнеў, не за тое хапаецца. А я пра вас, пра вёску ў першую чаргу думаю. Вінтоўка — яна... не толькі ваўкоў пахам адпужвае, а і двухногіх прымушае паводзіць сябе, як трэба. Вінтоўка — сіла.

— Ат, закінь ты яе знаеш куды!..— раптам скрывіўся і махнуў пагардліва рукой Раман Сёмачкін, у якога пагарэлі ўначы ці не ўсе копы.— Што толку з тваёй етай бяльгійскай ламачыны, калі самога і з вучоным сабакам нідзе не знайсці!

— Дапусцім, сёння я сапраўды праспаў,— зніякавела заплюскаў вачамі Брава-Жыватоўскі, быццам хацеў паказаць гэтым, што без лішніх слоў прымае Раманаў дакор.— Але ж гляньце на справу з другога боку. Дапусцім, у вёсцы не адзін я паліцэйскі, а некалькі. Дарэчы, на Верамейкі і так паложана на кожныя траццаць двароў яшчэ па адным. Ды на два пасёлкі. Значыць, ужо цэлы стан будзе ў вёсцы.

— А начальнікам немцы, няйначай, паставяць Раманавага Рахіма,— таксама ў адпомсту Брава-Жыватоўскаму, што праспаў пажар, кінуў Сілка Хрупчык.— Раман жа яшчэ калі хваліўся, што Рахім сабе забярэ ўсю ўласць у нас.

— Не, цяпер ужо гэта не так,— зусім сур'ёзна, быццам не чуючы Сілкавай знарочыстасці, запярэчыў Брава-Жыватоўскі,— Рахім у нас не будзе. Яго ў Печы, пад Барысаў, зямляк забірае.

— Во ета зямляк, га? — падміргнуў Іван Падзерын.

А Сілка Хрупчык дадаў:

— Ну, а то ўсё нас Раман палохаў — ста-а-а-не Рахім начальнікам і ўсіх тады ба-а-аб... Га-га-га!

— Відаць, шышка вялікая той Рахімаў Ахмет? — акурат зайздросцячы, пачухаў патыліцу стары Ціток, якога Брава-Жыватоўскі таксама змусіў ехаць на шарварак у Белую Гліну.

— Да ўжо ж...

— Але ж, Раман, мусіць, так і не звадзіў яго ў Верамейках на разгавенне? — успомніў Іван Падзерын, усё роўна як на ім дасюль ляжаў гэты клопат.

Мужыкі зарагаталі.

— Дак... а Ганна Карпілава? — падказаў хтосьці з натоўпу.

— Ну, да Ганны, скажу вам... Да Ганны хоць каго завесці няхітра, праўда, Раман? А вось...— Іван Падзерын, відаць што, надоўга браў на сябе гэтую гаворку. Таму Раман Сёмачкін, перабіваючы ёрніка, сказаў:

— Ты б, Антон, расказаў хоць, што тама дзеецца наогул у воласці. А то сам, нябось, ездзіш ледзь не кожнага дня, а нам ні слова.

— Я ж не адзін езджу,— каб усе чулі, сказаў Брава-Жыватоўскі.— Вось і Зазыба таксама быў разы са два ўжо. Папрасілі б яго, няхай ён раскажа.

— А пра што мне расказваць? — пацінуў плячамі Зазыба.

— Як пра што? Пра ўсё раскажы,— акурат падначыў яго Брава-Жыватоўскі.

— І пра тое, як цябе выганяў з царквы староста? — праціаючы паліцая насмешлівым позіркам, спытаў Зазыба.

Але Брава-Жыватоўскага Зазыбава насмешка, на дзіва, зусім не ўзбурыла.

— Навошта пра гэта? — сказаў ён спакойна.— Раскажы лепей пра нараду. На нарадзе ж у каменданта мы разам былі.

— Разам-то разам, але кожны ў сваёй ролі. Мяне ж ты вазіў, няйначай, на расправу?

— Калі б вазіў толькі на расправу, то і расправіліся б, будзь пэўны!

— Так я табе і павёрыў! Гэта ж камендант чамусьці хутка душой адпусціўся, а можа, проста не паслухаў цябе, а то б...

Зазыба адчуў, што мужыкі кругом натапырылі вушы, слухаючы іх, хоць па тварах можна было зразумець, што ніводны пакуль не браў чыйго-небудзь боку; проста талопілі ад насцярожанай напружанасці вочы, акурат пазіралі на паядынак, пасля якога павінна рашыцца ўсё. Адчуў гэта і Брава-Жыватоўскі.

— Вам цяпер хоць на галаве стань, усё роўна не паверыце,— быццам у адчаі, усклікнуў ён.— Думаеце, каб не я, то вам бы даравалі за таго немца, што ў калодзеж трапіў?

— А што там даравань было? — не мяняючы на-

смешлівага тону, паціснуў плячамі Зазыба.— Не спытаўшы броду, палез нейкі недарэка ў воду, дак хто яму вінаваты?

— Не дужа б вас і слухалі,— бліснуў вачамі Брава-Жыватоўскі.— Як стаялі там, на пляцы, так і перашылі б з браневіка ўсіх!

Відаць было, што зацяло абодвум — і Зазыбу, і Брава-Жыватоўскаму. Таму Іван Падзерын сказаў:

— Ладна, мужыкі, сапраўды ў сляпога няма чаго пытацца пра пабітыя гаршкі. Добра, што ўсё абышлося. Ты вось, Антон, лепей скажы нам, каго возьмеш у напарнікі да сябе. Мяне ці Сілку?

Але дарэмна Іван стараўся.

— Не лопнула б ад цяжару кіла твая, каб таксама панасіў вінтоўку,— груба кінуў яму Брава-Жыватоўскі.

— Дак...— сумеўся Падзерын, але не надоўга, мусіць, разважыўшы, што не ўсякая абраза цяпер лічыцца.— Мяне ж вызвалілі насіць вінтоўку нават па мабілізацыі. І не такую цяжкую, як твая вось, а лягчэйшую, нашу, мосінскую. Так што... А ты хочаш, каб я сам цяпер ўзяў?

— Не возьмеш ты, возьмуць другія.

— Дак і Сілка ж таксама... Ён хоць, як ты кажаш, і не кілаваты, але ці саўладае з тваёй бяльгійскай руляй адной рукой?

— А ты за Сілку не турбуйся. У Сілкі свая галава. А наконт вінтоўкі? Калі бяльгійская цяжкая, дадуць лягчэйшую — альбо рускую, альбо сваю, нямецкую. Дакладны бой.

— Не-е-е,— заматаў галавой Іван Падзерын, якому, няйначай, падабалася ўжо такая гаворка, ён нават забыў, што ўстраваў у яе спярша толькі дзеля таго, каб развесці Брава-Жыватоўскага з Зазыбам.— Ні трохлінейкі, ні сваёй немцы нікому з нашых у рукі не дадуць. Яны нават табе во не далі, а сунулі бяльгійскую. Моў, не надта параскашуеш, стралок, калі ўсяго чатыры патроны маеш. Пяты ж ты недзе аддаў Мікіту сапсаваць. Я так думаю, Антон,— хоць ты сам, без вярбоўкі, служыш у іх, але яны табе не зусім давяраюць, бо патронаў мала даюць.

— Нічога, пастраляю гэтымі — яшчэ дадуць.

— Дадуць-то дадуць, але ж па іх трэба збегаць у Бабінавічы ды папрасіць тама. Нябось, яшчэ і пад ад-

чот дадуць. Ета што было б, каб усе далёка так бегалі па патроны? Моў, ты пачакай, я вось збегаю зараз па патроны, а тады цябе застрэлю. Які б ета дурань цябе чакаў, каб ты яго застрэліў?

— Думаеш, міліцыянерам болей давалі? — павёў вачамі па ўсіх Брава-Жыватоўскі...

— Ета калі-і! Ета ў мірны час. Тады і страляць не было ў каго. А я так думаю — немцы не дурныя, моў, хоць вы і добраахвотнікі, але чорт вас ведае. Сёння такая ахвота ў вас, а заўтра, глядзіш, другая. Дай вам уволю патронаў, дак вы... А раптам вам ляйчына якая пад хвост трапіць? Словам, не давяраюць яны вам. І Сілку вось не дадуць таму лягчэйшай вінтоўкі, калі ён і праўда паддасца на твае ўгаворы. Бо да нашай трохлінейкі ці да іхняй з крывым затворам лягчэй патронаў раздабыць — хто ўкрадзе, а хто і сілай возьме. Куляй тады сабе колькі ўлезе. Таму і ўзбройваць яны вас бяльгійскімі. Здаецца, пры зброі, а раз, два стрэліш дый няма з чаго.

— Ну, ты контру мне тут не разводзь! Многа ты знаеш!

— А тута й знаць многа не трэба,— зусім не спалохаўся Іван Падзерын.— Тута й так усё ясна. А пужаць мяне нявартa. Я пра немцаў тваіх нічога благога не сказаў. Сведкі во ёсць. Так што...

— Дык і няма чаго абы-што плявузгаць. Урэшце, цябе не прымушаю ў паліцыю паступаць. Я толькі сказаў, што трэба ўмець бараніць сваё. А то сёння жыта згарэла, а заўтра вёску хто-небудзь падпаліць. Падпаліць і не паглядзіць, што вы...

— Дак ты скажы Адольфу, каб яшчэ паліцэйскіх прыслаў. Уласць жа павінна абараняць людзей, калі яна людская. Ці аддай зусім вінтоўку Драніцы вось. Няхай ён бегае вакол вёскі.

— Ага, як тэй таго, ты будзеш спаць з бабай на пасцелі, а я бегаць, сцерагчы цябе,— не залюбіў Мікіта.— Разумнікі, як тэй таго, знайшліся!

— Чакай, Мікіта,— нецярпліва паморшчыўся Брава-Жыватоўскі.— Урэшце не абавязкова ў паліцыю ўсім ісці,— сказаў ён да астатніх мужыкоў.— Можна самаахову наладзіць.

— Як ета?

— Проста будзем ахоўваць вёску без зброі, каб ніхто чужы не заходзіў. А то цяпер швэндаюцца ўсе,

каму не лянота. Можа, й копы гэтыя падпаліў які валацуга. Спаў, а тады прамёрз, захацеў пагрэцца.

— Ага,— адразу ж не паверыў Іван Падзерын,— мала яму было пагрэцца на адной капе, дак цэлае поле падпаліў.

— Тым больш! — нібыта не зразумеў Івана Брава-Жыватоўскі.— Трэба тады вачэй зусім не спускаць. Я ж недарэмна кажу, самаахову пара ладзіць. Няхай кожны пячэцца за сваё.

Можа б, паліцай і яшчэ агітаваў, але раптам Кузьма Прыбыткоў, які таксама быў каля стайні, крактануў нечага, акурат толькі цяпер спахапіўся, што дарэмна маўчаў, тады ўставіўся доўгім няверлівым позіркам на Брава-Жыватоўскага і, торкнуўшы неразлучным цапком у неба, сказаў:

— Глядзіце, мужыкі, каб вам з етымі Антонавымі хоцькамі-няхоцькамі чорта лапаю не накрыць. Яно ж спярша цапу-лапу, а потым...

Цяпера Зазыба з усмешкай успомніў гэтае Кузьмова «цапу-лапу» і застаўся дужа давольны, быццам неспадзявана пашчасціла небараку — як кажуць, дасюль не было і блыхі на аркане, а тут раптам цэлы табун скакуноў дарма аддавай.

Тое, што Брава-Жыватоўскі паспрабаваў выкарыстаць сённяшні пажар у Паддубішчы, каб узбурыць няведама супраць каго верамейкаўскіх мужыкоў, Зазыбу не вельмі здзівіла. Праўда, спярша ён злякнуўся быў, згадаўшы нядобрым словам Чубара, што ўзяў сабе ў галаву спаліць калгаснае, а дакладней — цяпер ужо сялянскае жыта, і гэтым даў Брава-Жыватоўскаму прычыну праводзіць сваю агітацыю. Аднак паслухаў, як адмахваліся мужыкі ад кожнай прапановы Брава-Жыватоўскага, прытоена ўсміхнуўся сабе: дарэмна чорт услед за начным пажарам спрабуе і балота падпаліць!

Але ж Брава-Жыватоўскі!.. Зазыба дзівіўся той паслядоўнасці, з якой паліцай праводзіў сваю лінію ў Верамейках, імкнучыся не прапусціць ніводнага прыдатнага выпадку, каб умацаваць сваё становішча. Сёння гэта выявілася, бадай, мацней за ўсе разы, калі ён адкрыта рабіў захады стварыць у Верамейках паліцэйскі стан. Аднак сёння ж раптам для ўсіх стала зразумела і тое, што наўрад ці ўдасца яму гэтая задума — здаецца, ніхто з верамейкаўцаў, у тым ліку і Раман

Сёмачкін, добраахвотна не збіраўся браць ад немцаў зброю. Нават бяскрыўдную на першы погляд прапанову — ствараць самаахову ў вёсцы — мужыкі і тую сустрэлі зусім без энтузіязму, нягледзячы што пажар у Паддубішчы мог прымусіць пайсці на такі крок.

Разважыўшы такім чынам, Зазыба ў думках вярнуўся да Чубара, зноў звязаў з ім сённяшні пажар у Паддубішчы. Але ў душы ўжо не было ранейшага абурэння гэтым Чубаравым учынкам, нават звычайнага асуджэння і то не ўзнікла. Чамусьці больш думалася пра тое, што Чубар цяпер сядзіць недзе пустэльнікам у Мамонаўцы і чакае яго, Зазыбу, калі ён злітуецца ды выбера часу з'ездзіць у Машавую. Хоць Зазыба тады наперад гаварыў, што спярша давядзецца ўсё-такі ехаць у Белую Гліну, бо такі загад, аднак тым не менш усярэдзіне было адчуванне вінаватасці. Дзіва, але яшчэ ўчора, шукаючы апраўданне свайму рашэнню, Зазыба нават і дапусціць не мог, што сёння адчуе гэтак сябе. Здаецца, нічога асаблівага не здарылася б, калі б Зазыба ўрэшце і адмовіўся ехаць у гэтую Белую Гліну, бо ці мала якую прычыну можна прыдумаць, напрыклад, хваробу. Вунь жа Парфён Вяршкоў... Але падумаўшы так, Зазыба раптам сарамліва спахапіўся, бо не простай хітрасцю тлумачылася сённяшняя Парфёнава адсутнасць. Вяршкоў сапраўды вельмі захварэў!..

«Трэба наведаць Парфёна, а то што ж атрымліваецца!..»

Не ведаў Зазыба, што Вяршкова ўжо не было на гэтым свеце...

Дзіва, але з гэтай хвіліны ўсё, што Зазыба думаў, і ўсё, што адчуваў, ужо не было такім значным, як ранейшае.

На вочы па дарозе трапляла ўсё, што мела неспакойныя абрысы альбо хоць якім чынам варушылася. За мелкім пагонам, дзе стаяла ўжо, няйначай, адна дажджавая вада, якую адразу змяшаў з гразёю абоз, праехаўшы ўздоўж па ім коламі і пратупаўшы капытамі, пачыналіся дымчатыя зараснікі чароту. Трохі далей, паміж лесам і Топкай гарой, дзе звычайна верамейкаўцы ставілі ў касавіцу стромыя стагі, каб пасля перавезці сена на санях у вёску зімняй дарогай, узвышаліся дубы. Іх было там усяго некалькі, можа, дзесяцак ці меней, аднак стаялі яны блізка адзін ад аднаго,

да таго ж, на фоне хвойнага лесу, таму за кіламетр ад іх здавалася воку, што там іх цэлая диброва. Дубы ўсе былі зімнія, лічы, рэдкая з'ява для тутэйшай зямлі, і людзі іх ашчаджалі, нават не зачапілі тады, калі дзялілі тут былы панскі луг на тры вёскі. Адзяваліся гэтыя дрэвы ў лістоту ў май, недзе ў сярэдніх днях, і аблятаалі таксама ў май, у тых самых чыслах, толькі на працягу года мянялі колер — ад зялёнага да жоўклага і наадварот. Але дзіўна было, што яны не давалі патомства — як выраслі некалі вось гэткай купкай, так і засталіся адны, усім на пералік, быццам кожны год атрэсвалі з сябе толькі зачаўраныя альбо зусім бясплодныя жалуды. У кожным разе, цэлы век — а ім ужо не менш за сто грукнула кожнаму — пад іхнімі шатамі не вытыркнулася з-пад мурагу ніводнага парастка... Пад гэтымі дубамі здавён узялі сабе за звычай начаваць верамейкаўскія канюхі. Зазыба таксама ў маладыя гады вадзіў сюды бацькавых коней. Дарэчы, адсюль ён пайшоў у вёску і ў тую ноч, калі цыганы ўкралі жарэбку,— праз гэта пасля давялося Зазыбу падавацца да Шчорса.

О, як даўно гэта было!..

У атрадзе, які прыходзіў тады з Унечы ў забяседдзе, былі дзве кулямётныя тачанкі і адна гармата на драўляных, відаць, самаробных колах. Накіроўваючыся сюды, Шчорс меў на мэце ўсяго набраць у сваё войска добраахвотнікаў. Аднак для гарматы нечакана знайшлася баявая справа. Бабінавіцкія эсэры якраз стварылі ў воласці «рэспубліку», якая дзейнічала, як яны гаварылі, «на савецкай платформе», але была «самастойная і незалежная». Павятовай улады ў мястэчку не прызнавалі, а прадстаўнікаў рэўкома, якія прыязджалі з Чэрыкава, арыштоўвалі, трымаючы ў царкоўным сутарэнні. Шчорсаў атрад таксама паспрабавалі не пусціць за Бесядзь, паставілі баявыя заслоны на ўсіх дарогах, якія вялі ў Бабінавічы. Але дарэмна. Даволі было артылерыстам паставіць насупраць Прудка гармату і зрабіць некалькі стрэлаў з яе, як «рэспубліканская армія», разбеглася па дварах. І калі Шчорсаў атрад уступіў у мястэчка, там ужо не было не толькі «рэспублікі», але ніводнага эсэраўскага завадатара — кудысьці жваванька збеглі ў Чарнігаўшчыну, можа, загадзя напытаўшы сабе прытулак. Сяляне з навакольных вёсак пасля доўга смяяліся з

гэтай бабінавіцкай рэспублікі, а местачкоўцаў яшчэ і цяпер часам дражнілі на ўкраінскі манер — «самасційнікамі». Усё гэта Зазыба пабачыў на свае вочы, бо ўжо к таму часу запісаўся ў атрад к Шчорсу і, як былы кулямётчык, ездзіў па вёсках на тачанцы. Ён нават трохі пастрачыў тады з кулямёта, але не цэлячыся: загад быў ад Шчорса адно паўз галовы палахаць абаронцаў «самастойнай рэспублікі»...

Нарэшце верамейкаўскі абоз выкіраваўся па звілістай лугавой дарозе да броду супраць Гончы, і першыя падводы пачалі пераязджаць шырокую ў гэтым месцы, але не дужа плыткую Бесядзь. На тым беразе, акурат у глыбокай каляіне, стаяў чалавек, усё роўна як выйшаўшы напярэймы. Аднак спыняць ён нікога не збіраўся, адразу перад першай падводай сышоў збоч дарогі і, на моцна затравянелым высокім бугорчыку,— дарма, што не было канца,— чакаў, пакуль праедуць астатнія. Параўняўшыся з ім, Зазыба раптам пазнаў па абліччы таго смуглявага чалавека, што надоечы на нарадзе ў Бабінавічах пытаўся ў каменданта Гуфельда, ці будуць пры немцах навучаць у школах дзяцей беларускай мове.

Зазыба яшчэ тады, на нарадзе, памеў цікавасць да гэтага чалавека, здагадаўшыся, няйначай,— чалавек з «ідэяй»; хацеў даведацца хоць што пра яго, але не знайшлося ў каго спытаць. Чалавек таксама хутка пазнаў Зазыбу, хапіла толькі спыніцца на ім позірку, ён тут жа заўсміхаўся, можа, спадзеючыся на ўзаемнасць, затым паспешліва, каб, крый бог, не спазніцца, спытаў скрозь ляскат колаў:

— Куды гэта вы, мужыкі?

— У Белую Гліну! — круцячы за складзены канец лейцы над галавой, акурат пахваліўся з воза Мікіта Драніца.

— Вы з Верамеек? — ужо наўздагон гукнуў чалавек і саскочыў з бугорчыка на дарогу, кінуўся даганяць абоз.— А я гэта збіраўся да вас у Верамейкі,— сказаў ён Зазыбу, сядаючы з другога боку да яго на калёсы.— Добра, што перастрэў вас. Не трэба будзе лішняга круга даваць ды ногі дарэмна трапаць. А мы з вамі, здаецца, ужо бачыліся, праўда?

— Праўда,— прыязна ўсміхнуўся Зазыба.

— У камендатуры?

— У камендатуры. А якая патрэба вам у Верамей-

ках? — спытаў Зазыба, крутануўшы цераз правае плячо галавой, каб лепей было чуць.

— Хацеў пабачыць жонку Бутрымы, дырэктара вашай сямігодкі.

— Дык яна ў эвакуацыі даўно. А што? Навошта яна вам?

— Бачыце, справа такая. Я — Мурач. Можа, чулі? Настаўнікам быў у Бабінавічах, а тады, год перад вайной, працаваў у Бялынкавічах. Дык я таму Бутрыму вашага добра ведаю, яшчэ з даваеннага. А цяпер у палоне разам былі, у адным лагеры сядзелі. Вось я і хацеў, каб жонка туды скора падышла.

— Дак... няма яе цяпер у Верамейках. Адразу, як прызвалі Бутрыму, падалася з дзецьмі ў бежанцы.— Зазыба памаўчаў.— Але што шкадаваць цяпер, некаторыя нашы салдаткі пайшлі па мужыкоў у лагер, можа, і Бутрыму пабачаць. Так што...

— А куды яны пайшлі?

— Здаецца, у Яшніцу.

— Не,— дробна куснуў ніжнюю губу Мурач.— Вашых, Верамейкаўскіх, у Яшніцы не павінна быць. Хіба, можа, тыя, што пайшлі па першай мабілізацыі. А так не павінна быць. Крутагорскія былі сабраны ў адну дывізію, што фарміравалася ў Яльцы. Усе, хто падпаў пад другую мабілізацыю, з Кручкоўскага гаю сёмага ліпеня пайшлі да Яльца — праз Вялікі Хоцімск і далей туды. Таму я і кажу, што вельмі малая верагоднасць, каб у Яшніцы вашы апынуліся. Адразу трэба было падказаць жанкам ісці ў Зёрнава.

— Дзе гэта Зёрнава, я не чуў?

— Каля горада Сярэдзіна-Буда. Чыгуначная станцыя завецца так. Дык там вось і зрабілі немцы вялікі лагер для нашых палонных.

— Ну і як там?

— Дзе? — не адразу зразумеў Мурач.— А-а, у лагеры?

— Але.

— Як у чорта за пазухай.

— Не ведаю, як гэта,— усміхнуўся Зазыба.— Ніколі не трапляў да чорта ў запазуху.

— Ну што тут ведаць! — акурат раззлаваўся настаўнік.— Пекла і ёсць пекла.

— Кажаце, пекла? А як жа вы вырваліся з таго

пекла? Па-мойму, з пекла яшчэ ніхто не вяртаўся? Нават у казках і то гэта цяжка даецца.

— Мяне адпусцілі.

— А чаму тады Бутрыму затрымалі?

Зазыба хоць і свядома задаў гэтае сваё пытанне, аднак непрыязнасці да чалавека пакуль не адчуваў. Справа ў тым, што ён не даў веры настаўніку, не паверыў у тое, што немцы ўзялі вось так проста ды адпусцілі яго з лагера ваеннапалонных. На чым была заснавана гэтая вера ў адваротнае, сказаць цяжка, можа, на адной ранейшай прыхільнасці, бо для Зазыбы такога пачуцця звычайна хапала, каб не кідацца ў крайнасці і не мяняць крута думку пра чалавека нават тады, калі той, здавалася б, і даваў ужо для гэтага падставу. З другога боку, маўчанне, раптоўная збянтэжанасць, у якую прывяло настаўніка Зазыбава запытанне, таксама сведчыла на карысць апошняга. Хутчэй за ўсё, чалавек некалі вырашыў для сябе гэтак адказваць людзям, якія пыталіся ў яго, бо тут была для яго нейкая пэўная рацыя, а Зазыба раптам вельмі лёгка і нечакана разбурыў логіку ягонай версіі — на самай справе, чаму толькі цябе аднаго, чаму Бутрыма не ўдастоіўся ў акупантаў такога?

Было відаць, як білася ад унутранай натугі ў Мурача ў адным месцы на патыліцы, туды бліжэй да вуха, жылка, акурат спрабавала прабіцца там дзюбачкай з-пад скуры маленькая жывая істота...

Ніхто Мурача не выпускаў з таго зёрнаўскага лагера, што побач з горадам Сярэдзіна-Буда. Ён сам уцёк. Але каму цяпер пахвалішся гэтым, бо можа адразу дайсці да немцаў, і тым нядоўга будзе атрыштаваць яго, зноў пасадзіць за калючы дрот.

У палоне Мурач прабыў усяго дванаццаць дзён.

Новую калону, у якой быў і ён, немцы прыгналі на чыгуначную станцыю Зёрнава пад вечар. Але перад тым як пусціць палонных у лагер, наладзілі кіназдымкі. Спярша акупанты ўзмацнілі канвой — абапал калоны пасталі дужыя аўтаматчыкі, якія пасаскоквалі з двух крытых грузавікоў, што стаялі непадалёк ад варот лагера. На трэці грузавік, у кузаве якога блішчаў лінзамі на трынозе кінаапарат, залез, паставіўшы нагу на металічную прыстаўку, афіцэр.

— Зараз мы будзем раздаваць вам хлеб! — сказаў ён картава па-руску.

Два другія немцы, што сядзелі на бакавой лаўцы, ускочылі і пачалі прымервацца да кінаапарата, а трэці і сапраўды дастаў аднекуль з-пад ног у сябе буханку хлеба.

Прызнацца, палонныя на нейкі час паверылі ў гэта. Думалася, адна справа — у дарозе, там, калі б і хацеў нават, то ці накарміў столькі народу. А тут — лагер. Няйначай, пры ім працуе ўжо кухня. Можа, нават пякарня... Словам, галодным ды знясіленым дарогай палонным на момант здалося, што пакуты нарэшце скончыліся, прынамсі, хоць галадаць не давядзецца, раз апынуліся на месцы. На кінаапарат мала хто звярнуў ўвагу, бо ў кузаве мог стаяць проста які-небудзь прыбор, напрыклад, артылерыйская бусоль, а тым больш не падумаў, што гэтая раздача хлеба прыдумана немцамі знарок, каб зняць яе на плёнку і потым паказваць у якасці хронікі ў кінатэатрах рэйха.

Побач з Мурачам стаяў калгаснік з Сібіры, Пятро Самуцін. Некалі ён жыў у Беларусі, дзесьці ля Пухавіч, а ў дваццатым годзе, перад польскім наступленнем, падаўся з малодшым братам і маткай у Сібір, да дзядзькі, які пераехаў туды яшчэ задоўга да рэвалюцыі. Дык гэта сібірскі беларус усю дарогу чамусьці супакойваў Мурача. Здавалася, яго не бянтэжылі нават тыя здзекі, якія чынілі канваіры над палоннымі, а часам і проста выпадкі дзікай расправы — абы згаладалы палонны зрабіў забаронены крок ад дарогі, каб ухапіць на гародзе качан капусты ці бурак, як услед яму грымеў стрэл; адставаў хто-небудзь, знясілены, на недазволеныя некалькі крокаў ад калоны, зноў чуўся стрэл.

— Гэта ўсё таму,— тлумачыў перасяленец, якому чамусьці вельмі хацелася апраўдаць немцаў,— што яны наогул вельмі парадак любяць. Вось дойдзем да месца прызначэння, пабачыш, адразу ўсё іначай стане.

Можа, чалавек у гэтым апраўданні бачыў свой ратунак. Да таго ж у першую імперыялістычную яму ўжо даводзілася сустракацца з немцамі. Кайзераўскія артылерысты тады стаялі ў іхняй вёсцы амаль з год, да таго часу, пакуль у снежні васемнаццатага года ў Германіі не адбылася рэвалюцыя. То былі, як ён казаў, самыя звычайныя людзі. Размяшчаліся яны па сялянскіх хатах і нікому не рабілі нават звычайнай крыўды, не тое што гвалцілі ці рабавалі. Спалі ўпокат на

падлозе, пасцяліўшы салому пад бок, і ніколі не патрабавалі, каб гаспадары аддавалі ім свае лыжкі. Карміліся кайзераўскія салдаты таксама ледзь не за адным сталом з гаспадарамі, не шкадавалі пачаставаць дзяцей мармеладам, які атрымлівалі ў пасылках з Германіі. Самуцін бегаў тады з хлапчукамі да гармат, што стаялі на вясковым пляцы. Там заўсёды паходжваў вартавы, і дзеці, высунуўшы слюнявыя языкі, дражнілі яго: «Немец-перац, тухлая капуста, з'еў кабылу без хваста і сказаў, што скусна». Вартавы рабіў выгляд, што злуецца, здымаў вінтоўку з пляча, клацаў крывым затворам і пачынаў цэліцца, каб вясковыя падшывальцы разбягаліся ва ўсе бакі...

Але вось афіцэр узяў з рук салдата буханку і кінуў на мурог перад натоўпам палонных. Натоўп скалынуўся, і чалавек дзесяць палонных ірвануліся да буханкі, адпіхваючы, хто мацнейшы ды спрытнейшы, адзін аднаго. Самуцін таксама не стрымаўся. Неўзабаве па мурагу перад грузавіком пакаціўся жывы клубок, які нагадваў драпежную гайню, што шкуматала трапіўшую ёй ахвяру. Тым часам у кузаве, бліскаючы шкельцам, стракатаў кінаапарат. Але спектакля, на які разлічвалі фашысты, не атрымалася. Астатнія ваеннапалонныя не паддаліся спакусе. Усе ўжо зразумелі, што гэта звычайная правакацыя і што невядома, чым яна можа скончыцца. Нават тады, калі з кузава на мурог адна за адной паляцелі яшчэ буханкі хлеба, ніхто нават не зварухнуўся. Перад грузавіком валтузіліся ўсё тыя ж дзесяць чалавек. Афіцэр, які рабіў рэжысуру спектакля, падаў рукою знак спыніць здымку.

— Чаму вы стаіце? — пацiснуў ён плячамі.— Вы не захацелі есці?

Палонныя маўчалі.

— Значыць, не хочаце есці? — ужо з віскліваи злосцю крыкнуў афіцэр.

Зноў адказу не было.

Тады афіцэр паспакайнеў і з пагрозлівай усмешкай сказаў:

— Ну што ж, мы пачакаем другую калону. А вам яшчэ не адзін раз прысняцца гэтыя буханкі, бо ў вас быў добры выпадак пакаштаваць сапраўднага салдацкага хлеба.

Расчыніліся вароты лагера, і тыя ж дужыя аўта-

матчыкі, што змянілі ранейшых канвойных, пачалі заганяць палонных усярэдзіну.

Афіцэр недарма злавесна ўсміхаўся — сапраўды, палонным сніліся пасля тыя буханкі!..

Зёрнаўскі лагер быў, як і належыць, абнесены калючым дротам, з кулямётнымі вышкамі па чатырох кутках. Уранку, калі палонныя прачыналіся ў норах, то нават не жахаліся, што шмат хто з сяброў і знаёмых застаўся ляжаць нерухома: голад рабіў сваю справу. За два тыдні мала хто ўцалеў з тых, што прыйшлі ў адной калоне. Але тут Мурач нечакана сустрэў Бутрыму і пазнаў яго, хоць і быў вельмі змарнелы і зарослы. Яны прызываліся ў армію разам, з Кручкоўскага гаю, таксама і фарміраваліся ў адной дывізіі, але на фронт трапілі ў розных эшалонах. Мурач раптам ажыў душой — было каму даверыцца, бо думаў ужо ён уцячы з лагера.

Але Бутрыма, у якога хапала сілы ў нагах толькі прайсці з канца ў канец лагер, адмовіўся прыняць удзел ва ўцёках.

Сказаў:

— Бяжы, Сцяпан Канстанцінавіч, адзін. Сам бачыш, які з мяне ўцякач. Ходзяць чуткі, што неўзабаве пачнуць вадзіць нас адсюль на палявыя работы. Тады, можа, неяк ад'ямося — дзе бульбінку патраплю, дзе проста цавінку. Словам, надзею пакуль на жыццё не губляю. А здарыцца, што і праўда вырвешся адсюль, перакажы там жонцы маёй ці сам у Верамейкі наведайся. Скажы, моў, так і так, тут, у Зёрнаве, няхай прыйдзе. І, калі ласка, пашукай другога, раз адзін не рашаешся.

Здаецца, простая справа, але Мурач не стаў шукаць напарніка сабе для ўцёкаў — як кажуць, хоць бяда і адна на ўсіх, аднак усё роўна чужая душа — пацёмкі. Яго ўразіў адзін выпадак, які адбыўся ў лагеры дзён колькі назад. Удзень палонныя звычайна трымаліся бліжэй да агароджы, бо з таго боку часам падыходзілі хлапчукі з чыгуначнай станцыі і навакольных вёсак і ўпотай ад лагернай аховы перакідвалі цераз дрот то акраец хлеба, то вараную бульбіну, то яшчэ якую-небудзь ежу, што мела цвёрдасць і магла ляцець. Уласна, надзеі вялікай, што якраз табе, а не каму іншаму пашанцуе схапіць на ляту хоць маленькі калавачак, не было, але на тое яна і надзея, каб на

нешта спадзявацца. Мурач таксама выйшаў у той дзень на паляванне да агароджы. Там ён і стаў сведкам, як да варот лагера, дзе знутры стаялі вартавыя, нейкі палонны вёў за каўнер другога палоннага.

— Пан,— сказаў вартавому,— гэта камісар!

За каўнер ён трымаў спалоханага чалавека з усходнім абліччам. Ахоўнік замахнуўся цяжкім дубцом, які трымаў у руцэ (такія дубцы ўнутраная ахова насіла пры сабе), і выцяў раптам па карку камісара, а тады бліснуў у паветры дубцом другі раз і зноў выцяў камісара. Можна сабе ўявіць, ці пашкадаваў бы вось такі чалавек, каб хоць няўзнак даведаўся, што нехта збіраецца ўцячы з лагера. Таму Мурач і не стаў шукаць сярод незнаёмых людзей сабе напарніка. Уцякаў адзін, у дажджлівую ноч, калі нават пражэктары, якія ўключаліся на вышках, не маглі асвятляць усю тэрыторыю лагера: дапоўз да агароджы, разгроб рукамі пад калючым дротам зямлю і праціснуўся ў шчыліну. Няйначай, дождж да раніцы змыў сляды і зраўняў тую яму. Ва ўсякім разе, пагоні за сабой на другі дзень Мурач не адчуў. Так і дайшоў, туляючыся, да Бабінавіч. А ў мястэчку сказаў валасному начальству, што яго адпусцілі з лагера самі немцы: паверылі ў валасным упраўленні ці не, а да ведама прынялі. Дык ці мог ён сказаць цяпер іначай і Зазыбу? Тым часам, калі ўжо на тое, яму дужа нялёгка зрабілася ад Зазыбавага запытання — сапраўды, чаму тады не адпусцілі немцы і Бутрыму, чаму аднаму гэтакая прывілея? Разам з тым ён верыў у Зазыбаву прыстойнасць. Няважна, што яны не сустракаліся вось так раней, у савецкі час, але Мурач яшчэ з таго, як настаўнічаў у Бабінавічах, помніў гэтае прозвішча, асабліва па сыну, які да арышту часта друкаваўся ў газетах. На нядаўняй нарадзе ў каменданта, куды ён таксама быў пакліканы, як прадстаўнік мясцовай інтэлігенцыі, Мурач адразу падумаў — няйначай, гэта бацька таго верамейкаўскага паэта. А цяпер вось выпадак звёў іх зноў, і яны нават на адных калёсах едуць.

Мусіць, Мурач усё ж знайшоў бы ў сабе духу прызнацца Зазыбу, што ніхто яго не адпускаў з лагера, што ён сам уцёк адтуль. Але на гэта быў патрэбны час, ну, хоць бы яшчэ некалькі доўгіх раздумлівых хвілін.

За Гончай дарога пайшла лёгкая, па палявой абочыне бальшака; адразу за канцавымі дварамі выгуля-

ныя коні заварушыліся і самі пабеглі шпарка; зноў затарахцелі падводы, хоць ужо і не так моцна, як нядаўна ў забяседскім лесе. Па левы бок ад бальшака далёка распасціралася поле, на якім сям-там то купкамі, то па адной чорнай чалавечай постаці; бліжэй да вёскі рухаліся палявой дарогай бухматыя вазы, гружаныя не то сенам, не то снапамі — адсюль не пазнаць. Справа таксама ляжала поле, але зусім вузкае, яно ўвесь час горбілася і на краі, акурат абрываючыся, крута спадала к рацэ, за якой тануў у зыбкім марыве лес і яго асмужанай і непрагляднай далячыняй. Хоць Зазыба і сядзеў на гнушцы па гэты, правы бок калёс, адкуль адкрываўся краявід на асмужанае забяседдзе, аднак галаву ён часцей паварочваў наадварот, жадаючы ўбачыць тое, што рабілася цяпер вакол вёскі; Зазыба ўвачавідкі прымерваўся,— маўляў, чым гэтыя дні займаюцца людзі тут і ці так робіцца ўсё, як у Верамейках. Параўноўваючы такім чынам «чужое» са «сваім», ён нібыта шукаў для сябе заспакаення і апраўдання таму, што рабіў сам і што рознымі шляхамі прымушаў рабіць іншых.

Нарэшце Зазыбу стала зусім няёмка, што гэтак доўга вязе чужога чалавека і не гаворыць, няважна, што той сам тады не азваўся. Фармальна Зазыба ўсё яшчэ чакаў ад яго адказу. Таму спытаў так:

— А што, з лагера ўцячы нельга?

Настаўнік крута павярнуўся тварам да яго, загадкава ўсміхнуўся, але адказаў проста і, можа, нечакана для Зазыбы:

— Чаму ж нельга? Я ж вось уцёк! — пры гэтым ён колькі часу нібы выпрабоўваў Зазыбу, не адводзіў вачэй ад яго, няйначай, жадаючы бачыць, як той паставіўся да гэтакага прызнання.

Зазыба таксама ўсміхнуўся.

— Я адразу падумаў,— сказаў ён,— наўрад ці так было на самай справе, як вы гаварылі спярша. Словам, я не надта паверыў, што немцы выпусцілі з лагера вас.

— Чаму ж?

— Ды так.

— А ўсё-ткі?

— Ну, не паверыў, і ўсё.

— Хіба што,— неяк невыразна паставіўся да Зазыбавай настойлівасці настаўнік.

Тады Зазыба яшчэ спытаў:

— Ну, а раз вы здолелі ўцячы, значыць, і другія могуць?

— У прынцыпе, так,— адказаў Мурач.— Але справа ў тым, што адны ўжо не могуць рашыцца на ўцёкі, проста не маюць фізічных сіл, а другія ўсё роўна як чаго чакаюць. Вось-вось, спадзяюцца, нешта пераменіцца. А я не стаў чакаць. Не стаў пасля таго, як зразумеў, што, няйначай, прападу. Не выжыву. Бо трэба ведаць, якія там, у лагеры, умовы. Я недарма кажу: сапраўднае пекла. Такога здзеку над чалавекам нават уявіць цяжка. Трэба пабыць там, каб ведаць. І вось гэты, увогуле-то вельмі невясёлы, вывад, як ні дзіўна, прыдаў мне сілы. Я рашыў — калі паміраць ужо, то неяк іначай, а не так, як паміраюць у лагеры — з голаду ці ад хваробы.

— Ну, а чаму раптам,— спытаў Зазыба,— у лагерах апынулася столькі народу?

— Звычайна. Дарэчы, вы самі ваявалі калі-небудзь?

— Ваяваў. І ў тую германскую, і на грамадзянскай быў.

— Значыць, павінны ведаць.

— Павінен-то павінен, але не зусім. У германскую я на румынскім фронце ваяваў. І асабліва не помню, каб нас вельмі бралі там у палон. Бывала, канечне, на вайне не без таго, але ж не параўнаеш... Не параўнаеш з тым, што робіцца цяпер.

— Ну, на румынскім фронце, дапусцім,— запярэчыў настаўнік,— румыны ды чэхі самі траплялі ў палон. А вось на другіх франтах... Дарэчы, каб ведалі,— у тую вайну нашых палонных было ў Германіі і Аўстра-Венгрыі ў агульным ліку каля трох мільёнаў.

— Але ж нямала іх было і ў нас, аўстрыйцаў ды немцаў,— раўніва сказаў Зазыба.

— Гэта таксама праўда.

— Ну, а ў грамадзянскую?

— Тады чырвонаармейцаў мала бралі белыя ў палон. Адразу шашкамі, калі што.

— У тым-то і справа. Помню, у дзевятнаццатым у Армавіры нашых тыфозных многа ляжала. А белыя якраз наступалі на горад, дак якая там паніка была ў шпіталях — нават тыфозныя хворыя баяліся заставацца ў горадзе. Давялося ў горы перавозіць, ратаваць. Таму мне і цікава, як гэта цяпер выходзіць, што адно

толькі і чуеш ад баб — і там лагер ваеннапалонных, і там...

— Цяпер немцы і самі раскідваюць лістоўкі, моў, здавайцеся ў палон, будзеце і накормлены, і жыццё ўратуеце.

— Гм,— прытоена ўсміхнуўся Зазыба,— чытаў я, будучы ў Бабінавічах, у іхняй газеце пра гэта. Дак там нават пропуск у палон надрукаваны. Па ўсёй форме. Толькі выраж ды прад'яві. Але я не пра тое. Вы ж адукаваны чалавек, дак ведаеце, белыя таксама не супраць былі, каб мы ўсе пакідалі зброю...

— Я разумею, што вы маеце на ўвазе,— сказаў нецярпліва настаўнік.— Але ж у палон трапляюць не таму, што хтосьці раскідвае лістоўкі ды пропускі друкуе. Усё не так проста, як можа здавацца. Звычайна, прычыны да канца становяцца зразумелыя пасля вайны. Тады толькі людзі пачынаюць разбірацца, што да чаго. А пакуль ідзе вайна, ці мала да чаго можна дадумацца. У тую вайну, напрыклад, палонных было багата альбо тады, калі войскі дрэнна наступалі, узяць хоць бы генерала Самсонава з яго арміяй, альбо тады, калі наогул усе павальна адступалі, як, напрыклад, у пятнаццатым годзе, у час так званага «вялікага адступлення». А пра лістоўкі я к слову сказаў. Хоць, можа, хто-небудзь і паддаецца на іхнія заклікі. Толькі, думаю, гэта адзінкі будуць сярод палонных. Урэшце, такія і ў лагеры паводзяць сябе не так, як астатнія, стараюцца ўладкавацца то ў санчасць, то на кухню, а то і проста ідуць у памагатыя да нямецкай аховы. Немцы ж ад паслуг таксама не адмаўляюцца. Ну, яны і лезуць у кожную шчыліну, абы чуць-чуць засвіцілася дзе. Але нельга меркаваць па іх аб усіх палонных. Вось вы пачалі гаворку пра лагеры, моў, чаму іх багата? Не ведаю, ці настолькі іх багата, як нам здаецца, сам я падлікамі не займаўся. Але раз ужо ў нас зайшла такая гаворка, дык раскажу пра сябе. Раскажу, як апынуўся сам у палоне. Думаю, гэта дасць вам нейкае ўяўленне пра ўсё. Я ўжо казаў, фарміравалася наша дывізія, як водзіцца, і накіравалі яе на чыгуначную станцыю. Мы не ведалі, што к гэтаму часу на фронце варожыя танкі ўтварылі прарыў і што нам загадана стаць ледзь не на вастрыні іх галоўнага ўдару. Як і трэба, са станцыі палкі ўжо сваім ходам рушылі на прызначаныя рубяжы. Наш полк спыніўся каля моста на

рацэ Няруса, гэта амаль пры ўпадзенні яе ў Дзясну. Кіламетраў за колькі па той бок Дзясны яшчэ ішлі баі, і войскі нашы знаходзіліся ў міжрэччы. Я добра помню, што Трубчэўск тады не быў заняты фашыстамі. Можа, нават і Унеча заставалася не пад акупацыяй. Канечне, камандаванне вышэйшае пра ўсё гэта ведала лепей, чым мы, салдаты. Аднак і чырвонаармейцы збольшага арыентаваліся ў агульнай абстаноўцы. У кожным разе ўсе ў нашым палку разумелі, што ў бой уступіць нам перш за ўсё давядзецца з танкамі, якія вось-вось выйдуць у гэтым месцы да Нярусы. Пакуль батальёны акопваліся ўздоўж ракі, у небе ўвесь час віселі нямецкія самалёты-карэкціроўшчыкі. Рамы. Кажуць, яны не цалкам нямецкія, гэтыя самалёты, выпускаюць іх нібыта італьянцы ў сябе, але на ўзбраенні «рамы» знаходзяцца і ў немцаў. Я камандаваў аддзяленнем, і маім байцам выпала займаць абарону трохі збоч моста. Акопы рылі, як кажуць, добрасумленна, каб можна было стаяць на дне. Не забыліся таксама і пра траншэю, якая вяла ад агульнай лініі абароны ў лес, што знаходзіўся метраў за чатырыста ад ракі: туды і мы пракапалі свой ход злучэння: словам, здаецца, падрыхтаваліся, як і палажана ў абароне. Але ў той дзень нямецкія танкі не паявіліся. Рокат іхні мы пачулі ўжо ўранні, праз ноч. Танкі падыходзілі да ракі ў тумане. Здавалася, вось-вось першая машына выскача на мост. Але не. Відаць, самалёты-карэкціроўшчыкі добра высачылі зверху ўвесь гэты бераг, таму немцы мелі дакладныя дадзеныя пра нашу абарону. Наступаць яны пачалі толькі тады, як рассеяўся туман па абодва бакі Нярусы. На нашы акопы раптам адтуль, з-за пагорка, абрынуўся шквальны агонь артылерыі. Няйначай, стралялі з танкаў. Выпадкова ці як, але акопы майго аддзялення гэты шквал неяк абмінуў, снарады чамусьці рваліся толькі вакол. Кананада такая працягвалася хвілін дваццаць. За гэты час снарады паспелі літаральна ўзарваць і луг, як бачылася воку, і ўзлесак, і сам лес патрушчылі далёка ўглыбіню. Нарэшце ўсё аціхла, дакладней, спярша сапраўды аціхла, а затым і зусім зрабілася ціха. Аднекуль з-за дарогі, быццам з-за высокага насыпу, выскачыў наш камбат і пабег, прыгінаючыся, уздоўж акопаў, відаць, хацеў упэўніцца, ці засталося што пасля такой калатэчы ад батальёна. Дабег да нас, крыкнуў, нібыта глухі ўжо:

«Падрыхтавацца, зараз танкі пойдуць!» Мы пачалі азірацца, атрэсваць камякі зямлі, папраўляць на галовах каскі, выкладваць на брустверы акопаў звязаныя ручныя гранаты, бутэлькі з запальнай сумессю. Так і выйшла, як папярэджваў камбат: танкі не прымусілі доўга чакаць. Зноў за пагоркам пачуўся рокат матораў, і мы ўбачылі, як адтуль пачалі выпаўзаць танкі. Рухаліся яны не адзін за адным, а франтальна, захопліваючы па той бок ракі ўвесь шырокі пагорак. Здавалася, што танкі і рынуцца так, фронтам, на нашы пазіцыі, спрабуючы адразу фарсіраваць Нярусу. Аднак ужо ў наступную хвіліну яны пачалі выцягвацца клінам, кіруючыся к мосту па адным. Перад самым мостом запаволілі рух, нібыта палохаючыся чаго. І вось у гэты момант нашы саракапяткі, схаваныя за кустамі, робяць першы залп. Затым другі, трэці. Адзін танк пачынае дыміцца, спыняецца якраз насупраць моста. Але ёсць месца рухацца далей, і палаючы танк абмінаюць другія, спяшаюцца ўз'ехаць на мост. Зноў страляюць нашы саракапяткі. Аднак цяпер снарады чамусьці ўзрываюцца побач. Тады пачынаем дзейнічаць мы, стралкі. Кідаем на танкі бутэлькі з запальнай сумессю, гранаты. Некалькі танкаў загараюцца на дарозе, па гэты бок ракі. Але ўсе мы ўжо разумеем, што нашымі сродкамі — бутэлькамі ды гранатамі — не стрымаць іх. Спраўныя танкі спаўзаюць з дарогі, імчацца кудысьці па лузе... Пад іхнімі гусеніцамі гінуць палкавыя саракапяткі. А неўзабаве ўсё навокал пусцее, такні знікаюць і ваяваць ужо быццам няма з кім, бо пяхоты на танках зусім не было. Выходзіць, што за якія-небудзь лічаныя хвіліны апынуліся мы нечакана калі не ў акружэнні, то адрэзаныя ад свайго тылу. Нарэшце прыйшла каманда выбірацца з акопаў. Хутка мы далучыліся да іншых падраздзяленняў. Разам усе рушылі праз лес. Там быў і палкавы абоз. Доўга наша калона прабіралася па вузкіх, мала наезджаных дарогах, ажно пакуль на другія суткі не выйшла да нейкай вялікай вёскі. У гэтым населеным пункце знаходзіліся батальёны другіх двух палкоў нашай дывізіі з артылерыяй, а таксама частка эскадронаў кавалерыйскай дывізіі, што рыхтавалася да нейкага прарыву. Зрабілі і мы прывал. Нам тут жа выдалі па кавалку сырога мяса; інтэнданты казалі, што мясцовы калгас парэзаў знарок для нас сваіх валоў, ажно

па пятнаццаць пачак махоркі і яшчэ таго-сяго з недатыкальнага запасу. Не паспелі мы хоць трошкі парасканшаваць, зноў пачулася каманда — стройся. Праз некалькі хвілін ужо зусім вялікая калона з артылерыяй на коннай цязе, здаецца, толькі дзве ці тры цяжкія гарматы былі прычэплены да трактароў, кранулася з вёскі. Кіраваліся ўсе чамусьці на паўночны захад. Помню, чырвоны дыск заходзячага сонца вісеў трохі лявей нашай калоны. Дзесьці апоўначы ў полі раптам загарэліся сціртры саломы. І тут жа пайшоў поголас — моў, варожыя карэкціроўшчыкі падаюць умоўны знак сваім. Сапраўды, не прайшло і чатырох хвілін, як здалёку пачуліся гарматныя стрэлы, а на дарозе, па якой толькі што прайшоў ар'ергард калоны, пачалі рвацца снарады. Артылерысты спазніліся, і снарады патрапілі ў прамежак паміж ар'ергардам і канцом калоны. Ахвяр, вядома, на такой адлегласці, не было. Затое ўзнікла паніка, нібыта ўжо за кожным пагоркам, за кожным ляском стаялі немцы. На світанні пачалі акопвацца. Маё аддзяленне неспадзявана апынулася побач з камандным пунктам камандзіра дывізіі. Можа, таму, што былі мы ў поўным складзе і мелі яшчэ зусім зухаваты выгляд, палкоўнік спыніў свой выбар на нас. «Ваша аддзяленне,— загадаў ён мне,— перадаецца камендацкаму ўзводу. Вартуйце КП і НП, назірайце вунь за тым лесам». Было відаць, як у той бок, куды паказваў камдзіў, рухалася вялікая група нашай пяхоты. Неўзабаве адтуль пачуліся стрэлы. Падобна было, што там ушчынаўся бой. І раптам з лесу выпаўзлі нямецкія танкі. Штаб дывізіі, перад якім не было артылерыі, тут жа зняўся з месца і перамясціўся на край вёскі, метраў за паўтараста па правы бок яе. А тым часам мы не атрымалі на гэты конт ніякага загаду, таму разам з камендацкім узводам засталіся на ранейшай пазіцыі. Уся ўвага была скіравана цяпер на танкі. Без артылерыі, канечне, мы не маглі затрымаць іх, затое дружна расстралялі ўсе абоймы, спрабуючы паразіць глядзельныя шчыліны. І калі нарэшце ўбачылі: вакол немцы, ужо не было чым страляць нават па пяхоце. Уласна кажучы, нас бралі ў палон безаружных. Пасля, ужо ў калоне ваеннапалонных, я часта думаў — чаму гэтак нечакана здарылася, што мы апынуліся ў немцаў, бо ніхто ж з нас перад тым і не думаў, што ўсё можа скончыцца палонам. Я кажу

за сваё аддзяленне. Немцы тут жа загадалі нам скласці пустыя вінтоўкі ў адну кучу і пагналі па той самай дарозе, якая вяла да моста па Нярусе. Здавалася, кружылі па лясах многа, а далёка не адышліся. Дарэчы, мы толькі цяпер як след убачылі, колькі падбілі варожых танкаў. І як вы думаеце, колькі мы іх танкаў падбілі там, а?

Зазыба пацісную плячамі:

— Мяркуючы па вашым расказе, нямнога.

— Дарэ-э-эмна,— павесялеў настаўнік.— Папрацавалі, як кажуць, мы там няблага. І на тым, і на гэтым беразе Нярусы засталося стаяць нерухома ажно дваццаць танкаў. У часе бою гэта неяк не заўважалася, а пасля, праз некалькі дзён, калі глянулі вакол, дык ажно самі дзіву даліся — аказваецца, і саракапяткі, пакуль іх не патрушчылі танкі, сваю справу зрабілі, і мы, стралкі.

— А штаб дывізіі выйшаў з акружэння? — спытаў Зазыба.

— Не ведаю. Ва ўсякім разе, сярод палонных, здаецца, не было нікога са штаба.

Зазыба раптам успомніў, як у 1921 годзе сам трапіў у махноўскі палон. Будзёнаўскі раз'езд, у якім удзельнічаў Зазыба, махноўцы атакавалі недалёка ад Гарэлых хутароў на Украіне. Усе ведалі, што ў гэтым раёне часам паяўляліся «бацькавы дзяцюкі», але мерацца сіламі з чырвонымі коннікамі не мелі ахвоты, дакладней, проста не асмельваліся,— пры набліжэнні будзёнаўскіх раз'ездаў адразу знікалі. Зразумела, што будзёнаўцы ў такіх выпадках і не пільнаваліся надта. Гэты ж раз махноўцы чамусьці напалі на іх проста сярод белага дня. Хаваючыся ў глыбокім яры, спярша далі ружэйны залп, затым атакавалі конна. Пад Зазыбам упаў, прастрэлены ў галаву, конь. Падаючы, ён прыціснуў седаку правую нагу. Пакуль Зазыба спрабаваў вызваліць з-пад яго нагу, махноўцы паспелі пастраляць астатніх коннікаў і ў наступны момант навaліліся на яго. Выйшла, што ён нават не аказаў ім супраціўлення. Канечне, калі б Зазыба ведаў, што не здолее хутка вызваліцца з-пад каня, то паводзіў бы сябе іначай — неяк злаўчыўся б, хоць і ляжаў дагары, ды пачаў страляць з вінтоўкі. А так — ганебны палон. Спачатку палон, пасля смерць. Чырвонаармейцы ведалі, чым заўсёды канчаўся для іхняга брата палон.

Таму і Зазыба не цешыў сябе ніякай надзеяй. Дыбаў, прывязаны доўгай вяроўкай да сядла, і развітваўся ў думках з жыццём. Але махноўцы чамусьці марудзілі. Тлумачэнне гэтаму Зазыба знайшоў толькі ўвечары, калі махноўцы прывялі яго ў сяло і запёрлі ў сельрадаўскай каморы, паставіўшы звонку вартавога. Самі яны ці то балявацъ куды падаліся на ноч, ці, можа, зноў гойсалі па наваколлі ў пошуках лёгкай здабычы. Зазыба сядзеў у каморы і думаў. Думаў пра ўсё — пра жыццё сваё, якое гэтак нечакана загубіў, пра Верамейкі, пра тое, як будзе добра людзям жыць, пасля, калі паўсюды запануе рабоча-сялянская ўлада... За дзвярыма каморы тым часам, гучна тупаючы, хадзіў тудысюды вартавы: то замармыча сабе пад нос штосьці неразборлівае, то прытворна пачне кашляць, няйначай, каб напомніць палоннаму лішні раз, што ён тут і што няма чаго думаць аб уцёках. Нарэшце Зазыба не вытрымаў, гукнуў скрозь нятоўстыя дзверы:

— Што гэта вы са мной робіце? Канчалі б, га?

— А табе надта хочацца на той свет? — засмяяўся канвойны, усё роўна бы ўзрадаваны, што выпала магчымасць пагаварыць.— Не спяшайся, на той свет заўсёды паспееш. А мы вось да бацькі цябе даставім заўтра, няхай ён вырашае, што з табой рабіць. Можа, яшчэ да нас перакінешся. Пашкадуеш паміраць дый дасі згоду ў бацькі служыць. Звычайна, такія пераверцені становяцца пасля самымі зацятымі служакамі, бо назад ужо дарогі няма, усё роўна свае кокнуць.

— І багата ў вашага бацькі такіх?

— Пераверценяў? Багата не багата, а ёсць.

— А калі я не паддамся?

— Тады — прапала,— прастадушна засмяяўся канвойны.

Зазыба плюнуў у кут каморы. Хацеў сказаць разважліваму махноўцу ў дадатак што-небудзь такое, ад чаго б не адзін раз ікнулася нават ягонаму атаману, але змоўчаў — ад нечысці словам не адбаронішся. Разам з тым, Зазыба падумаў — значыць, у «бацькі» ўсё менш становіцца надзейных ваякаў, раз гэтакае значэнне надае розным пераверценям!

Уранні Зазыбу пагнаў паперад каня другі махновец. Мусіць, ужо недалёка быў галоўны штаб, бо па дарозе часта сустракаліся не толькі конныя, але і пешыя махноўцы. Пыталіся:

— Каго злавіў, Міхайла?

— Будзёнаўскага камісара,— важна адказваў канвойны.

— Куды вядзеш?

— Да бацькі ў штаб,— з яшчэ большай важнасцю адказваў канвойны: у Зазыбы паступова складвалася ўражанне, што той трохі як бы недапечаны...

Але вось за сялом напаткалася тачанка, а на ёй два пажылыя махноўцы пры кулямёце-«максіме». Канвойны спешыўся, папрасіў закурыць. Тады Зазыба нечакана і рашыўся: раптам выхапіў у канвойнага з ножнаў шаблю і секануў яго ззаду па шыі. Другія два махноўцы, што сядзелі на тачанцы, не чакалі ад палоннага такога спрыту, таму на момант разгубіліся. І гэтага моманту хапіла Зазыбу, каб кінуцца з акрываўленай шабляй на іх...

Прыгадваючы цяпер, больш як праз дваццаць гадоў, лічы, неразважны ўчынак той, які быў высока адзначаны камандаваннем конарміі і, такім чынам, узведзены ў подзвіг, Зазыба зусім не меў намеру свядома рабіць нейкія аналогіі. Але ж падумаць — што яго чакала тады ў Махно? Адно з двух — смерць альбо здрада! На апошняе, вядома, Зазыба пайсці не мог і не таму, што не даражыў жыццём. Проста так, а не іначай ён разумеў свой абавязак перад рэвалюцыяй...

— Значыць, вы яшчэ нядаўна былі на фронце? — спытаў Зазыба настаўніка.

— Так.

— Тады скажыце, дзе цяпер фронт наш?

— Недзе за Унечай.

— Ну, гэта тут, у нашай мясцовасці. А наогул, дзе ўвесь фронт?

— Знаю, што Ленінград немцы не ўзялі. А вось Смаленск яшчэ ў пачатку жніўня, гаварылі, здадзены. Значыць, немцам прамая дарога на Маскву.

— І што тады?

— Усё можа быць.

— Значыць, канец?

— Чаму раптам? — пацiснуў плячамі настаўнік.— Нават калі немцы і Маскву возьмуць, вайна на гэтым не скончыцца. У крайнім выпадку, пяройдзе ў партызанскую. Не думаю, што бальшавікі дадуцца проста. Зноў пойдуць у падполле, зноў пачнуць усё нанава. Ці мала гісторыя ведае выпадкаў, калі захопнікаў вы-

ганялі нават пасля іхняй перамогі. Увесь народ нялёгка скарыць. Пад чужым ярмом ніхто доўга не захоча жыць. Асабліва цяпер. Да таго ж немцы самі распускаюць чуткі, што наступаць у нас збіраюцца толькі да Урала.

— А тады?

— З усходу прыйдуць японцы. У іх жа — кааліцыя.

— Дак якая розніца для нас — што немец, што японец?

— Для нас-то розніцы няма,— сказаў спакойна настаўнік.— Захопнікі — яны ўсе адным дзёгцем мазаны. Але немцы расказваюць, што за Уралам будзе замірэнне з бальшавікамі, нібыта яны нейкую тэрыторыю збіраюцца пакідаць за хрыбтом для бальшавікоў. А самі павернуць адтуль у Індыю, цераз Каўказ або Сярэднюю Азію. Кажуць, што ў іх са Сталінам дамоўленасць ужо такая ёсць.

— Плёткі! — абурыўся Зазыба.

— Канечне, прапаганда,— кіўнуў галавою настаўнік.— Моў, вы дарэмна, сяляне ды рабочыя, ваюеце з намі, мы толькі бальшавікоў ад вас прагонім, а тады пакінем усіх у спакоі!..

— Ага, і я чытаў пра гэта ў газеце,— пацвердзіў Зазыба.

— Ну, вось, аказваецца, і ў газетах ужо пішуць. Лухта, вядома. Але мяркуючы па тым, як разгортваюцца цяпер падзеі, як немцы паўсюды шалёна наступаюць, наўрад ці ўдасца нашым да зімы што-небудзь зрабіць ім.

— Зноў надзея на мароз? Але ж... мароз страшны больш для крапівы.

Мусіць, у Мурача Зазыбава заўвага выклікала нейкую сваю думку, бо той раптам зарагатаў. Але гэта нядобра ўкалола Зазыбу. Таму ён ажно зазлаваў:

— Што тут смяяцца?

— Ды не, гэта я так,— зніякавеўшы, перастаў умомант рагатаць настаўнік.

— Мяркуючы па вашым настроі,— адвярнуўся Зазыба,— то вы ўжо і сапраўды цалкам пакладаецеся на мароз. мусіць, лічыце, што самі адваяваліся?

— Выходзіць, так,— не стаў апраўдвацца настаўнік, але потым усё ж вінавата сказаў: — Раз аддаў зброю, значыць, ужо не ваяка.

— Ну, а калі раптам справа да таго дойдзе, што бальшавікі, як вы кажаце, пяройдуць на партызанскую вайну? Як тады?

— Ці мала што можна казаць! Урэшце, мы ж з вамі не ведаем, чым распалагаюць яны. Можа, цяпер якраз недзе войскі па ўсёй лініі збіраюць. Ды і Масква яшчэ стаіць. Так што, рана адпяваць, выходзіць!..

— Значыць, якраз час сядзець склаўшы рукі?

— Асабіста я не збіраюся складваць рукі,— неяк новым тонам, упарта сказаў на гэта настаўнік.— Справы заўсёды чалавеку знойдуцца. Даеду вось з вамі да Белай Гліны, пасля пешкі пайду ў Бялынкавічы. Мяне прызначылі туды настаўнікам, на ранейшае месца.

— Будзеце памагаць устанаўліваць новы парадак, як гаворыць камендант?

— Новы ці стары, аднак народ доўга ў цемнаце заставацца не павінен, а то некалі дойдзе да таго, што зусім ніхто не адрозніць новага парадку ад старога. Акрамя таго, усё роўна ж дзяцей трэба вучыць. Ды і не сам я да настаўніцтва свайго дадумаўся. Вы ж былі на нарадзе ў каменданта, значыць, чулі. Школы будуць дзейнічаць, як і раней. Праўда, сёлета вучоба пачынаецца пазней.

— Але чаму ў тых школах мусяць навучаць?

— Таксама ж, нябось, чулі... Урэшце, калі ўжо на тое!.. Калі мяне аднаго папракаеце!.. Вось вы самі едзеце ў Белую Гліну мост адбудоўваць, які знішчылі, адступаючы, чырвоныя. Гэта ж таксама дапамога немцам. Чаму тады вы не адмовіцеся?

— Ну, мост — адна справа,— памаўчаўшы трохі, цяжка разважыў Зазыба,— а вучыць дзяцей — зусім іншае. Мост сёння ёсць, а заўтра яго можа і не быць. А вось чалавек... Яго як навучыш аднойчы, так і думаць будзе ўвесь час, панясе тыя вашы веды з сабой скрозь усё жыццё.

— Таму немцы і збіраюцца адкрываць школы, каб...

— А вы памагаеце! — не даў дагаварыць настаўніку Зазыба.

Тады настаўнік крута павярнуўся, прыжмурыў вочы і сказаў, усё роўна як страціўшы цярпенне:

— Вось я размаўляю з вамі, хутка гадзіна ўжо, а яшчэ не зразумеў — што вы ад мяне хочаце, чаго дамагаецеся. І тое вам не так, і гэта. Урэшце, вы пытаеце-

ся, я адказваю. Адказваю так, як разумею што ці хацеў бы разумець. Плёткі? Дык я і сам прызнаю, што найбольш гэта адны плёткі. Канечне, мог бы і памаўчаць. Але зноў жа — вы за язык цягнеце, таму і расказваю.— Нарэшце ён ажно засоп ад узбуджанасці.— Ну, а вы самі? Што вы ў такім разе разумнае ў адказ сказалі, калі я адно глупства гаварыў? Нічога. Вам не падабаецца, што збіраюся настаўнічаць? Але што вы параіце, каб я не рабіў гэтага? Ці, можа, вы што-небудзь такое ведаеце, што мне няўцям? Дык гаварыце! Навошта ў хованкі гуляць ды лавіць людзей на словах. Цяпер не тое сказаць хоць каму вельмі проста, абы толькі не сцяміў, з кім справу маеш. Адзін ад цябе аднаго чакае пачуць, другі — наадварот. Таго і глядзі!..

— Ды нічога асаблівага і я пакуль не ведаю,— як ад прыкрасці паморшчыўся Зазыба, але голас зрабіў памяркоўны, даючы зразумець свайму субяседніку, што абурацца, ■ тым больш сварыцца ўсё ж не варта, між тым, сам у душы вельмі ўзрадаваўся гэтай нечаканай настаўнікавай узбуранасці, якая, няйначай, ішла ад чалавечай сумленнасці, значыць, і ён не да ўсяго абыякавы, дарэмна, што спрабуе паказаць сябе такім, значыць, і яму зацяло.

Мурач адразу адчуў Зазыбаву палагаднеласць, нават сумеўся ад яе.

— Усе мы разумныя дакараць адзін аднаго,— уздыхнуў ён, насоўваючы павекі на зрэнкі вачэй.— А ў чалавека, між тым, усяго толькі адна душа і адна галава.

— Галава-то адна...

— І тая на тонкай шыі. А гэта ўжо, каб ведалі, і не такая трывалая рэч.

Зазыба таргануў лейцамі, каб падварушыць каня, які без фурманавага нагляду пачаў трохі адставаць ад пярэдняй падводы, разрываючы тым самым абоз:

— Н-но-о!

Конь рэзка перайшоў на галоп, неяк незвычайна падскокнуўшы перадам у аглоблях, і адлегласць паміж падводамі зноў пачала скарачацца. Тым часам поле з Зазыбавага боку перастала горбіцца, увачавідкі пашырэла, таму Бесядзь нарэшце адышла бліжэй да лесу, выгаляючы там стромы пясчаны бераг, увесь патачаны мітуслівымі гранкамі.

На згоне дарогі, якая ўжо ахоплівала дугой вялі-

кую лучку, парослую рудым балотным хвашчом, вачам адкрыўся ўвесь верамейкаўскі абоз. Наперадзе, як і тады, калі краналіся ад стайні ў Верамейках, ехаў Раман Сёмачкін. Але цяпер з ім на калёсах не было Брава-Жыватоўскага. Той недзе на ходу, але ўжо як мінулі Бесядзь, перабег да Івана Падзерына і сядзеў, звесіўшы ногі, на рашворку кранджолаў.

«Але ж вось паліцай, нават Падзерына прымусіў паехаць! — усміхнуўся Зазыба.— І што ён там, на будаўніцтве моста, гэты Падзерын, рабіць будзе са сваёй грыжай?..»

Між тым у паветры зрабілася горача. Сонца проста пякло ўжо, і толькі вецер, што ўзнікаў больш ад хуткай язды, чым сам па сабе, у выніку перамяшчэння паветра, не даваў узяцца вакол моцнай духаце.

Ад узмакрэлых за дарогу коней запахла потам.

Ужо здалёку выныралі вільчакамі стрэхі белаглінаўскіх хат — таго канца вёскі, што гародамі заходзіў у падлесак, які вырас за апошнія гады, на пустэчы за вялікім ровам, выбітым за многія вёсны бруістымі водамі. Бадай, то была першая ўдача, як помніць Зазыба, пасадзіць баравіну і па гэты бок Бесядзі, у сярэднім яе цячэнні, а то за выключэннем дубровы, што раскінулася трохкутнікам за Прудком, ды невялікай імшары супраць Калодліва, ва ўсім правабярэжжы не было ні аднаго лясного масіву. Праўда, далей туды, кіламетраў за дваццаць пад Чэрыкаў, зноў падступаліся бары. Але паміж імі і Бесяддзю — толькі голыя ўзлобкі палёў.

Гледзячы на стрэхі белаглінаўскіх хат, якія нібыта выкочваліся насустрач абозу, Зазыба раптам спахопліва падумаў, што дарога ў Белую Гліну канчаецца, а яны з Мурачам не паспелі паразумецца. Дасюль размова ўся нагадвала хутчэй падземную раку, якая блукала ўпоцемку, шукаючы выйсця на паверхню. Таму ў ёй шмат было выпадковага, вымушанага, як дзеля праверкі, і не зусім шчырага. Цяпер тое месца, што завецца вытокам, было адшукана, гэта Зазыба адчуваў у першую чаргу па сабе, па сваёй унутранай гатоўнасці нарэшце пачаць гамонку з чалавекам калі не пра самае запаветнае, то хоць з большым даверам адзін да аднаго...

## XV

Чубар у гэты дзень доўга спаў. Якраз удзень, бо сапраўды ўжо мінула раніца, а ён не прачынаўся, балазе ў Гапчынай хаце стаяла глухая цішыня, усё роўна як наўмысля, дзеля моцнага сну,— напалоханая пажарам у Паддубішчы, гаспадыня даўно пабегла ў поле, каб, рассцяліўшы дзяругу на паласе, хоць похапкі абабіць пранікамі нажатыя снапы. Чубара ж гэты сялянскі клопат зусім не займаў. Прыйшоўшы ўначы з Паддубішча, ён доўга стаяў на падворку, глядзеў у той бок, дзе за лесам, які сцяною цёмнага ельніку аддзяляў Мамонаўку ад Верамеек, то ўскідвалася раптам угору, то ападала зноў на зямлю зарава. Учора ў яго не было і думкі рабіць пажару ў Паддубішчы. Тады ён толькі памкнуўся дагнаць Зазыбу, каб той не гаварыў пра яго Мікіту Драніцы — Зазыбава перасцярога неўзабаве, як той пайшоў з Гапчынай хаты, перадалася і яму, і ён сам зразумеў, што, мусіць, усё ж не варта выдаваць сваю прысутнасць у калгасе раней часу. Вядома, рабіць вялікую канспірацыю з таго, што ён вярнуўся назад, Чубар не збіраўся, бо навошта тады было зусім ісці сюды, але ж нездарма кажуць, што сцеражонага і бог сцеражэ, тым больш што цяпер ён мог наклікаць бяды таксама і на Гапку. Ва ўсякім разе думка гэтая прыйшла да Чубара, і ён раптам з балючай прыкрасцю пашкадаваў, што не паслухаўся адразу Зазыбавых слоў, а, наадварот, неразважліва запярэчыў, нібыта назнарок затаіўшы злосць, хацеў даказаць свайму намесніку, што ў страху сапраўды залішне вялікія вочы. Схапіўшы вінтоўку, якая, быццам жывая істота, ляжала паўз сцяну пад коўдрай на ложку, ён выскачыў як не следам за Зазыбам з хаты, аднак не толькі згледзець у прыцемку, але і дагнаць намесніка ўжо не паспеў: той быццам скрозь зямлю праваліўся. Адкуль было ведаць, што Зазыба не пайшоў у Верамейкі дарогай, а падаўся адразу да возера прытоенай сцежкай. Разгублены Чубар прабег спорым крокам дарогу да Верамеек, тады абмінуў канцавыя двары і выйшаў на другую дарогу, наезджаную паўз вёску. Пры гэтым у галаве яго не было пэўнай мэты, застаяла толькі прыкрасць на душы, што не дагнаў Зазыбу, і з ёй Чубар тупаў ажно да гуцянскай дарогі, адкуль пачынаўся жытнёвы палетак у Паддубішчы. Вёс-

ка ўжо, няйначай, улеглася спаць, бо ні ў адной хаце, здаецца, не гарэла святло. Ад крыжавіны, якую ўтваралі тут дзве дарогі, можна было паўз глінішча вольна дабрацца да завулка, дзе стаяла Зазыбава хата. Але Чубар успомніў, што Зазыба цяпер жыве не адзін, што вярнуўся Зазыбаў сын, якога Чубар ніколі не бачыў, таму намер ісці туды адпаў хутка. Стоячы ля канца на крыжавіне, Чубар нейкі час вагаўся, куды яму цяпер лепей падацца адсюль. Вяртацца ў Мамонаўку не хацелася — было такое адчуванне, быццам гэта ён прыйшоў сюды на сустрэчу, і той чалавек, да якога ён спяшаўся, усяго толькі позніцца, адно трэба пачакаць. Аднак і стаяць тут, усё роўна як ланцугом прыкутым да капца, таксама не выпадала доўга, бо свяціў месяц, і з вёскі нават на такой адлегласці няцяжка было ўгледзець чалавечую постаць, абы толькі заманулася каму. Таму Чубар неўзабаве адышоўся да першай жытнёвай капы на рагу палетка і, прыхінуўшыся спіной, стаіўся там, маючы думку проста пабыць колькі хвілін у зацішным месцы. Стаў і задумаўся. Дасюль ён ні разу не ўсумніўся, ці правільна зрабіў, што наогул вярнуўся ў калгас. Гэтая акалічнасць для яго была ўжо як сама сабой зразумелая. Здавалася, іначай і нельга зрабіць у ягоным становішчы, асабліва калі ўлічыць, што ішоў ён сюды з больш чым акрэсленай мэтай. Пра гэта ён і Зазыбу ўжо сёння сказаў. А тут раптам быццам што зрушыла ў ім, пахіснулася ўпэўненасць. Можа, прычынай з'явілася стоеная вёска, ягоная цяперашняя адзінота і тое, што скрозь даводзілася хавацца ад знаёмых людзей...

Такія натуры, як Чубар, звычайна добра адчуваюць сябе ў калектыве. Яны аднолькава здольны кіраваць калектывам і падпарадкоўвацца яму. Гэта ўсё роўна як тыя шасцяронкі ў вялікім механізме, якія па адной толькі стаяць ды ржавеюць. Каб прыйсці ў рух, ім неабходна сувязь паміж сабой, узаемнае вярчэнне, калі наогул можна гаварыць так у дачыненні да людзей. Словам, Чубар недзе ўжо гатовы быў нават шкадаваць, што напаткаў за Іпуццю палкавога камісара з яго байцамі, што выходзілі з акружэння. Калі б тады праехаў на кані міма іхняга вайсковага лагера, цяпер не стаяў бы непрыкаяны тут, на верамейкаўскім полі, зусім не было б патрэбы думаць ды непакоіцца шмат пра якія істотныя і менш істотныя рэчы, у

тым ліку і пра тое, што паспяшаўся паклікаць да сябе ў Мамонаўку Мікіту Драніцу. Няма чаго і сумнявацца, што ён, паблукаўшы блізка ці далёка ў наваколлі, павярнуў бы тады назад да абараняльнага рубяжа, каб паспрабаваць зноў выйсці к запаветным Журынічам, дзе фарміравалася апалчэнне. А так...

Ідучы ў забяседдзе, Чубар не спадзяваўся знайсці ў калгасе вялікія перамены. Для гэтага яму давала падставы тое, што бачыў у іншых месцах. Напрыклад, Чубар не мог нават і ўявіць сабе, што калгаса ў Верамейках каторы дзень няма ўжо, што ў вёсцы, таксама як і ў абодвух пасёлках, якія ўваходзяць у калгас, сяляне зноў пачалі рабіць паасобку, падзяліўшы засеяную зямлю. І ўжо зусім не мог здагадацца Чубар, што гэтак хутка, на другі дзень пасля прыходу ў Бабінавічы немцаў, Верамейкі абзавядуцца паліцэйскім у асобе Брава-Жыватоўскага. Пра вясковыя навіны Чубару расказала спярша Гапка, а тады Дзяніс Зазыба. Але з усяго найбольш уразіў Чубара спрыт Брава-Жыватоўскага. Разлічваць пасля гэтага, што былы махновец (і пра гэта Чубару стала вядома ад Гапкі), які сам, добраахвота, стаў паліцэйскім, будзе маўчаць пра Чубарава з'яўленне, ніяк не даводзілася. Атрымаўшы зброю ад немцаў, Брава-Жыватоўскі зрабіўся ворагам...

Згаданыя думкі прыйшлі да Чубара не ў адзін час, не на працягу адной хвіліны, а пастунова, адна за адной, па меры таго як ён знаёміўся з абставінамі, што склаліся за яго адсутнасць, аднак самая апошняя ўзнікла ў галаве толькі цяпер, ужо калі стаяў, прыхінуўшыся спіной да капы і зацята глядзеў паперад сябе на прыцямковую вёску; яна і зрабіла нечакана перамену ў Чубаравым унутраным стане, у яговых пачуццях. Даволі было ўспомніць пра Жыватоўшчыка і пра тое, што паліцай ператварыўся ў сур'ёзную і, можа, пакуль адзіную перашкоду на яго цяперашнім шляху, як зусім нядаўняя Чубарава пахіснутая ўпэўненасць перайшла ў сваю процілегласць — здавалася, толькі ўжо дзеля аднаго гэтага, каб абясшкодзіць Брава-Жыватоўскага, варта было апынуцца зноў тут, у забяседдзі. Непрыкметна гэтая злосць, якая была выяўленнем канкрэтнай рэальнасці, пачала распаўсюджвацца і на другія, не менш рэальныя з'явы. А праз нейкі час, які вылічаўся, вядома, хвілінамі, не даўжэй, яна ператварылася ў агульную злосць, таму безразважную, бадай,

ужо на ўсё... З яе і ўзнік, дакладней, вынік, пажар у Паддубішчы. Раптам Чубару прыйшла ў галаву сённяшня размова з Зазыбам, тая яе частка, што датычыла калгаснай маёмасці, якую належала даўно, яшчэ да акупацыі, знішчыць па дырэктыве. Зайшла гаворка, нават спрэчка паміж іх, і пра гэтае жыта, якое Чубар, па праўдзе кажучы, не спадзяваўся ўбачыць у копах, бо, адыходзячы з Верамеек, аддаў Зазыбу зусім выразнае распараджэнне. Апраўдваючыся, Зазыба спасылаўся на сакратара райкома Маштакова, аднак Чубар схільны быў тлумачыць намесніства непаслушэнства хутчэй нерашучасцю, гэта па меншай меры, калі наогул не бояззю ўзяць на сябе адказнасць. Ды і пры чым тут Маштакоў? Урэшце, сакратар райкома сам знаёміў раённы актыў з дырэктывай СНК СССР і ЦК ВКП(б), і Чубар помніць, якімі словамі суправаджалася яна тады, таму наўрад ці мог пасля Маштакоў памяняць думку. Цяпер, калі Чубар вярнуўся ў забяседдзе, адказнасць за ўсе калгасныя справы зноў лажылася непасрэдна на яго, значыць, і спагнанне будзе з яго. Знаходзячыся цалкам ва ўладзе пачуццяў, адпаведных гэтым разважанням, якія не ўтаймоўвалі, а, наадварот, узмацнялі ў ім злосць, Чубар ледзь не машынальна сунуў руку ў бакавую кішэню «талстоўкі», намацаў там карабок з запалкамі, якія засталіся яшчэ ад таго, калі ён, Шпакевіч і Халадзілаў падпальвалі на Дзяражні мост. Чубар разумеў, што больш зручнага выпадку, чым цяпер, у яго, бадай, не будзе для такой справы: варта было ўжо адно выняць з каробкі запалку ды чыркнуць ёй па сярністым баку, каб умомант запалала першая капа. Чубар адпіхнуўся локцем ад калянай капы, снапы з якой былі ўкладзены калоссем усярэдзіну, і выйшаў з зацішку. Хоць і не моцны, але вецер дзьмуў з поля. Трэба было адысціся далей, ну, хоць на сярэдзіну палетка, каб адтуль вецер потым пагнаў полымя па ржэўніку. Падкідваючы, быццам усяго толькі забаўляючыся, карабок на далоні, Чубар прайшоў метраў чатырыста ўздоўж гуцянскай дарогі, павярнуў рэзка направа і рушыў па ржэўніку, прастуючы ўгору па схіле кургана. Для падпалу капу ён выбраў нечую бухматую, амаль як сцірту, мусіць, сюды былі пазношаны снапы з усяе паласы. Побач, акурат знарок падрыхтаваны, туліўся бабак. Чубар ударыў нагой па ім, падхапіў з зямлі два

снапы, якія разляцеліся ад яго ўдару, паклаў каласкамі адзін да аднаго. Заставалася толькі падпаліць. Але перш чым зрабіць гэта, Чубар азірнуўся па баках, быццам баяўся, што яго раптам заспеюць за такой справай. Нічога падазронага вакол не было. Тады Чубар намацаў у карабку запалку, чыркнуў збоч. Пачакаўшы трохі, пакуль згарыць сера і займецца дрэўка, ён тут жа паднёс агеньчык да снапоў, акурат у тым месцы, дзе былі састыкаваны каласкі, і лёгкае полымя адразу пабегла па саломе, а затым, у наступны момант, пераскочыла на капу. Недарэмна сёлета жыта доўга стаяла ў полі. Салома, таксама як і ржэўнік, была даўно ажно выпетраная, і пажар не прымусіў чакаць ды лішне завіхацца вакол сябе. Зразумеўшы, што тут, каля гэтай бухматай капы, больш няма чаго рабіць, Чубар высмагнуў за самы каляны ніз палаючы сноп і, спяшаючыся, каб полымя, якое раздзімаў вецер, не апякло рукі, пабег з ім да другой капы. Пасля, такім жа чынам выхопліваючы новы сноп, ён бег да наступнай капы, усё далей па зжатым палетку, цаляючы патрапляць сярэдзінай яго, балазе было відна ад месяца, а полымя, якое ў цёмную ноч магло б проста сляпіць вочы, сёння зусім не перашкаджала разбіраць усё навокал. Твар Чубараў ад агню хутка зрабіўся гарачы, рукі, хоць ён і стараўся берагчы іх ад апёкаў, ужо таксама ажно смылелі, быццам скура на іх пабралася пухірамі. Рабіў Чубар гэтую справу спакойна і ўжо зусім без нядаўняй злосці, як нешта самае звычайнае, быццам збіраўся пачынаць тут ляда і перад тым падпальваў лаўжы. Нарэшце кінуў апошні палаючы сноп яшчэ на адну капу, выцер аб «талстоўку» рукі, быццам хацеў пазбавіцца ад сажы, якая наліпла на іх, і азірнуўся на тое, што гэтак лёгка зрабіў, нават не запыхаўшыся ў рабоце. Разлік быў правільны. Агонь ужо ахапіў не толькі тыя копы, што Чубар падпаліў снапамі, але імкнуўся таксама па схіле ўніз, падбіраючыся да ўсё новых і новых. Здавалася, гэта расцякалася ва ўсе бакі палаючая смала. Больш тут, у Паддубішчы, не было чаго рабіць, і Чубар, паправіўшы штуршком, акурат мяшок на спіне, вінтоўку, якая бісела накрыж, рушыў прэч, абмінаючы з тыльнага боку курган. Хоць назаўтра ў вёсцы і гаварыў сёй-той, што нібыта чуў, як хтосьці страляў на пажары, аднак да самай Мамонаўкі ён вінтоўкі не здымаў...

Пастаяўшы на Гапчыным падворку, Чубар ціха, каб лішне не ляскаць, зайшоў у хату і лёг, не распранаючыся, на ложак. Засынаў ён хоць і не дужа хутка, але з такім спакойным настроем, быццам не з пажару вярнуўся, а прынамсі з млына, дзе ўвесь дзень засыпаў у жорны зерне, носячы адным часам зверху ўніз і наадварот поўныя мяшкі на плячах. Чубар быў цалкам упэўнены, што зрабіў у Паддубішчы тое, што край неабходна было зрабіць і што ў ягоным становішчы ніяк нельга было не зрабіць. Словам, засынаючы, ён далёкі быў ад думкі, што, спаліўшы жыта, нанёс гэтым шкоду, таксама як далёкі ён быў і ад таго, што на гэты конт можа быць у каго-небудзь іншая, процілеглая ад яго, думка. Аднак нягледзячы на ўнутраную задаволенасць зробленым, спаў Чубар усё-ткі дрэнна. Дакладней, спярша спаў не так добра, як трэба было чакаць з ягоным настроем. Позняе Чубарава прачынанне якраз і выклікана было вось гэтай акалічнасцю, таму ён і праспаў на другі дзень далёка за раніцу,— зноў, як і тады, на пажары ў Паддубішчы, пякло яму твар, пад заплюшчанымі павекамі білася трапяткое полымя. Але найбольш, здаецца, перашкаджаў заснуць моцна адзін і той жа сон, нават не сон — звычайны кашмар... Даволі было Чубару на момант забыцца, як адразу бачылася — з-пад палаючых копаў кідаліся, разбягаючыся па ржэўніку ва ўсе бакі, палявыя мышы, у якіх чамусьці былі чалавечыя галовы, і ўсе як адна падобныя на Мікіту Драніцу... Нарэшце, недзе пад раніцу ўжо, твар Чубараў паступова ахалодаў, перастала трапятаць пад павекамі полымя, і Чубар моцна заснуў.

Хоць гаспадыня і хапалася бегчы ў поле, аднак сняданак сабраць Чубару на стол не забылася, накрыла ежу абрусам. У сенцах Чубар памыў рукі, спаласнуў твар. Але калі ён зноў вярнуўся ў хату, адкінуў на стале край абруса і ўбачыў, што ляжала пад ім,— Гапка паставіла гладыш топленага малака, паклала гуркоў, шмат жоўтага сала ды некалькі яек, словам, сабрала сняданак, як на касца,— то раптам зразумеў, што нічога з гэтага ён і не возьме ў рот, проста не хоча есці, нягледзячы, што было калі адчуць голад: гэткім часам чалавек звычайна пачынае ўжо думаць недзе пра абед. І тым не менш Чубар не спяшаўся закрываць ежу нанава, стаяў ля стала і глядзеў на яе, усё роўна

як спрабаваў выклікаць у самога апетыт. «Ад'еўся»,— усміхнуўся ўнутрана Чубар, успомніўшы разам тыя, яшчэ надта ж нядаўнія дні, калі даводзілася бадзяцца з галодным жыватом, слухаючы, як плюшчыць вада. Але справа была, вядома, не ў тым, што Чубар паспеў ад'есціся, урэшце, не так ён даўно жыве стала тут. Адсутнасць апетыту тлумачылася іншым. Дарэчы, Чубар і сам гэта хутка зразумеў, бадай, яшчэ да таго, як са скептычнай здаволенасцю падумаў пра сваё цяперашняе сытае становішча. Проста Чубар не адчуваў больш той прагі да ўсяго, тае здаровай ненатоленасці, якая жыла ў ім дасюль, быццам адбіла раптам гэта ад яго нейкім злым духам ці ўнутранай агідай. «Але чаму няма Гапкі?..» — амаль здзіўлена спахапіўся ён, нібыта толькі цяпер свядома заўважыў яе адсутнасць. Асцярожна, каб не зачапіць неўзнарок гладыш ■ малаком, Чубар нарэшце захінуў краем абруса сняданак, акурат так, як і раней было накрыта ўсё, і падаўся на ганак, згінаючы пад вушакамі на двух парогах галаву — спярша ў хаце, пасля і ў сенцах.

Сонца свяціла ад вуліцы, і на падворак, куды выходзіў ганак, ад самага вільчака дзвюхскатнай саламянай страхі падаў у знявечаным абрысе цень. Высвечаны падворак быў бліжэй да плота, дзе стаяў, нібыта плаха, шырокі пень, на якім гаспадары не толькі seклі дровы, але і пеўням галовы. Адразу за плотам, крокаў якіх за паўсотню, пачынаўся лес, скрозь сасновы і таму меднаствольі, з белымі, як у шкілетаў, рэбрамі падсочкі на дрэвах. І толькі на гародзе за лазняй высіліся тры крывулі бярозы, якія выраслі, здавалася, з аднаго кораня, утвараючы ўнізе, амаль над зямлёй, штосьці падобнае на рагазастае сядло. На бярозах, абсеўшы суччa пад самыя макаўкі, кешкаліся нейкія птушкі, напэўна, шпакі, якім час настаў збірацца ў чароды, бо такой парой звычайна кругом ішло ворыва. З лесу пачулася бомканне, але невыразнае, можа, прыглушанае адлегласцю, таму адгадаць, хто рабіў яго, не было магчымасці. Хутчэй за ўсё, там, у ракітавай лагчыне, якая падступала глыбокім ровам к дарозе, пракладзенай з Мамонаўкі ў другі пасёлак — Кулігаеўку, пасвіўся статак, і гэта бомкала званочкам на шыі чыясьці зброддівая карова.

Не надта вытыркаючыся, каб, крый бог, не трапіць

на вочы каму, Чубар шырокім крокам перасігнуў двор, кіруючыся да варот хлява. У хляве ляжала сена, і там у Чубара была схованка: на дзень, калі кожную хвіліну ў хату мог прыйсці няпрошаны чалавек. Уласна, Чубар мог праводзіць тут, на гэтым сене, і ночы, асабліва сённяшнюю, калі з'явіўся з Паддубішча позна.

Чубар ужо ўзяўся за чэп на варотах хлява, як на двор, піхнуўшы рукамі з вуліцы брамку, узбег васьмігадовы Гапчын хлопец Міхалка. Мусіць, ён меў ад маці наказ пільнаваць, калі будзе прачынацца Чубар, каб паказаць на стале сняданак, бо гарэза адразу з гэтага і пачаў:

— Дзядзька Чубар! — Гэта ўжо было звычайным, што малы звяртаўся так.— Матка казала, каб вы елі, на стале ў етай хаце стаіць усё!

Хлопчык заўсёды з непадробным дзіцячым захапленнем пазіраў на Чубара. І гэта Чубар вельмі цаніў, стараючыся хоць чым, але падкрэсліць і сваю душэўнасць да яго. А вось дачка Гапчына Верка ўспрымала чужога чалавека ў доме іначай. Тая не толькі цяпер, у гэтыя дні, але наогул варожа сустракала кожны раз Чубарава з'яўленне. У свае адзінаццаць гадоў яна не так хутка, як яе брат, мяняла прыхільнасці. У яе памяці, таксама як і ў сэрцы, яшчэ цалкам жыў бацька, які загінуў у снежні трыццаць дзевятага каля возера Муаланьярві. Зразумела, што не магла даравац дзяўчынка маці сваёй яе сувязь з Чубарам. Тое, што Гапка спрабавала тлумачыць дзіцячым капрызам, заганай росту, наадварот было звычайным выяўленнем глыбокай непрыязнасці, і не толькі да аднаго чужога чалавека, але разам і да роднай маці, праўда, з той розніцай, што да маці гэтае пачуццё мянялася, даволі было адно пайсці Чубару ад іх, як яна пераставала хмурыцца і станавілася ранейшай паслухмянай дзяўчынкай; тым часам варта было Чубару назаўтра зноў пераступіць іхні парог, і Верка, быццам маленькая птушка, натапырвалася, пачынала нервавацца, рабілася зацятай, знарок патрапляючы паміж Чубарам і маці, пільнуючы не толькі кожны іхні крок, а і рух. Відаць, гэтым таксама тлумачылася, што дачка з вялікай ахвотай заўсёды бегла за маці — ці трэба карову знайсці на лагах пасля пашы, ці яшчэ што зрабіць, адышоўшы падалей ад хаты. Між тым Міхалку, здаецца,

нічым асабліва Чубар і не прывабліваў, сорам прызнацца цяпер, нават цукерак у кішэні ні разу не прынёс, аднак хлопчык гарнуўся да Чубара, асабліва моцна адчулася ягонае захапленне ім, калі ўжо ў вайну Чубар пачаў прыходзіць з вінтоўкай, няважна, што большыя вісусы ў пасёлку пасміхаліся і гаварылі брыдкія словы, дражнячы малога «новым бацькам»...

— А матка з Веркай пайшлі снапы аббіваць,— сказаў далей Міхалка.— Нехта спаліў сянні ў Паддубішчы верамейкаўскія копы, дак усе бабы нашы пабеглі ратаваць свае.

— А вам у Паддубішчы не давалі паласы? — спытаў глухім голасам Чубар.

— Не, мамонаўцам і кулігаеўцам прыпала тута, во, адразу за нашымі лагамі. Ведаеш?

— Ведаю.

— А верамейкаўцам наразалі тама, у Паддубішчы, дак іхняе жыта нехта ўзяў да спаліў!

— Значыць, ваша не згарэла? — быццам у нейкай радасці спытаў Чубар.

— Ага.

— А верамейкаўскае згарэла?

— Ну!

— От бачыш,— шматзначна ўсміхнуўся Чубар, усё роўна як даваў адчуць малому, што мамонаўскае жыта ацалела не так сабе.

Але Міхалка па-свойму зразумеў гэтую ягоную наўмыснасць.

— Няхай бы толькі паспрабавалі спаліць наша! — запальчыва, але надта па-дзіцячы сказаў ён.— Ты б іх з вінтоўкі тады. Вось так — раз, два! — і паказаў рукамі, як бы зрабіў Чубар.

Гэтая дзіцячая запальчывасць, таксама як і вера ў тое, што Чубар расправіцца з кожным, хто зробіць замах на мамонаўцаў ці на іхнюю маёмасць, нечакана збянтэжыла Чубара. Адводзячы позірк убок, Чубар паклаў на бялявую Міхалкаву галаву далонь, збіраючыся пагладзіць, ды так і затрымаўся ў нерашучасці, быццам не меў сілы зрабіць апошні ласкавы рух.

— От што,— сказаў ён,— ты хацеў бы мець ласяня? — Выйшла ў яго гэта запытанне зусім нечакана, аднак надзвычай дарэчы, быццам чалавек увесь час думаў пра ласяня і пра тое, што асірацелага звярка, які недзе бадзяецца адзін, трэба, няйначай, прывесці

сюды, у Мамонаўку, паказаць і аддаць маломy, бо наўрад ці мог хто другі, акрамя Міхалкі, па-сапраўднаму паклапаціцца цяпер пра небараку.

— Якое ласяня? — страпянуўся Міхалка.

— Ну, звычайнае.

— А якое яно?

— Тады пабачыш. Ты толькі скажы — хочаш ці не?

— А яно не кусаецца?

— Не,— засмяяўся Чубар і зноў палашчыў вачамі ўзрадаванага Міхалку. Падумаў: «Ну, канечне, як гэта я не здагадаўся раней, трэба ж зараз пайсці шукаць ласяня!» Для яго цяпер, бадай, не было даражэйшага за гэтыя дзве істоты — Міхалкі і ласяня!

Тым часам Міхалка працягваў радасна плюскаць блакітнымі вачанятамі, і гэта яшчэ мацней падахвочвала Чубара на тое, на што ён нечакана рашыўся. Але Міхалку клікаць з сабой у лес Чубар не браўся. Па-першае, Міхалкава адсутнасць дома ўстрывожыла б маці, бо наўрад ці паспеюць яны вярнуцца назад, пакуль тая з дачкой прыйдзе з поля, а па-другое... Урэшце, ці мала што можа здарыцца цяпер, тады ўжо і зусім замучыць сумленне. Чубар па-змоўніцку падміргнуў хлопчыку. Сказаў:

— Значыць, хочаш мець ласяня? — і, не чакаючы адказу, тут жа дадаў: — Тады вось што, ты сцеражыся тут хаты, а я зараз прыйду.

— А я?

— Ты застанешся дома. Я адзін пашукаю ласяня, а то матка пасля будзе на нас сварыцца. Пападзе ад яе і мне, і табе.

— Ыгы,— насупіўся Міхалка, але, мусіць, не таму, што збаяўся матчыных пагроз.

Спытаў:

— А хлеб яно есць?

— Не ведаю,— пацiснуў плячамі Чубар.— Мусіць жа, есць...

— Тады вазьміце з сабой хлеба. Хлебам і прыманіце. Пакажаце яму мякушак, яно і пойдзе за вамі. Ета нават лепей, чымся вяроўкай лавіць. На вяроўцы дак можа ўпірацца яшчэ, а так — не. Я вэн сваёй Чарняўцы, як малая была, заўсёды даваў мякушак. Дак хадзіла ўсё лета за мной, пакуль узімку не вырасла. А на каго яно падобна, ласяня? Якое яно?

— Ну, як звычайнае цяля. Такое.
— А вы яго самі бачылі?
— Як цябе вось.
— Ладна, прыводзьце,— зусім стала, быццам і праўда даючы дазвол, на які дасюль не згаджаўся, сказаў Міхалка.— А я загончык на гародзе зраблю. Няхай будзе стаяць у ім. Толькі пачакайце самі, я хлеба зараз прынясу.

Хлопчык кумельгам кінуўся праз двор у сенцы, а праз іх у хату і гэтак жа хуценька вярнуўся з акрайцам у руках. Убачыўшы акраец, Чубар падумаў, што і самому не лішне паклапаціцца пра хлеб, раз ужо ідзе з дому. Але як узяў з Міхалкавых рук акраец, то падумаў і пра другое — урэшце, наўрад ці давядзецца прынаджваць ласяня.

— Ну, глядзі тут! — Чубар абышоў хлеў з тыльнага боку, дзе паўз мяжу стаяў пасохлы бярозавы хмыз, па якім чаплялася ўгору струкаватая фасоля, і зацішкам падаўся ў другі канец сядзібы.

Птушкі — а гэта сапраўды былі шпакі — з шумам узляцелі з бяроз пры з'яўленні на гародзе чалавека, закружылі чорнай хмарай над пасёлкам.

З гарода ў лес прапускалі ў плоце маленькія варотцы, збітыя з нятоўстых абапалкаў, і Чубар, адкінуўшы заржавелую жалезную зашчапку, піхнуў на той бок іх ботам. Апынуўшыся за сядзібай, ён кінуў позіркам на дарогу з Верамеек, быццам хацеў прымусіць сябе пераканацца, што сёння ўжо нікога не дачакаецца адтуль, бо ці рашыцца нават Драніца ісці да яго сярод белага дня, тады ўгнуў галаву ў плечы, усё роўна як пажадаў зрабіцца меншым і непрыкметным, і, мякка стаўляючы ногі на зляжалае сасновае шыгалле, пашыбаваў паўз агароджу.

Хоць падсочка на соснах засохла, а ў бляшаных лейках стаяла рудая вада, якую наліло ў дажджы, па ўзлеску, нібы ў спякотнае лета, духмяніў смольны пах. Праўда, ён быў не такі густы, як бывае тады, калі па дрэвах струменіць сама жывіца, затое адчуваўся, здаецца, нават мацней: на пачатку восені, дарэчы, як і ў самую восень, з прыродай наогул адбываецца нібыта прасвятленне, тады і вада ў рэках робіцца гусцейшай, і пахі навокал чуюцца больш выразна, нават паветра і тое, здаецца, праглядваецца наскрозь зусім не замгленае. Зразумела, што смольны пах перш за ўсё

і адчуў цяпер Чубар, бо той панаваў тут, бадай, ужо адзін. Верас у разлік не ішоў. Яго тут было мала, усяго некалькі лапікаў на ўсю выспу.

Але вось Чубар перайшоў дарогу, што бралася з Мамонаўкі к Бесядзі. За дарогай вачам адразу адкрылася вялікая высека, якая ўтварылася тут летась, калі стралявалі леспрамгасаўцы лес да руму. Цяпер на высецы скрозь сінеў мышыны гарох, усё роўна як яго назнарок пасеялі тут. Па гаросе басавіта гулі чмялі, пырхала птаства. Пасярод высекі ўзвышалася магутная елка. Лесарубы чамусьці не спляжылі яе, можа, якраз па простай прычыне, што гэта была наогул елка, прытым расла адна на ўвесь квартал, дык навошта рабіць ёю перасорціцу? Убачыўшы ацалелае дрэва, Чубар нечакана ажно тварам прасвятлеў, нібыта сустрэў даўняга знаёмага. «Няскора вырасце нанава лес, а калі і вырасце, то наўрад ці давядзецца каму з тых, хто жыве цяпер у гадах, стаць сведкам ягонага ўзнаўлення. І толькі смаляныя пні ды яна вось будуць нагадваць, што некалі шумела тут, гнула вершаліны пад ветрам ладная баравіна. Дрэвы — тыя ж людзі, дарма што няздольныя думаць, хадзіць ды шкадаваць, усведамляючы сваё часовае знаходжанне на гэтым свеце. А лёс у іх, бадай, аднолькавы з чалавекам. Пастаяць, пашумяць, і годзе! Калі не самі струхлеюць, то ўжо, няйначай, прыдадуцца на нейкую патрэбу. На дрэва знойдзецца чалавек з сякерай, а на чалавека — свая трасца, а то, глядзіш, і сам чалавек пойдзе на чалавека, як і ў гэтую вось вайну!..»

Думаючы так, Чубар непрыкметна для самога сябе пратупаў амаль сярэдзінай высеку. На краі яе, у засені арэшніку, прыкрытага зверху яловымі шатамі, стаялі буданы. Яны мелі выгляд адмысловага чалавечага жылля, але без людзей. Толькі ў адным будане, у самых галавах, на сене ляжала чырвонаармейская пілотка. Чубар дастаў яе, падчапіўшы на мушку вінтоўкі, патрымаў у руцэ і зноў кінуў на месца. За гэтым буданом віднелася яма, заваленая ватай і акрываўленымі бінтамі. «Значыць, мела прыпынак тут нейкая медыцынская часць»,— здагадаўся Чубар. Звычайна, не паспее такая часць атайбавацца на месцы, а вакол ужо вырастаюць знаёмыя з дзяцінства грудкі, дарма што без крыжоў ды стаўбункоў. На адну такую стаянку Чубар набрыў яшчэ за Іпуццю. І тады найперш

кінуліся ў вочы яму бліз дарогі буданы. Але тыя былі зроблены з разлікам не на адзін дзень,— кожны будан, быццам раскручаным рулонам, накрываўся (і з бакоў, і па вільчаку) яловай карой, так што ў сярэдзіне чалавеку не страшна была не толькі звычайная слата: праліўны дождж не мог прабіць кару. Чубар памеў намер нават заначаваць у адным з буданоў. Ды дарэмна — неўзабаве адчуў трупны пах, потым згледзеў трохі збоч парасцяганыя вакол чалавечыя канечнасці. Варта было Чубару павадзіць вачамі ды ўцяміцца трохі, як стала зразумела: тут дактары аперыравалі раненых, і гэтыя канечнасці — рукі і ногі — скідвалі санітары ў яму, і вось нехта адкапаў яе, тую яму, можа, воўк ці валачашчы сабака. Няцяжка было зрабіць вывад — той, хто з гэтакай ахвотай раскапаў яму, няйначай, пакаштаваў чалавечыны. Дык паспрабуй, абначыся тады адзін у будане!.. Уцяміўшы гэта,— а перспектыва на самой справе была не толькі незайздроснай, але і вельмі жахлівай,— Чубар жахнуўся, сігануў прэч ад тых буданоў. Больш таго, неадчэпная думка, што недзе бегаюць звяры-людаеды, прымушала скаланацца і многа пасля. Праўда, днём утрапёнасць не даймала, бо навошта тады насіць пры сабе вінтоўку, затое кожны раз пад вечар, як толькі выпадала шукаць прытулку пад адкрытым небам, лічы, першая трывожная думка была пра гэта...

Але цяпер магілак каля буданоў не было.

Нібыта супакоены гэтым, Чубар вярнуўся ў думках да сваіх пошукаў. Ён добра арыентаваўся вакол — бадай, гэта быў адзіны куток ва ўсім забяседскім лясным абшары, які Чубар няблага-ткі ведаў, бо не адзін раз хадзіў сюды з Верамеек у Мамонаўку. Таму яму не складала вялікай цяжкасці адшукаць акурат тое месца, дзе ўцякаў праз ельнік ад ласяня. Зразумела, спадзявацца, што звярок усё яшчэ стаіць ды чакае яго, не выпадала, аднак Чубар яшчэ ў Мамонаўцы разважыў — няйначай, небарака будзе блукаць паблізу, калі, вядома, не ўблытаўся за кім іншым. Ды дарэмна. Колькі ні сноўдаўся Чубар вакол знаёмага ельніку, нават слядоў нідзе не пабачыў. Усё роўна як і ў тую раніцу, ласяня не прыбягала сюды. Але ж Чубар за сабой прыводзіў яго! Быў сэнс выбіцца бліжэй да возера, хоць адсюль пачыналася балота, і да самага берага туды давялося б ісці па гразі. Таму Чубар пабрыў кра-

ем балота. Але акрамя птушыных крыжыкаў па-ранейшаму нічога не траплялася і тут. Намацаўшы ў кішэні акраец, які вынес яму Міхалка з хаты, Чубар адшчыкнуў мякішу, кінуў здалёку ў рот. Дзіўна, але і цяпер есці яшчэ не было апетыту, і ён колькі катаў мякіш без усялякага смаку, аж пакуль не праглынуў яго супраць жадання. Пасля зноў машынальна палез у кішэню, гэтаксама адшчыкнуў трыма пальцамі ад акрайца, паклаў у рот. Такога занятку якраз хапіла яму, каб дапяць да наступнай дарогі, што кіравалася з Верамеек у Гончу, амаль паралельна мамонаўскай. Тут Чубар нарэшце спыніўся, стаўшы пад бярозай, якая нізка схіляла старое вецце, утвараючы з яго гатовы шалаш. Угары над дарогай аднастайна шумелі дрэвы, а недзе ў гушчары крычалі, быццам гандляры на рынку, сарокі, якіх хтосьці палохаў альбо раздражняў знізу.

«Што, калі наведацца да лупільні?» — прыйшла Чубару думка, і ён раптам узрадаваўся ёй: не тое, што зноў памеў надзею адшукаць ласяня, хапала самой ідэі ісці далей, урэшце, неяк жа трэба шукаць сэнсу рухацца.

Больш адчуваючы, чым нават усведамляючы сваю непрыкаянаць, Чубар хоць і дужа марудна, але ўсё далей адыходзіў ад бярозы; топчучы леташнюю заваль, ён сігаў напрасткі і амаль наўздагад, бо прыкладна ведаў, як трапіць адсюль на тую грыву, дзе была хатка-лупільня, галоўнае, не ўзяць цяпер, праступочы наўздагад, дужа ўправа, бо тады, няйначай, апынешся блізка ад вёскі, а то і зусім выйдзеш на крайнія хаты; гэтая перасцярога ўсё роўна як была закладзена Чубару ўсярэдзіну яшчэ раней, таму ён, лішне не турбуючыся, і рухаўся ўвесь час з папраўкай на такі даварот. Толькі ў адным месцы давялося крута збочыць — там пачыналася маладая сасновая пасадка, праз якую дарэмна было спадзявацца нават прапаўзці на карачках. Убачыўшы яе, Чубар, быццам губляючы раўнавагу, тут жа скочыў у вузкую межавую канаву, самае дно якой было завалена пасохлай ігліцай. Пайшоў ён па гэтай канаве, бы па глыбокай разорыне ў полі, нязвыкла стаўляў ногі пяткай да наска, усё роўна як цаляў патрапіць на выцягнуты прут. Нарэшце канава вывела да балацявіны, парослай па краі высокай і мяккай хвалістай травой, якая здараецца ў глухім цені. Тут сасновы зараснік сыходзіў на клін, і

далей ужо льга было зноў ісці без перашкоды. Абмінаючы не згарэлыя, можа, некалі прытушаныя ліўнем лаўжы, што чарнелі, бы старыя начлежныя вогнішчы, на залужаным грудку, Чубар апынуўся паміж балацявінай і рослым ядлоўцам. А далей недзе ўжо меліся быць тыя сіўцовыя лагі, якімі дабіраўся да хаткі-лупільні Чубар і тады, у першы вечар, як вярнуўся са свайго вымушанага падарожжа. Скрозь па ядлоўцы зямля выглядала быццам папорканай, але не цяпер, а даўно, бо паспела ўдзірванець. Калдобіны былі неглыбокія, у адну рыдлёўку, затое шырокія, акурат гайны, што часта ўбачыш пасярод сялянскага двара, а то і проста на вясковай вуліцы ў дажджавой калёжыне. Такое маглі нарабіць па сваёй ахвоце толькі дзікі. Але наўрад ці яны, бо, як помніць Чубар, за гэтыя гады, што давялося жыць у Верамейках, нават мясцовыя паляўнічыя пра іх ніколі не азваліся. Другі раз Чубар, можа, і не заўважыў бы гэтых старых калдобін, але цяпер яны чамусьці бы назнарок кінуліся ў вочы, і ён ажно спыніўся на грудку, акурат у вялікім здзіўленні,— вось ужо нечая праўда, што вольнаму часу не займаць! Тут ён і ўбачыў на ладнай прагаліне, паміж ядлоўцавых кустоў, ласяня, ззаду, крокаў за колькі ад ласяня, стаяў, наважыўшыся на яго, воўк... Ласяня мела вельмі нязручную позу — трымалася на каленках, быццам перад гэтым хтосьці піхнуў яго, і пярэднія ногі ад штуршка падламаліся. Але драпежнік чамусьці не нападаў на высачаную ахвяру, усё роўна як забаўляўся чужой бездапаможнасцю. Каб не паскорыць драму, якая вось-вось мелася разыграцца тут, Чубар ажно замёр на месцы, адчуўшы ўмомант, што пацяжэлі ногі. Правай рукой ён паволі зняў з пляча вінтоўку, нячутна падхапіў вышэй патронніка левай і ўжо гатовы быў прыставіць яе прыкладам да пляча, каб цэліцца, як раптам воўк зварухнуўся і неяк дзіўна, бы ламаючыся ў хрыбціне, віхлянуў задам, акурат падаючы на зямлю. Але гэтым ён толькі зрабіў уражанне. Драпежнік быў дужа нямоглы, таму не толькі не меў спрыту па-звярынаму скочыць да сваёй ахвяры, але і звычайна хоць трухам падбегчы. Гэта быў той стары воўк, якога надоечы бачыў Зазыба, калі вяртаўся з Бабінавіч. Недзе там нямоглы драпежнік і напаткаў ласяня. І вось яны хадзілі цяпер адзін за адным па лесе — нямоглы воўк, які няздольны быў насціг-

нуць сваю ахвяру, каб наталіць даўні, ужо закарэлы ў жываце, голад, і гэтае бездапаможнае трапяткое ласяня, што ўсё не давалася яму, кожны раз гатовае ўскочыць на ногі і зрабіць некалькі стомленых крокаў. Але гэтых крокаў якраз і хапала, каб уратавацца.

Хоць самому Чубару дасюль і не даводзілася сустракаць у ваколіцах Верамеек ваўка, аднак ён не раз чуў пра яго ад вяскоўцаў.

Між тым, воўк зрабіў некалькі канвульсіўных рухаў, скалынаючыся пры гэтым усім целам — ад хваста да галавы, тады аблізнуўся, нібыта мазнуў па шчацэ кавалкам сырога мяса, і заціх.

Амаль дакладна на столькі ж падалося наперад ад яго і ласяня. Няйначай, яно ўжо добра вывучыла павадзіны свайго мучыцеля, таму адразу ж, як той перастаў рухацца, шмякнулася на пярэднія каленкі, прымаючы ранейшую позу.

Чубар і цяпер яшчэ не выдаваў сябе, хоць даўно ўжо сцяміў, што нават калі і наробіць гуку, то ўсё роўна нічым не пашкодзіць ласяняці, не паскорыць драму. Тым больш не збіраўся ён пасля ўсяго, што ўбачыў, страляць. Разважыў: «Ці трэба наогул забіваць гэтага няшчаснага ваўка?» А разважыўшы так, апусціў вінтоўку, пастаяў яшчэ трохі, нібыта ў здзіўленні, што здараецца ў жыцці і такое вось, затым таропка збег па грудку ў нізіну. Не разбіраючы пад нагамі частых калдобін, ён заспяшаўся да таго месца, дзе цікавалі адзін за адным воўк і ласяня. Але, узышоўшы на прагаліну, Чубар нават косы позірк не кінуў на ваўка, быццам пагарджаў ім ці наперад ведаў, што пасля будзе гідка ад аднаго выгляду гнойных вачэй яго. Без усялякае перасцярогі ён тут жа падышоў да ласяняці. Убачыўшы Чубара, тое не ўскочыла і не памкнулася ўцякаць, наадварот, зусім цупнулася на зямлю, усё роўна як і праўда зразумела, што са з'яўленнем чалавека прыйшло збавенне.